# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

№ 11

1933
ЛІСТАПАД

КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА
І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ
І КРЫТЫКІ

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА
САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР



КНІГА АДЗІНАЦЦАТАЯ




ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛІМ
МЕНСК 1933

АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ

## ВЕКАПОМНАЯ ВОСЕНЬ

„Хто быў нічым,
Той стане ўсім!"

Жыў Янук і з году ў год
Гараваў.
Пасвіў скот, кулацкі скот
Гадаваў.
Аддаваў ён кулаку
Маладосць.
Лёс пакінуў Януку
Злосць.

А было, любіў Янук
Гром грымучы,
Дый любіў жалейкі гук
Мілагучны.
І парой у забыцці,
Каля гаю,
Аб сваім благім жыцці
Заспявае.
Песня хлопцу сэрца раніць,
Ой, расчуліць.
Ён-жа вырас на байдане
Без матулі.

І хвілінай летуценнай,
Быццам сон,
Марыць, што, як птах праменны,
Ўзвіўся ён.
Вось на крыллях мар юнацтва
У добры час!—
Хоча з праўдай ён спаткацца
Хоць бы раз.
А ў якой яна старонцы?
Дзе той пуць?
Ты скажы, вандроўнік сонца,
Добрым будзь.

Шмат краін Янук мінае.
Ой, дарма.
Праўду кліча ён, гукае—
І няма.

Рэжа крыллем сакаліным
Неба шоўк.
Праўду родную ў краінах
Не знайшоў.

Вось у думках бачыць горы,
Выспу скал.
А ля гор бушуе мора,
Грозны вал.
І здалося, вось маячыць
Гнеў-скала.
Праўду тут Янук убачыў,
Тут жыла.

Падышоў і так нясмела
Ў першы раз.
Праўда ветліва сустрэла
Веем ласк.
Сеў, як з маткай, з праўдай разам.
Пра свой лёс
Гаварыў Янук, расказваў
Мовай кроз.

І расказваў доўга, дбала
Казку-быль.
Слова кожнае ўставала
На дыбы.
Праўда слухала, і ў вочах
Кроплі слёз.
Шмат Янук жыццём сірочым
Перанёс.

Поўз густой сцяной аднекуль
Статак хмар.
Давіць грудзі сіла здзеку,
Як цяжар.
Праўда слухала, стаіўшы
Гневам дух.
З дзідаў сказ нядолі вышыў
Наш пастух.

І сказала праўда: „Хлопча,
Прыдзе восень,
Быць таму, чаго ты хочаш,
Што ты просіш.
Прыдзе восень, новым светам
І не госцем.
Люд такой не знаў дагэтуль,
Наша восень!..“

І яшчэ сказаць хацела,
Дый з-за гор
Хмар навала загудзела,
Выў віхор.
— Праўда, дзе ты?...
След загінуў,

Знік, няма.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ой-ты, слаўная хвіліна,
Слодач мар...

Каля выгана на ўзлессі
У хмызняку
Ружай свет здаецца ў песні
Януку.
Восень прыдзе, ёй скарыцца
Хціўны шквал.
— Дзе вы, гнёзды навальніцы,
Выспа скал?..

Водзіць думак сонцалітых
Карагод.
Не дагледзеў, травіць жыта
Уласны скот.
Віхрам быў Янук ускочыў:
— Ой, бяда.
Перад ім, не верац вочы,
Гаспадар!

Янука кулак дубінай
Каласіў
І таптаў, як тую гліну,
Колькі сіл!
Біў ён з ярасцю зацятай,
Люта біў,
Збіў да смерці і ўжо ў хату
Не пусціў.

Ледзь устаў, пралежаў ніцам
Да зарніц.
Ледзь падпоўз ён да крыніцы
Кроў абмыць.
А закат з агню праменняў
Звіў вянок,
І, як сейбіт, шчодрой жменяй
Сеяў змрок.

II

Варам салоным ад слёзаў былі—
Міналі дні.
Скрогатам жвіру курганнай зямлі—
Міналі дні.

Роспаччу лётаў па свету смерч,
А дні ішлі.
Слалася мостам свінцовая смерць,
А дні ішлі.

Выла зямля ад грымот пяруна,
Стагналі дні.
Вілася свістам крыві вайна,
Стагналі дні.

Грознае тут пачалося яно—
Паўсталі дні!

Ленін праз вогнішчы вёў стырно,
Уздрогнула мора людскога дно,
Праўды ўзышло агнявое зярно,
Гневам рунела ў вачах яно,
Уздыбленай сілай шугалі агні,
Паўсталі дні!

III

А праз гады, праз радасць і самоту,
Праз жах і роспач катавых налётаў,
Праз партызанскую гарэзную адвагу,
Праз чад пагроз, праз голад і знявагу,
Праз дні і ночы ўпартасці і мук,
Праз лямант скона дзедаўскіх палосак,
Праз хціўны зман кулацкіх падгалоскаў—
Вялікай праўды
Творцам стаў Янук!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...Янук узрушаны, ён чуў сябе героем,
Патолі заваёванай ён рад.
І нават весела сыпучай мітульгою
Цярушыцца пажоўклы лістапад.

Янук узрушаны. Ён рад свайму калгасу.
Работ цяжкіх прайшла гарачыня.
Не быць узрушаным, і радасным, і шчасным
Не мае права добры старшыня!

Калгасным табарам пакошаны і зжаты
Шаснаццатага лета ураджай.
Пачэсны кут займае ў светлых хатах
Заквашаная хлебная дзяжа.

А дзе-ж было яно, калі, ў якіх краінах,
Змардованаму працай бедняку
Каб дар зямлі быў хлебам без мякіны,
Каб восень скарбам слалася ў таку?

Вядуць абоз... Плыве разліў баяна...
— Шырэй вароты, ўдарнік-гаспадар!
І ў ветлых вокрыках таварыскай пашаны
Сваіх работ прымае плённы дар.

Штандары—золакам над хатаю ірдзеюць.
А чуткі-гутаркі легендамі раслі.
Эх, чорта-два! Такой яшчэ падзеі
Не ведала гісторыя зямлі.

Сказаў—гісторыя? Ці-ж з намі ёй зраўняцца?
А старцы-лірнікі, а старцы-дудары
Як цудам здзіўлены, што ў панскія палацы
Калгаснай хаце звозяцца дары.

Янук узрушаны, ён чуў сябе героем,
Паголі заваёванай ён рад.
А як не ўзрадавацць? Упартасцю сваёю
У спісках гонара займае першы рад.

У грудзях—прыбой агня,
А ў вачах—трывога.
Асядлаў Янук каня,
Як струна—дарога.

Вецер клоніць строй прысад,
Свішча ў полі зжатым.
Едзе хлопец да дзяўчат,
Хлопец едзе ў сваты.

Адцвіталі тапалі
Беласнежным цветам.
Ехаць трэба, а калі
Як не ў баб'е лета?

Покуль зладзіш добры лад
Справы гаспадарскай—
Ой, не ўспомніш пра дзяўчат,
Пра пяшчотнасць ласкі.

Дні і ночы напралёт
Бег работ вірлівы.
— Гей, давай паскорым ход,
Конь мой белагрывы.

У грудзях—прыбой агня,
А ў вачах—трывога.
Пад капытамі каня
Як струна—дарога.

Бывае так: ты думаеш адно,
Інакшае здараецца на справе.
Янук раздаў калгаснае зярно,
Янук даўно падатак здаў дзяржаве.

А тут... прыехаў—дзівіць сумятня,
Сабраны хлеб злачынцы замачылі.
Як птах падбіты, скача старшыня,—
Не ўпільнавалі, нашкодзілі, зглумілі.

Па вёсцы ходзяць бабы і бурчаць:
— У пуні хлеб, а ў хаце ні скарынкі...
Янук збіраўся, марыў пагуляць,
Янук чакаў вясёлай вечарынкі.

І смех, і злосць! Завяў вянок надзей.
Людзей атручвае дасада і цярплівасць.
Рука зладзейская калгаснай грамадзе
Жахлівай шкодай сеяла прарывы.

Крывёй гарачай гнеў людскі крычаў.
Шукаюць ворага... А ў полі зловіш вецер?
Ужо дамоў пастух скаціну гнаў.
Як цені, моўчкі споўдаюцца дзеці.

Над лесам з'яў праменных горнаў круг,
Блакітны дзень стамлёны ў цьму нырцуе.
— Мо' закурыць дасі?—пытаецца пастух,
Янук прыветліва махоркаю частуе.

Разгаварыліся. А ўжо згусціўся змрок.
— Бяда, браток, снуе па пятах голад...
Янук застыў. Не ўздрыгне пільны зрок.
Янук задумлены. Яму знаёмы голас.

І валам кроў у жылах загула.
Не можа быць?
Ды гэта ён, бясспрэчна!
Пастух заёрзаў, звяў, стаў чорны, як смала,
Ад нежаданае раптоўнае сустрэчы.

— Я-ж чуў, што ты жывеш у Салаўках?
Глядзіш, спаткаліся... Прымай маю падзяку.
Я—твой пастух! Ты помніш Янука,
Якога збіў і выгнаў, як сабаку?

Я дзякую за горкай долі дні,
За здзек, за слёзы, сукін сын, за гора!
Як лоўка скуру воўчую змяніў,
Патомак ліха, не дабіты вораг.

Твае шляхі, твае сляды ў крыві.
Дабру людзей ты шалам помсты шкодзіш.
Я за руку цябе-раз'юшаны злавіў,
Прымай прысуд, народнай долі злодзі!

Ты сапуном падкапваеш, што крот,
Падмурак росквіту сваім крывавым лычам.
Хадзем... пастух, убачыць хай народ
Тваё сапраўднае кулацкае абліччча.

Глядзіш у вочы мне? Ты гнешся мне чалом?
А сілу даць табе—зальеш мне вочы воцтам.
Я—быў слуга, ты быў—гаспадаром,
Цяпер ты золь, а я—змагар і творца!

Ой, помню дні, калі ў палоне мар
Шукаў я выспу гнёздаў навальніцы.
А сёння, глянь—на ўвесь зямлі абшар
Красуе колас праўды большэвіцкай.

Як ліст, калоцішся? Страхніся, ў далеч глянь,
Апошні корч праклятае старызны,—
Гарыць жыцця Кастрычніцкая рань,
Гарыць зарой жыццё соцыялізма!

Пануе восень. Сталі мы людзмі.
Гудзе зямля ўладарным нашым крокам...
Гады далёкія, лятункаў слаўны міг,—
Быў голас праўды мудрасцю прарока.

Пяе ўрачыста восень перамог,
І гукі гімна льюцца ў свет здабыты.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Яны ідуць. На суд. Ідуць удвох—
Адзін усцешаны, другі тугой спавіты.

IV

Песняй росквіту і славы,
Песняй мужнай, ваяўнічай
Ходзіць сонечнаю явай
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

А была ў няволі зданню,
Лятуценнем таямнічым.
Сёння ў вогнішчах змагання
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Дзе імгліла твань балотаў,—
Каласіцца сад пшанічны.
Радасць спелай пазалоты
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Кліч комуны шле народам
Большэвіцкай пераклічкай
Новых фабрык і заводаў
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Ходзіць светам, ходзіць явай,
Шлях пад сонцам безгранічны,
Наша песня,
Наша слава,
Наша восень—
Наш Кастрычнік!

Менск. 1933 г.

---

БАРЫС МІКУЛІЧ

# ДУЖАСЦЬ

## УСТУП

Заставамі і вагзаламі, азіяцкімі лініямі пляцаў, вуліц і завулкаў, спехам прыгладжаная і ўпрыгожаная шыльдамі, бліскучымі вітрынымі магазінаў, нязвыклымі людзмі на панелях, што раптам адчулі велізарную прагу да жыцця, бо было гэтым людзям дадзена піць напоўнены па венцы келіх, есці ўсімі прыгаршчамі, туга напакоўваючы рот ежай, стогнам-гудам званоў Спаскіх,— заусёдная, а здавалася зусім новая і незвычайная, стрэлася зноў тымі часамі Барысу Краўчанку Масква.

Вось яна:—

Мясніцкімі ды Мяшчанскімі, Прачысценкамі ды Ражджэсцвенкамі, Трубнымі ды Крымскімі, Ахотнымі ды Сухаравымі,—зігзагамі, роўналежнасцямі, трыкутнікамі пляцаў, вуліц і завулкаў свеціцца цяпер незлічоным мноствам агнёў—рознай велічыні і рознай зыркасці.

Вось яна:—

шархатаннем, гаманой, гудам, звонам, пярэклікамі б'ецца ў вушы,—і дзікі вэрхал гэтых гукаў прымушае хутчэй і хутчэй біцца сэрца—та-та, та-та-та, та-та-тах!—соладка, як у маленстве, сціскаецца сэрца, і хочацца скакаць, куляцца ад радасці, пляскаць у далоні.

Але людзі, людзі! Гэта нешта зусім нечаканае, новае, крышачку чужое. Хіба яны—гэтыя людзі—стаялі ў чэргах па скупы паёк, хіба яны ўтаймоўвалі пляцформы цягнікоў, хіба яны былі радыя, як сонцу, прапаленай „буржуйцы“, хіба іхным гімнам было: „Цыплёнак жарыны, цыплёнак варыны, цыплёнык тожы хочыць жыць!“

„Цыплёнак тожы хочыць жыць!“.

Хо-хо!

Вось гэтыя цыплёнкі—на вуліцах, на пляцах, у трамваях, у аўто, у кіно і тэатрах. Яны занадта шыкоўныя, гэтыя цыплёнкі, элегантныя і напамаджаныя—аж дух ад памады, духоў і пудры стаіць над натоўпам. Цяжкі, даўкі, здаецца—нагэтулькі магутны. што і небакрай адступіўся занадта-ж далёка.

Небакрай адступіўся занадта-ж далёка...

...Тады, у абледзянелым, абснежаным і абветраным стэпу небакрай быў таксама далёка, небакраю не было, бо—як вокам кінуць—снег, снег... І крычаў Краўчанка—як было сілы, на поўны

голас, і не было рэха, хоць-бы слабенькага рэха—вецер, вецер, вецер... І таварыш сказаў: „Выбіцца. Мы мусім выбіцца!“ І—напружаны цягліцы, сцяты зубы, да максімальнай хуткасці працуе мозаг, і б'ецца па венах кроў...

— Таварыш, вы ў чарзе?

Барыс Краўчанка ўзняў вочы і ўбачыў перад сабою асветленыя дзверы, вялізныя люстраныя дзверы, безліч людзей.

— Так, я ў чарзе.

З білетам у руцэ ён прайшоў залу, і толькі тады знайшлася патрэба прагледзець праграму.—„Куды-ж я трапіў? Вось дык прыгоды“.

Шыкоўныя люстраныя дзверы глядзелі на Краўчанку дзесяткамі ягоных адлюстровак, натоўп людзей множыўся ў гэтых люстрах—і, здавалася, натоўп ідзе на натоўп, крычыць, размахвае рукамі, і вось-вось адбудзецца страшная сутычка.

Але яе не было.

Краўчанка неўзабаве асвойтаўся, а, агледзеўшы сябе ў гэтых люстрах, знайшоў, што шынель ягоны не такі ўжо і стары, праўда—крыху памяўся ў вагоне, трэ' было-б скатаць, тады-б разгладзіўся.

Тры разы пагаслі і запаліліся зноў велізарныя жырандолі—і тры разы ўзнікала на стале зыркая вясёлка. Трапіўшы ў людскую строму, Краўчанка апынуўся ў канцэртнай зале. Знайсці месца дапамагла маладая танклявая білетэрша, і, сеўшы, Краўчанка пагрузіўся ў чытанне праграмы.

Першае аддзяленне канцэрта складалася з розных сольных, музычных і вакальных нумароў, а пад надпісам—„Другое аддзяленне“ адно толькі і зазначалася:

Эльга Райх і Станіслаў Даленга,
артысты дзяржаўнага акадэмічнага тэатра
оперы і балета.

І, прачытаўшы гэта, Краўчанка ўспомніў, што бачыў скрозь па вуліцах, едучы трамваем з вагзала, велізарныя афішы з двума скупымі прозвішчамі: Эльга Райх і Станіслаў Даленга. У гэтых скупых афішах быў выразны сэнс: горад ведаў, чые імёны стаяць на афішы, горад вечар у вечар плыў натоўпамі людзей у велізарную канцэртную залу вар'явацца, упізаючыся вачыма ў постаці гэтых двух актораў, асыпаць іх кветкамі і воплескамі.

Праз усё першае аддзяленне чулася ў зале гамана, час-адчасу звінеў смех, даносілася шархатанне крокаў, відаць было, што людзі прышлі сюды для таго, каб усю сваю ўвагу аддаць другому аддзяленню, адчувалася, што яго—і толькі яго—чакала зала.

Пасьля антракта ў зале панавала ўрачыстая цішыня. Краўчанка адчуў подых прагнай увагі і, сам не прыкмеціўшы гэтага, паддаўся ўладзе гэтай тэатральнай урачыстасці.

І, сапраўды, гэта было ўрачыстасцю.

Пагасла святло. Зырка заззяла рампа. Машастовая заслона набыла таемныя адценні. Дырыжэр стаў за пульт, выцягнуў правую руку, прыцягнуўшы гэтым самым увагу ўсёй залы. Узмах рукі—і гром, і магутны ўзлёт гукаў, і канвульсія заслоны, і глыбокі—аднадушны—уздых усёй залы, і дзве постаці—лёгкія і казачныя... дзве постаці з паэтычнымі імёнамі: Райх і Даленга.

Так. Гэта быў хмель мастацтва, урачыстасць музыкі і рухаў, стаўшая зразумелай усім прысутным гаворка мімікі і трэніраванага цела. Але вось казачныя постаці зніклі, і зала вар'яцее ў крыках і воплесках. Тады ўзнікае традыцыйны канферанс'е:

— „У белым палоне". Імправізацыя Станіслава Даленгі.

Гэта не казачная постаць, што была толькі што перад вачыма залы. Гэта не чароўны лёт трэніраванага цела. Вось ён—звычайны чырвонаармеец. Ён трапіў у палон. Яму трэба выратавацца. Ён хітруе. Ён танцуе перад тымі, хто ўзяў яго ў палон. Яны хмялеюць ад танца, яшчэ хвіліна—і палонны пераможа.

Нешта незразумелае рабілася з Краўчанкам. Ён да болю моцна ўхапіўся пальцамі за ручку крэсла. Целам ішла дрыготка. Вочы бліскалі, як у вар'ята. Паддаўшыся ўсім тулавам да сцэны, Краўчанка сцятымі вуснамі шаптаў:

— Ён! Ён!

Зноў шалела зала. Зноў грымеў аркестр. Зноў уладарна ўзнімалася правая рука дырыжэра..

І Краўчанка не вытрымаў. Эльга Райх яшчэ лётала па сцэне, нібы мроя, а Краўчанка, прыгнуўшы галаву, выбіраўся з залы.

— Ён! Ён!—шапталі вусны.

Толькі ў пустым і прасторным файэ прышоў водум. Краўчанка хвіліну стаяў нерухома. Потым абцёр спацелы лоб рукавом шыняля, без дай прычыны паглядзеў у люстра. І тады цвёрдымі крокамі пашоў да дзвярэй акторскай прыбіральні. Яго прыпыніў швейцар:

— Уваход забаронены, таварыш.

Краўчанка паглядзеў паўз лысую швейцараву галаву.

— Мне да Даленгі па пільнай справе. Прапусціце!—спакойна рукой адвёў швейцара і бразнуў дзвярыма.

— Першы пакой злева,—даляцелі да яго словы здэтанаванага швейцара.

І дзверы першага пакою злева адчыніў Краўчанка гэткім-жа спакойным і ўладарным гестам. Увайшоў.

Станіслаў Даленга стаяў перад люстрам і здымаў грым. У люстры ён ўбачыў прышоўшага чалавека ў шэрым памятым шынялі і ўбачыў тое, як гэты чалавек упіўся вачыма ў ягоную спіну. Не кратаючыся з месца, здымаючы грым:

— Вам што-небудзь трэба, таварыш?

Чалавек у глыбіні люстра ўсміхнуўся—неяк асабліва таемна.

— Мне хацелася сказаць, што вы па-майстэрску выконваеце імправізацыю.

Даленга ўздрыгануў, і рука, не дацягнуўшыся да банкі з вазелінаю, застыла ў паветры.

Даленга крута павярнуўся да Краўчанкі. Колькі хвілін дзве пары вачэй былі ў маўклівым спаборніцтве. Нязвычная бледнасць разлілася па Даленгавым твары—і напружана, штучна-ціха:

— Што-ж... вялікая трэніроўка...

Краўчанка падышоў бліжэй, узяў Даленгу за руку і засмяяўся яму ў твар.

— Які ты дзіўны стаў, Юткевіч... Яй права, дзіўны...

Вырваў руку. Адышоў. Узяў банку з вазелінаю і сцяў зубы, каб стрымацца. Дробненька дрыжэла рука з банкаю.

— Я не разумею вас, таварыш. Вы... выпілі, ці што?

— Не пазнаеш? А я цябе пазнаў, і адразу, разумееш—адразу. Помні, Стась, у Краўчанкі памяць добрая... Ён рэдка памыляецца... А яшчэ радзей—забываецца...

— Не разумею, чаго вы хочаце?

З залы несліся чароўныя мелядычныя гукі музыкі. Там, пад гэтыя гукі, танцавала Эльга Райх, яго, Станіслава Даленгі, партнёрка. Там быў бляск эстрады. З гэтага бляску быў ён выхаплены нечаканым прыходам гэтага чалавека, што вярнуў Даленгу да свету занадта рэальных рэчаў.

— Я не ведаю вас,—дрогка сказаў артыст.—Я вас ніколі... не сустракаў... Я... я не помню гэткага...

Абарваў рэзка:

— Не помніш? Тым горш для цябе, Стась. Паслухай. Так і быць. Я табе напомню!—І Краўчанка сціснуў зноў Даленгаву руку, і бледнасць Даленгавага твара зрабілася войстрай і хваравітай.—Помніш?

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Адвячоркам прышлі з поўначы цяжкія хмары, авалодалі ўсім небам, з поля ўварваўся ў гарадок вецер, зашастаў акраўкамі палотнішчаў, застукаў акяніцамі, застагнаў, забразгаў сухім голлем дрэў. Хмары прышлі і прыпыніліся над гарадком, сыпануўшы мяцеліцай. У мяцеліцы нарадзілася ноч. Вецер урываўся з поля на шырокія вуліцы, нібы ўспененая тройка спуджаных коняй. Снежны пыл, падхоплены ветрам, узнімаўся над зямлёй, круцячыся варонкамі. Раслі стугіры, пухкія і сухія: быў мароз, мінус дваццаць па Рэамюру. Менавіта гэтую лічбу—мінус дваццаць градусаў—паказваў вялізарны тэрмометр на вакне аптэкі. Жывое срэбра ў тэрмометры падала ніжэй і ніжэй. Потым у вакне пагасла святло—і вуліца захлынулася густой, колкай цемрай. Нізенькі аптэкар, наставіўшы каўнер дэмісезона, пабег дахаты, прытанцоўваючы ад холада. Снежны пыл заслаў ягоную постаць.

Вуліца асірацела.

Толькі вецер застаўся на ёй. Толкі снежны пыл узнімаўся варонкамі над зямлёй, толькі мяцеліца ладзіла вар'яцкае сваё йгрышча.

І тады, калі згасла святло ў вакне аптэкі, Станіслаў адчуў, што холад і сапраўды дужа вялікі, і, бадай, не можна доўга стаяць на адным месцы—замерзнеш. Вінтоўку ўзняў на плячо і пачаў хадзіць уздоўж склада. Хада прыспешвалася і прыспешвалася, але адначасова люцеў і мароз. Тады Станіслаў пачаў прытанцоўваць, як аптэкар, няўхлюда і смешна.

„От-бы збоку зірнуць",—падумаў ён і моцна зарагатаў.— „Вясёлае відовішча!" Ён адчуваў, што лоўка падрабіў сваю постаць пад аптэкара, і яму зрабілася весела. „Аджа не такі ўжо і мароз",—мільгнула думка. Ён уявіў, як аптэкар, згінаючыся, прытрымлівае рукою крысо дэмісезона, як палахліва мацае аптэкар свой ахаладалы нос, як расцірае рукамі вушы. Станіслаў рагатаў, і ягоны твар і ўсё цела палыхала гарачынёй.

Але скора ён выбіўся з сіл. І тады пачаў прыдумляць больш спакойныя і павальнейшыя рухі. Ён проста танцаваў вальц: раз-два-тры, раз-два-тры, тры простых „па" па мёрзлай зямлі, па снежным пыле, пад музыку мяцеліцы.

Ён рэзаў сваім целам вецер, і вецер, здавалася, люцеў яшчэ больш: злосць была ў ветра на няўрымслівага хлапца. І вецер саступіў, вецер, здавалася, скарыўся Станіслававаму танцу. І ў прыцішак—Станіслаў учуў: крокі. Ён прыпыніўся, умомант зняў з пляча вінтоўку, напружыў зрок.

— Хто ідзе?

— Свае,—праз снежны пыл.

— Хто ідзе? Адказвай.

— Свае,—слабым водгаласам.

— Стой! Страляць буду!—і Станіслаў узяў вінтоўку наперавес.

У цемры пачуўся рогат.

— Прызнавайся, сукін сын, спужаўся, га?

— Надварот, танцаваў.

Краўчанка падышоў да яго.

— Што? Танцаваў?

— Ну, але. Вальц „Майскія мроі". Паглядзі вось...—і Станіслаў, балансуючы вінтоўкай, плаўна і лёгка паплыў па аснежанай панелі.

— Здорава!—рагатаў Краўчанка.—Ну, і штукар ты, Стась.

— Тут не ў штукарстве справа, а ў марозе!—Прыпыніўся перад Краўчанкам.—Ну, а ты чаго, Барыс, прышоў сюды? Спаць-бы ішоў.

Краўчанка, стаўшы спіной да ветра, запальваў запалку. Калі запалілася—хісткім агенчыкам—паглядзеў на гадзіннік: гадзіна начы.

— Ты спаць ідзі. Я за цябе пастаю.

— Но, но, ідзі!..—адказаў Станіслаў і ўспомніў, што дзве ночыківаўся ён на лядаштых сялянскіх санках, што зблудзілі

ў дарозе і толькі, як бралася на дзень, прыехалі ў горад.—Ну, ну...—мякка і ўступчыва.

Краўчанка ўзяў з рук вінтоўку, паправіў рамень, сказаў:

— Там у стале хлеб, ідзі... Я таксама „Майскія мроі" ўмею,—апошняе з дабратлівай іроніяй.

Свежы з тоўстай бліскучай скарынкай быў хлеб. Яго было з фунт. Станіслаў зразумеў, што Барыс не вячэраў. Палову пакінуў для яго. Лёг, укрыўшыся шынялём. Зрабілася цёпла. І Станіслаў аж прыжмурыўся ад задавальнення.

Думалася, успаміналася:—

Круглячок святла плавае па стале. Нехта з дарослых, устаючы, крануў электрычную лямпу, і яна хістаецца: направа, налева. Адрываючы вочы ад кніжкі, бачыш: касцяны кручок у матчыных руках, а рукі гэткія-ж, як і кручок, белыя, здаецца—цвярдыя, касцяныя.

— Дзецям час спаць,—няўхільна гучыць у пакоі.—Дзеці павінны слухацца старэйшых.—Паўза на колькі хвілін.—Нельга злоўжываць чытаннем.—Маўчанне зноў.

У суседнім пакоі ледзь дыхае раяль. Гэта братава жонка, граючы, думае пра тое, як самотна і шэра праходзяць дні маладосці. Часам—ажываюць пад яе рукамі клавішы, чуюцца знаёмыя мелодыі—ах, гэта тое, што спяваюць салдаты, ідучы вуліцамі. Так, братава жонка думае пра мужа: ён на вайне.

— Дзецям час спаць,—пачынаецца спачатку.—Дзеці павінны слухацца старэйшых.—Вытрымліваецца паўза.—Нельга злоўжываць чытаннем, Стась.

Перад Рабінзонам паўстае Пятніца... З'яўленне таямнічай гэтай постаці надае большага пэнту. Хочацца чытаць, чытаць і не адрывацца. Перад Рабінзонан паўстае дзівосны Пятніца...

— Ксана!—Гэта да братавай.—Ксана! Які сёння дзень?

— Пятніца, мамачка,—неспадзеўкі ўступае ў гаворку Стась.

Уваходзіць Ксана, папраўляючы ў валасах шпількі.

— Сёння панядзелак.

— Не, Ксана, я не магу больш. Стась зусім не слухаецца мяне. Заўтра ён зноў будзе вялы на занятках, Паша і так на мяне злуе...

Ксана падыходзіць да Станіслава, з-пад самага носа забірае кніжку, мяккай рукой праводзіць па галаве.

— Ідзі, Стась, спаць,—безапеляцыйна, спакойна.

Стась вылазіць за-за стала, цалуе ў матчын лоб, тая хрысціць яго тонкімі пальцамі. Лежачы ў ложку, ён чуе, як прыходзіць дахаты бацька, шумна распранаецца, крычыць праз усе пакоі да маткі:

— Змарыўся... Уф, змарыўся! Гэтай старой ведзьме трэба ў багадзельню ісці, а не танцаваць. Ганьба, ганьба!

— Ціха, Паша. Пабудзіш Стасіка.

— Даўно лёг?

— Даўно,—маніць матка, і Стась праз сілу заплюшчвае вочы.— Ты зноў з Сабалеўскай танцаваў? Дарэмна злуеш. Яна культурная актрыса.

— Была, была калісці! А цяпер...—відаць, бацька разводзіць рукамі.—Ёй час на пенсію. Налі кавы. Дзякую.

— Ты таксама старым робішся, Паша.

— Я? О, мая мілая! Я яшчэ дужы. Я буду танцаваць у апошні раз тады, калі Стась будзе дэбютаваць на імператарскай сцэне. Запомні гэтыя словы. Ксана вячэрала?

— Не.

— Тужыць усё?

— Тужыць. Па Анатолю.

Станіслаў засынае.

Роўнядзь снежная. Гэта—улева ад вузкае дарогі. А з правага боку—цёмная сцяна нерушаў. Часам сцяны не відаць. Гэта тады, калі дзме з правага боку вецер, кідае ў твар калючы снег—і трэба заплюшчваць вочы.

— Не магу ехаць, не магу!..—каторы раз ужо кажа фурман, што сядзіць уперадзе.—Ніяк не ўзбіцца на дарогу,—неяк хітра, затоена.

— Едзь, едзь, дзядзька.

Так паўтараецца колькі разоў.

Потым фурман кідае лейцы, кароткім „тпрррү“ спыняе каня і, стоячы па калені ў снезе, цвёрда кажа:

— Што хочаш рабі, не паеду.

— Едзь.

Конь нават скрануўся ад Станіслававага голаса, а фурман стаіць, паўтарае зноў:

— Дзе гэта бачылі, каб гэткай завеяй ехаць. На дарогу не ўзбіцца.

— Што-ж рабіць? У полі стаяць загадаеш?

— Вярнуцца...

Станіслаў расшпільвае шынель, вымае з кабуры браўнінг, настаўляе яго на фурмана.

— Едзь!

— Зблудзім, таварыш, загінем!

— Ну, ну! Паганяй.

Едуць. Колькі разоў фурман паварочваецца да Стася, але вочы сустракаюць браўнінг, плечы дрогка кратаюцца, і галава глыбей ўваходзіць у іх.

Едуць. Фурман больш не паварочваецца. Станіслаў упэўнены, што стрэліць у яго ён не мог-бы, бо адубянелі ад холаду пальцы. Станіслава хіліць сон, але спаць нельга, заснеш—загінеш.

А вецер дзме—то злева, то справа, і папераменку бачыш: белую роўнядзь поля і чорную—глухую—сцяну нерушаў.

Заблісkалі—адзін, другі. Бачыць Станіслаў: жагнаецца фурман тры разы рукой у рукавіцы і пасля гэтага на каня крычыць:

— Каб табе долі не было, но, но!

Конь храпе. Конь пудка стрыжэ вушмі. А агні—бліжай і бліжай. Іх ваваt не злічыш. Агні сышліся ў ланцуг, застылі на момант, нібы да цемрыва прыраслі.

— Ваўкі, таварышу родненькі, загінулі,—заспяшаўся шэптам фурман, і Станіслаў учуў, як ляснулі ў яго ад пярэпалаху зубы.—Но, но! Весялей!—падбадзёрыў каня, выцяўшы пугай.— Стрэль, таварыш, толькі не ў іх, а ўгару.

Стрэл разарваў цішыню, сатканую цемрывам, снегам і ветрам. Ад усяе сілы ірвануўся конь—і панёс, і паімчаў, толькі вецер свістаў у вушшу, толькі снег, войстры ад шпаркага лёту, калоў твар пякучым болем.

Станіслаў расплюшчыў вочы: быў дзень. Убачыў Барыса. Ён стаіць ля вакна ў шынялі. Відаць, ягоны прыход і абудзіў. Але Станіслаў маўчыць, ён назірае за таварышом.

Барыс стаіць да яго напоўабаротам. Шынель расшпілены на ўсе гузікі, шапкі на галаве няма, і чорныя гладкія валасы паблыталіся. На шырокім ілбе—зморшчынкі. Пра нешта важнае думае Барыс, бо зморшчынкі нейкія асабліва глыбокія, дый вочы ўтаропіліся ў адну кропку, нібы прыкмецілі яны надта цікавую рэч. Вось Барыс узнімае правую руку і разгладжвае валасы, вось зімовае сонца кінула свой адлюстровак на чорны іхны глянц, вось кратаюцца губы—нейкія словы паўтарае Барыс нячутна, нібы вучань перад экзаменам цяжкую формулу.

Упарта глядзіць на яго Станіслаў.

І Барыс нібы адчувае гэты позірк, косіць вочы, губы расплываюцца ўсмешкаю: ён заўважыў, што Станіслаў не спіць.

— Важныя навіны ёсць, Стась,—кажа ён і, паварочваючыся, захінае сваёю постаццю вакно.

Шынель—на падлогу, коўдра—на падлогу, у адзін момант уздзеты боты, зашпілены каўнер—і Стась ля стала.

— Справы потым, ідзі еж.

— Не хочу. Ты ведаеш...

— І ведаць не хочу,—закруціўся па пакоі хутка-хутка.—Еж і ўсё. Потым справы важныя будуць. Здымай шынель!

— Але...

— Здымай, здымай!—і ўжо цягне за рукаў, кудлаціць валасы, усаджвае за стол.

Барыс есць, а Станіслаў мыецца. З велізарнага сіняга гладыша лье ваду на рукі, вада расплёскваецца, і кроплі яе рассыпаюцца ў паветры. Станіслава шыя, вушы, твар чырванеюць. Мокры, чырвоны падбягае раптам да яго з працягнутай далонню, вада падае важкімі кроплямі з яе.

— Бачыш, лёд. От здорава!..—кідае ценкі кавалачак ільду ў Барысаў твар, рагоча весела і бесклапотна.—А ведаеш, ваўкі ўчора ледзь не заелі.

— Ты ўжо казаў.

— Хіба казаў?—трэ ручнікам твар, і твар пачынае гарэць.— От бы і не ўбачыў мяне.

— Толькі таго клопату...

— Што? Што? Невялікі, кажаш, клопат? Няўжо?—і рушнік ляціць у Барыса, і Барыс зрываецца з месца наўздагон за Станіславам.

Але дзе ты ўгонішся за ім! Пругкае цела вёртка выкручваецца з-пад самых рук, пад Барысавы ногі трапляюць рэчы, спрытна падсунутыя Станіславам.

— Ну, досыць, Стась. Я не буду,—жартуючы просіцца Барыс.

— Не!—ваяўнічым голасам.—Клопат быў-бы, ці не? Кажы.

— Быў-бы, ну...

На Станіслававым твары ўхмылка пераможцы. Ён узбіваецца локцямі на стол і падпірае далонямі расчырванелы свой твар, і буйныя залацістыя валасы спаўзаюць на вочы.

— Я слухаю.

— У раёне Вялікай Рудні, паведамляюць, непакой. Банды чыняць зверствы, ідуць на горад.

— Ну?

Станіслава, відаць, не надта хвалюе навіна. Ён па-ранейшаму сядзіць—спакойны, нерухомы.

— Увесь горад на нагах. На фронт, Стась, і табе ісці прыдзецца.

— Увесь горад на нагах?—узнімае галаву.—А я праспаў гэткую навіну!—хлопае далонню аб лоб.—Шкандал!—зрываецца з месца і хапае з падлогі шынель.

— Пачакай, не спяшайся.

— Ды чаго чакаць! Пашлі.

У павяткоме—шумна і тлумна. У велізарным калідоры—паўнютка народу. Густая гамана стаіць у паветры. Адразу відаць, што прышлі ў горад трывожныя весткі, і кожны, пачуўшы іх, прышоў сюды, прышоў у павятком, бо не прысці сюды ён не мог. У велізарным пакоі, дзе на сценках паабдзіраныя шпалеры і гуры недакуркаў на падваконніку, дзе паветра туманнае і важкае—ад махоркавага дыму,—на лавах сядзяць людзі, у шынялях, у кажухах, у бравярках. Людзі чакаюць. Прыходзяць новыя—і старыя, і паджылыя, і маладыя, знаходзяць сабе месца, увязваюцца ў размову стэрэатыпным запытаннем:

— Яшчэ нічога не чутно?

— Нічога.

Станіслаў застаўся ў гэтым пакоі, а Барыс знік за дзвярмі. Там, за дзвярыма, за вялікім сталом, сядзіць чалавек гадоў сарака пяці, твар гэтага чалавека ў зморшчынах, бледны—гэтая бледнасць сведчыць пра бяссонную ноч, чорныя валасы чалавека яшчэ больш падкрэсліваюць яе. Уваходзячы, Барыс заўважае, што валасы на скронях гэтага чалавека пасівелі.

— Ты не спаў, таварыш Тарас.

Чалавек узняў вочы на Барыса, колькі хвілін глядзіць безуважна на яго і потым па кутках вуснаў кладзецца слабая ўсмешка.

— Правільна, Барыска, не спаў я... От бачыш... зрабіў тут...— Ён працягвае Барысу кавалак паперы, спісаны дробнымі літарамі.—Прачытай, адпраў у друкарню.

„Грамадзяне, рабочыя, чырвонаармейцы!“—гэткімі словамі пачыналася напісанае.—„Нашаму гораду пагражаюць банды генерала Белова...“

Барыс зірнуў на таварыша Тараса. Ён сядзіць з заплюшчанымі вачыма і, здаецца, спіць. Але—Барыс ведае—гэта толькі здаецца. Таварыш Тарас думае, абмяркоўвае нешта. Потым ён, можа адчуўшы Барысаў позірк, раптам узнімаецца з крэсла, выпроствае стан, папраўляе на плячах шынель, што наважыўся з'ехаць з іх, падыходзіць да тэлефона.

— Кватэру ваенкома Грая. Так, кватэру.

Барыс вышаў да Станіслава. Пры ягоным уваходзе людзі спынілі гаворку, усе зірнулі на яго, на паперку, што ў ягоных руках.

— Яшчэ нічога не чутно?

— Нічога.

Паперка—у Станіслава, ён пабег праз тлумны калідор, прачытаўшы нахаду адно толькі слова:

— Мабілізацыя!

Спыніўся ля дзвярэй у канцы калідора і зноў прачытаў канец адозвы. Павёў галавой, чагосці ўсміхнуўся, потым рэзка расчыніў дзверы, і ў твар хваляй шуганула цяплынь.

— Таварыш Тася! Напішы гэта, па даручэнню Краўчанкі.

У Тасі—бялявыя пышныя валасы, маленькі капрысны роцік і непамерна велізарныя, нечакана чорныя вочы. Яна стрэла Станіслава ўсмешкай, і Станіславу здалося, што ўся Тасіна постаць ззяе гэтай усмешкай.

— Уф,—пачырванеў Станіслаў.—Ну і горача-ж у цябе тут.

— Давай, буду друкаваць. А ты... Ты грэйся.

Яна села за машынку.

— Грэцца? Ну, добра... Тады дазволь побач з табой, дыктаваць буду.

— Давай.

Станіслаў сеў побач з ею, а яна нахілілася над машынкай, і бачыць Станіслаў да болю знаёмы пяшчотны кудзер на Тасінай шыі. На адзін момант—здаецца, дужа кароткі—думкі вылётаюць з галавы. Нічога не бачыць Станіслаў, толькі гэты бялявы кудзер, і, не дакранаючыся, Станіслаў адчувае ягоную мяккасць.

— Ну, дыктуй, дыктуй...

Сілай адводзіць вочы ад Тасінай шыі, зноў заліваецца твар чырваннёю. Хаваючы здэтанаванасць, сур'ёзным голасам пачынае:

— Мабілізацыя.

...Ноч.

Кінуўшы паламаны аловак на карту, вышаў з-за стала Грай, адкашляўся, пакамячыў у пальцах недакурак, сплюнуў у кут.

— Каго ўзяць? Пытанне цяжкое... Ён усміхнуўся; перабраў у думках усіх людзей, у момант ацаніў—сціплай сваёю логікай зразумеў, якi вялікі і цесны разам з тым свет.—Не горад, а непаразуменне. Я даўно казаў табе, Тарас, што з гэткім горадам загінеш. Млын ды шчацінная!

Таварыш Тарас сочыць за Граем з-пад ілба, а на ім збегліся зморшчыны, іх не злічыш, не змераеш -даўжыні і кірунка іхняга.

— Пісаў жонцы?—пераключаецца раптам на іншае Грай.— Дзіўны ты чалавек, морскія ў цябе звычаі. Напісаў-бы, каб прыехала, жылі-б разам, усё адно доўга сядзець тут будзем.

Тарас засмяяўся.

— У цябе лірычны настрой, Граюшка, як быццам перад смерцю.—Ён узнімаецца з крэсла, і постаць ягоная выростае над сталом.—Жонку трывожыць не хочацца, яна там працуе, робіць сваю справу. Зрываць не хочацца. А ўзяць табе прыдзецца Краўчанку, ён хлопец моцны, надзейны, ведае тут кожную калюжыну. Яго вазьмі.

— Пра яго і думаў,—прыпыняючыся пасярод пакою, захістаўся на дыбках.—А табе тут не цяжка будзе?

— Нічога. Гэты... Юткевіч дапаможа, ён спрытны, управіцца. Ну, ваенком, усяго. Ідзі да жонкі, прыгарні да грудзей галаву яе, пасмаркайся ў рукаў, развітайся, мілы мой.

Бліснулі вочы ў Грая, зморшчынка нездаволенасці ўзнікла паміж брывей, ён колькі хвілін пазіраў на Тараса, важачыся нешта сказаць, але, мусіць, не ведаў, як зразумець Тарасавы словы: кпіны ці жарт?

— Чаго пазіраеш? Жартую я. Ідзі.

— Ты, Тарас, усур'ёз не бяры... Не гэткія баявыя аперацыі рабіў я, сам ведаеш.

— Жартую, жартую, голуб мой.

Грай вышаў на вуліцу, Цёмна было. Шчыльна зачынены былі вакяніцы ва ўсіх хатах. Горад, здавалася, анямеў. Людзі пахаваліся па кутках, чакаючы на бядоты. Так хаваецца крот ад зыркіх сонечных праменняў у свай лёх. У немым цемрыве гарадскіх вуліц было затоенае і незразумелае нейкае прадвяшчунства. „Магіла, магіла, а не горад! Сволачы!"—падумалася Граю.—„І за кожнай вякяніцай чынадрал даваенны, і кожны нож важыцца ў спіну сунуць."—Ён ішоў па цэнтральнай вуліцы горада—і толькі вецер быў ягоным спадарожнікам, познім спадарожнікам бесхацімцам. Толькі ў адным вакне свяцілася святло. Яно падала на вуліцу, вырываючы з цемрыва кавалак аснежанай зямлі. Снег гарэў дробнымі дыяментамі. Гэты маленечкі кавалак асветленага снега адразу адлюстраваўся ў Граевай свядомасці. „Адзін дом на ўсю вуліцу... А ўсюды спяць. Хто-ж тут жыве? Ну, ну!.. тут жыве... Ага, тут жыве гэтая маленечкая Тася Вашкевіч, павяткомаўскі сакратар!"—успомніў Грай і, наставіўшы каўнер, усміхнуўся.

А за вакном—у гэтым доме—адбывалася прыкрая сцэна.

Апранутая ў кароткі хлапечы кажушок, наважылася Тася выйсці з дому. Святла не запальвала ў пакоі, каб не прыцягваць увагі хатніх, а так—вобмацкам—шукала на стале ключа. Кнігу на стол, відаць, паклаў бацька, і яна ўпала на падлогу, моцна грукнуўшы цвярдою—скураною—вокладкай. І ўслед за гэтым, у суседнім пакоі пачулася шархатанне пантопляў, дзверы рыпнулі, і ў асветленым чатырохкутніку іх вырасла бацькава постаць.

— Гэта ты, Таіса?

Не адказвала. А ўсё шукала вобмацкам ключа. Не адказвала, бо пасварылася кагадзе з бацькам, пасварылася люта, усур'ёз.

Мяккае святло заліло пакой.

— Эх, ты, дачка!—сказаў з дакорам бацька.—Мэўчыш, як ваўчанё. Сорам.

Закусіўшы да болю губу, не паварочваючыся да бацькі:

— Дзе ключ? Я позна прыду.

— Ключ? Не дам ключа!—гострая рымская барадзёнка напорсцілася ўсхвалявана і грозна.—Бадзяцца, уначы бадзяцца? Камуністка!

У глыбіні суседняга пакою—нібы стогн парванай струны—уздых і ўслед за ўздыхам—бездапаможна, пакорліва, перапрашальна:

— Лёня, вы зноў, Лёня? Ах, у мяне галава, галава рассыплецца!

З-пад шэрае хусткі выбіліся валасы, вочы набраклі злой і ўпартай рашучасцю, і рысы гэтай-жа рашучасці леглі на твары, па кутках губ.

— Вы што? Хочаце, каб я зусім не прыходзіла? Я магу не прыходзіць, мой пакой займуць па ордэру. Гэта будуць тыя прыемныя суседзі, пра якіх так часта кажа маці. Магу не прыходзіць.

Бацькава абурэнне не мела межаў, і цяжка было стрымаць яго ў паношаным слабым целе. Абурэнне вылілася ў кплівую тыраду. Пырскаючы сліною, бацька прахрыпеў адным выдыхам:

— Да гэтага рыжаватлосага пойдзеш, да гэтага вырадка, да гэтага паганца, што з гразёю змяшаў сваё прозвішча, дадзенае яму бацькам?—гаворка шла пра Станіслава Юткевіча, бацьку якога бачыў Лявон Піліпавіч на імператарскай сцэне ў дні студэнцкага свайго юнацтва.—І яшчэ нікім не даведзена, што гэтае непаразуменне ў падзёртым шынялі—сын вялікага Юткевіча. Нікім, чуеш, нікім!

— Я іду дзяжурыць. Дайце ключ.

— Дзяжурыць!—Ключ бразнуўся ля Тасі.—Няма на вас Белова. Ён адвучыць, ён адвучыць вас.

І потым, калі непаслухмяная дачка, бразнуўшы дзвярыма, порстка выбегла з пакою, калі заспакоеная велізарнай порцыяй валяр'янкі, прыціхла жонка, стаяў Лявон Піліпавіч, трымаючы

ў руцэ падсвечнік з заплыўшаю свечкаю, перад банапартавай постаццю, туга ўціснутай у пазлацаную раму.

— Так-с, імператар, скептычна шаптаў Лявон Піліпавіч, фамільярнічаючы з высокай імператаравой асобай.

— Іншыя часы, іншыя законы, баценька. Дзеці не слухаюцца, імператар... Гэта... дрэнна... Каб ды твае часы, баценька, твае часы...

Якраз у гэты час—воляй чалавека, за якім стаяў ангельскі і французскі капіталізм, за якім стаялі цені вялікіх камандораў, і якому ў тугім вар'яцтве сноў трызнілася слава новага, расійскага Напалеона, воляй гэтага чалавека—тыя, над кім вісеў вырак чалавецтва, тыя, што згубілі годнасць насіць імя Чалавек, тыя, што страцілі ўсё і не набылі нічога, апрача гістарычнага права на пагібель, намагаліся схапіць клыкамі горла краіны.

Папраўдзе кажучы, Напалеонаў было шмат. І калі Кірыл Раманаў, ганячы трункі французскіх карчомак, хваліў даваеннае рускае пітво ў бутэльках з чырвонай галоўкай, калі Кірыл Раманаў, апранаючы свой мундзір, перад люстрам правяраў веліч сваіх будучых імператарскіх гестаў,—гэтыя людзі хацелі здабыць права на імператарскія гесты пагромамі і рабаўніцтвам, пажарамі, гвалтам, вусцішнымі актамі звяроў.

Напалеоны прышлі з поўначы—ангельскім дэсантам у Белым моры, з поўдню—Полямі і Жанамі ў моры Чорным, Напалеоны ўзніклі з узброенымі арміямі ў Сібіры, на Украіне, на Беларусі, Напалеоны камандвалі людзмі, для якіх узбраенне нарыхтавалі Круппы ўсіх краін.

Губерскі горад, што знаходзіцца ў трохстах кіламетрах ад Крушняярска, дзе пануе цяпер ноч і па цэнтральнай вуліцы спяшаецца дахаты, каб развітацца з жонкай, ваенком Грай, і адзіным спадарожнікам якога—вецер-безхацімец,—губерскі горад ужо суткі заняты атрадамі генерала Белова. Бою амаль не было. Аб наступленні атрадаў Белова даведаліся ў горадзе раптоўна: з бліжэйшай станцыі прыбыла дрэзіна, перапалоханы і зморaны чыгуначнік на ёй адно паспеў пракрычаць:

— Адзін вызваліўся. Эшалон ідзе, эшалон! — І паваліўся ў непрытомнасці.

І тады высветлілася, што горад адрэзаны, што перарэзаны тэлефонныя правады, а як ачуняў зморaны і перапалоханы чыгуначнік—у яго дазналіся:

— Нашы паспелі рэйкі разабраць, затрымалі іх у Асінаўцы...

Тым часам генерал Белоў даў загад, каб частка людзей пешам акружыла горад. Эвакуяваныя чырвоныя ледзь прарваліся праз кольца белых, кольца, што сцягвалася наўкол горада. Чырвоныя эвакуяваліся ў паўночна-заходнім кірунку, а Крушняярск застаўся на поўдні ад губерніі, застаўся на ўласны свой лёс.

Нездарма спяшалася Тася ў павяткам, і Грай не дайшоў да хаты, чырвонаармеец заспеў яго ля самага ганку.

— Вас патрабуюць у павятком, таварыш камандзір.

— Я толькі адтуль.

— Тэрміновая справа, таварыш камандзір.

Чырвонаармейскія часці чакалі загаду.

У прадранішнім цемраве горад абудзіўся раптоўна, у прадчуванні пагрозы, прачнуўся са сполахам. Ад суседа да суседа— бразь рукой у вакно:

— Уставайце, Павал Карпавіч.

— Што, галубка, пажар?—тырчэла за мутнай шыбінай ускудлачаная барада.

— Горш, Павал Карпавіч! Папера выклеена, чытаюць, усе чытаюць. Уставайце, Павал Карпавіч.

На сон забыліся. У чэргі пасталі. Сляпілі вочы, чыталі, шэптам з вуснаў у вусны, затоена і галасна:

— Мабілізацыя!

І ўсялякае чулася ў гэтым пераказванні—і трывога, і радасць, і надзея на светлы дзень, і Паўлы Карпавічы адно былі задаволены: працгужпавіннасць іхная, баценька, таго... у трубу... хе-хе!.. у трубу.

Памяшканне павяткомаўскае перапоўнілася народам. От з трэцяй змены прыбег дрэваапрацоўнік, густое пілавінне на ягонай жыкетцы пахне яшчэ смалой і прапай. Ён гаворыць голасна, ён гаворыць спакойна—спраўнасць, заклапачанасць чуюцца ў голасе:

— А вінтовак, таварыш начальнік, не хапіла на наш атрад. Дай пісульку на дадатковыя.

— Аднаму вінтоўку, другому наган. Мяркуйце там самі.

— Дзівак ты чалавек! Ды што я рабіць, прыкладам, з гэтай цацкай буду? Ты мне хоць абрэзік які, канфіскаваны...

Лішняга абрэзіка не знаходзіцца, і дрэваапрацоўнік адыходзіць ад стала да сваіх таварышоў, каб ім расказаць сваю крыўду. Яшчэ доўгі час ён будзе казаць пра тое, якая спраўная была ў яго вінтоўка на польскім фронце, біла, што механізаваная, гэткая добрая вінтовачка, пра яе, мусіць, і песня гэтая складзена: Вінтовачка, бі, бі, вінтовачка, бі!

Ля дзвярэй—дружны рогат. Два хлапцы прышлі; большы, смялейшы ўвайшоў першы і літаральна за руку цягне другога, а той—шапку на вочы апусціў, каб захаваць чырвань на твары, каб не страціць фасона—і самому не расплыцца ў рогаце.

— А што ты будзеш рабіць на фронце? Маткі там нямашака.

— Ну, ты... Вырас да неба, дык думаеш, што і разумны.

— Эйш ты які!

— Точыць зубамі, нібы па пісанаму.

За вакном чуецца кароткая каманда:

— Вольна!..

У наступную хвіліну ў пакой, аббіваючы находу снег з ботаў, убягае Юрка Сяргейчык, першы арганізатар працоўнай моладзі ў Крушняярску. Насустрач яму ідзе Краўчанка, усміхаецца:

— Учуў твой голас, вышаў.

— Ну, Барыс, нашы ўсе. Перадай Граю, што комсамольцы гатовы на перадавыя, братка. Дзе Грай?

— Там,—паказвае на шчыльна прычыненыя дзверы.—Штаб.

Таварыш Тарас звыклым гестам папраўляе на плячах шынель, узнімаецца з месца, кратаючы стол, і лямпа на стале пачынае дрыжэць. Ён сячэ паветра рубам рукі, ён вачыма, здаецца, абмацвае ўсіх прысутных.

— Мы вырашаем, таварышы,—кажа ён,—не чакаць і не абараняцца, а наступаць. Мала сіл? Я чуў гэта. Мабілізоўваем усё працоўнае насельніцтва. Дамовіліся. Прапаную выступіць у раён Камароўскага паселішча. Прымі камандванне, Грай.

Ён сціх, ён праводзіць пальцамі па твары, і кожны з прысутных бачыць, як на бледым гэтым твары сінее шырокі, нібы абламаная галінка, рубец. Грай выцягваецца перад ім у фронт. Ён па-вайсковаму суха пераказвае загад, бярэ з рук паперку з шырокім сакратаровым росчыркам.

— Вы вольныя, таварышы.

Тады, калі яшчэ гучыць у калідоры тупат людзей, Краўчанка кажа да Станіслава:

— Бывай, Стась. Грай паехаў ужо.

— Ну, што-ж, поспеха табе. Толькі дрэнна, што я тут застаюся.. Эх, Борка!

Таварыш цісне руку—моцна і пяшчотна разам з гэтым.

— І ты пойдзеш, Стась. Фронт... гэта да ліха складаная, зусім нечаканая штука. Ты тут за Тарасом сачы, спаць яго прымушай, заматаецца стары.. А ты... ты „Майскія мроі“, вясялей будзе... Ну, маё!

Подбежкам да дзвярэй, за людзмі, і дзверы звягнулі—рэзка, са скрыпам. Яшчэ на двары ноч была. Па прамёрзлай вуліцы хрумсцелі крокі людзей. Зачыналі песню—мусіць, у комсамольскім атрадзе. У марозным паветры словы песні звінелі, як шкло. Ды й паветра было таксама чыстае, як шкло. І шклярусам здаваліся ў цемрыве галіны дрэў, укрытыя інеем.

— Таварыш камандзір!—Гэта да Краўчанкі кажа чырвонаармеец, і Краўчанкава сэрца соладка зашчымела ад гэткага звароту.—Таварыш Грай загадаў ехаць у кашары. Я патрымаю.— Чырвонаармеец падвёў каня.

— Нічога, я сам, таварыш.

Конь, адчуўшы цяжар, мякка затанцаваў на месцы, б'ючы пярэднімі капытамі па прамёрзлым снегавым насціле. Краўчанка рукой дакрануўся да конскай шыі, і конь, прытанцоўваючы, рушыў з месца. Чырвонаармеец паглядзеў на конніка, ацаніў яго пасадку, усміхнуўся сам сабе.

Краўчанка ехаў па-ціху, даючы асвойтацца каню. Блытаныя былі Краўчанкавы думы, і ўсё часцей і часцей паўставаў у іх вобраз Станіслава.

— Барыс! Пачакай, Барыс!

— Гэта ты, Тася?—Прыпыніў каня.

Жанчына падбегла да яго, працягнула руку.

— Ну, давай лапу. Шчаслівай дарогі.

— Дзякую, Тася! Ты тут глядзі, Стасіка ў крыўду не давай.

— Ну, ты!.. З жартамі таксама!—Яна засмяялася і ляснула рукой па конскай спіне.—Наганяй, Барыс, наганяй!

І конь панёс. Вецер свістаў у вушшу, калючыя і гарачыя сняжынкі білі ў твар, і твар пачынаў гарэць, палымнець. У посвісце ветравым, у дзікім лёце снежнае мітульгі чуўся Барысу Тасін рогат, і рука... рука захоўвала цяплынь яе рукі.

Пад самымі кашарамі чулася песня комсамольскага атрада, а там—у кашарах—гарніст граў збор, а за кашарамі ў полі, дзе вецер залізваў ваўчыныя сляды на снезе, ішло мітульговае ленаватае зімовае ранне.

Перапалоханы горад чакаў яго.

Узяўшы кошык, паджылая гаражанка зачасала валёнкамі, што ззялі жоўтымі скуранымі падбіўкамі, па прамёрзлым бруку на рынак. Як і шмат гэткіх заштатных гарадкоў, Крушняярск выслаўляўся шумным рынкам. Нават у самыя цяжкія часы— у вайну, у абедзве рэволюцыі—рынак жыў сваім заўсёдным жыццём: рыпелі вазы, роспачліва залівалася жабраковая лера, пахла свежым печывам і перапрэлым аўсом. Тут, на рынку, упяршыню пачуў Крушняярск пра вялікія здарэнні, што адбыліся ў краіне, недзе за густымі нерушамі і вялікімі палямі, якія з розных бакоў падступалі да вуліц гарадское ўскраіны. Тут упяршыню пачулі заштатныя гаражанкі слова—вайна, слова— рэволюцыя, куды больш незразумелае, чым першае. А рынак жыў, і адно лезлі ўгору, як ярына, цэны.

На рагу вуліцы—ля царквы—гаражанку стрэла знаёмая.

— На рынак, кума?

— Ну, але. Цыбулькі вязачку, у хаце ані-ні не засталося.

Ад царквы да няўхлюдых рынечных лабазаў яны ішлі, гаворачы пра маразы, пра суседзяў і сваякоў, пра тое, як даражае хлеб. І, прышоўшы на рынак, яны доўгі час, пазіраючы адна на адну, маўчалі, бо за дарогу перагаворана было бадай усё, а рынак стрэў іх незразумелым абязлюддзем. Толькі каза адно шпацыравала па рынку, сур'ёзна і ўважліва злізваючы кагадзе выклееныя лістоўкі на тэлеграфных слупах.

— Кума, а, кума... Без цыбулі хіба гарохаўку гатуюць?..— запыталася роспачліва першая.

— Эээ... От даўней было... Згатуеш гарохаўку з падсмажанай цыбуляй, дык проста... Э-э э!—махнула рукой.

Але яшчэ адна вусцішная навіна падпільноўвала гаражанак сёнешнім днём: у горадзе, ля крам, выраслі чэргі.

— Па сакрэту! Свежанькі—далонь напоўкружочкам ля самага вуха.—Мала поўсці і доўгі хвост! Што гэта?—і, смеючыся, што завецца, задушэўным смяшком, сам адказваў пырсклівым рогатам:— Чарга, чарга, бацэнька!

І старая Вашкевічыха скардзілася мужу, ломячы тонкія свае пальцы:

— Не, гэта зусім немагчыма, Лёня. Я проста памерці гатова, у мяне галава, галава рассыплецца! Гэтая паршывая мужычка не прынесла пайка, яна, яна абрабавала нас, Лёня!

— Даўно казаў, гані. Не служанка, а злодзей.

— Не, Лёня, гэткімі часамі лепшай не знойдзеш, яны ўсе, усе гэткія. Ды ты... ты не слухаеш мяне, Лёня!

— Я чую, Тамарачка, чую, бог мой!

— Ты, Лёня, схадзі да Тасі, папрасі яе прыйсці дахаты, мне страшна аднэй...

Ён цалуе жонку і пры гэтым першы раз—першы раз заўважае, якой старой і непрыгожай зрабілася яна. Ён кажа, як мага мякчэй і чуллівей:

— Ты, Тамарачка, просіш немагчымага. Гара да Магамета не пойдзе... Што? Лепш сам пайду ў чаргу. Сам!

— Ах, Лёня, у мяне галава, галава рассыплецца!..

За мітуслівым жыццём чаргі сочыць з вакна Станіслаў. Ён стаіць нерухома. Ён змарыўся. Пасля тлумнае ночы адпраўкі на фронт ён перапісваў загады таварыша Тараса, ён званіў па тэлефоне ў дзесятак месц, лаяўся, даводзіў, тлумачыў. Гуд тэлефоннае мембраны стаіць у вушшу аж дагэтуль. Ён, працуючы гэту ноч з сакратаром павяткому, адчуў мудрасць ягоных дзеянняў, адчуў волю гэтага чалавека—і ноч больш пуката падкрэсліла ў Станіславай свядомасці вялікі сэнс Тарасавае постаці. Апошні загад быў аб хлебе. Сакратар абавязваў адпаведныя арганізацыі сканцэнтраваць увесь хлеб горада ў адным месцы, забяспечыць армію (—менавіта гэтае слова стаяла ў загадзе), нарміраваць выдачу жыхарам. Калі гэтых захадаў не зрабіць —так гаварыў загад—будзе голад у арміі, будзе голад у тыле, і перамога ворагава траха што не забяспечана.

Станіслаў з вакна сочыць за мітуслівым жыццём чаргі. Перад тым у габінеце таварыш казаў:

— Табе семнаццаць год... Малады ты... Змарыўся, напэўна?— І, калі Станіслаў адмоўна пакачаў галавой, сакратар доўжыў:— Ідзі адпачні. Калі што тэрміновае—скажаш, я тут буду скрозь... Семнаццаць год... У мяне сын гэткі...

Станіслаў усміхаецца. У сакратаровых словах ён пачуў (—ці можа гэта здалося?) нейкую цеплыню. У гэтую хвіліну Станіслаў адчуў, якія дарагія, свае людзі наўкола, якую невымерна вялікую справу робяць гэтыя людзі, і захацелася яму ўсімі сваімі сіламі гэтую справу рабіць таксама, поплеч з іншымі, з Барысам, з Граем, з Сяргейчыкам, з таварышом Тарасам, ну і з Тасяй...

— Стась!

Ён уздрыгануў. Ён крута павярнуўся. Ён машынальна наважыўся запытацца:

—Дэпеша з фронта?

Але яна ўсміхаецца, без слоў разумеючы гэтае запытанне, кажа:

— Там Майсеенка з харчаддзела званіў, я паглядзела—тварыш Тарас спіць, ён так змарыўся...

— Мяне трэба было паклікаць.

— Не, я чула сама. Я перадала словы дакладна: загад змяняць забараняю.—Яна глядзіць яму ў вочы, неяк вінавата ўсміхаецца, ледзь дакранаючыся маленькай рукой да рукі ягонай.

Ён не адказвае, ён толькі пацвярджальна ківае галавой, ён глядзіць, глядзіць... і адарвацца не можа ад гэтых велізарных дысгарманічна чорных вачэй.

— А мне Барыс ад'ездам казаў не крыўдзіць цябе, Стась...

Яны ідуць цёмным і доўгім павяткомаўскім калідорам паўз соннага вартавога, паўз халоднае маўчанне шэрагу дзвярэй, шчыльна прытуліўшася адзін да аднаго, у пакой сакратарыята, дзе „буржуйка", дзе „ундэрвуд", дзе цесна і ўтульна, дзе замаўчаў на колькі хвілін непакойлівы тэлефон, дзе на скуранай канапе прыдзецца праводзіць Станіславу даўгія ночы бяссоннага дзяжурства. Яна кажа:

— А Барыс, мусіць, далёка... Ад іх нічога не чуваць. Гэты Грай заўсёды такі ўпарты, абы трывожыць не будзе. А мне, Стасік, хочацца пра Барыса пачуць. Хочацца... на фронт... Мяне Грай вучыў страляць.

У іншыя часы, пры іншых варунках было-б інакш. Позірк гэтых чорных вачэй, залацістая залева валасоў, маленькія губы і белыя бліскучыя зубы выклікаюць цэлую асацыяцыю думак, пачуццяў, жаданняў. Розум і фантазія семнаццацігадовага хлапца гэты складаны і невыразны комплекс адчуванняў падсумоўваюць так:

...Кляны атрасаюць лісце. Залацістай залевай залілася зямля: мякка шамаціць пад нагамі гэтае кляновае лісце. Стаяць барвовыя восеньскія дні, і сонца перад захадам—крывавае, палымнее яно пажарамі. І водблескі гэтых пажараў пераспырсканы па зямлі. У парку ля тумбы для афіш прыпынілася дзяўчына, залітая сонечнымі пажарамі. З-пад чорнага берэта ліецца золата валасоў, і ў золаце гэтым таксама палымнее пажар. Дзяўчына чытае афішу. Дзяўчына бачыць на ёй здымак: галава юнака скульптурнай акрэсленасці. Што гэта? Можа здалося ёй? Можа гэта тайна фатографа? Юнак сваімі шэрымі смяшлівымі вачыма ўсміхнуўся ёй, прыветна і ласкава. Дзяўчына аж чырванее і шпарка адыходзіць ад тумбы. Вось яна праходзіць паўз тэатр. Яна бачыць натоўп людзей. Яна прыпыняецца. Думае.

— Купіце білет, грамадзянка, танна!—Падбягае да яе хлапчук,— Усяго рубля і зараблю.

Потым яна сядзіць у партэры і, стаіўшы дыханне, глядзіць на эстраду. Там юны майстра—Станіслаў Юткевіч-малодшы—выконвае харэаграфічныя варыяцыі на Бэтховенаўскую „Апасыянату".

— Брава!—хоча крычаць яна, але стрымліваецца, і адно шэптам сама сабе паўтарае:—Брава, Юткевіч, брава!

Ля тэатра яе чакае Барыс Краўчанка. Ён толькі толькі-толькі з нейкай нарады, дзе абмяркоўваліся дужа важныя дзяржаўныя справы. На ім шэры шынель з двума гузікамі, старая папаха з выцвілай плямай ад нейкай кукарды, стаптаныя боты з чужых ног... Не, не—Барыс Краўчанка апрануты ў бобрыкавае паліто, на галаве кепі ў шэрую пасачку, акуляры і партфель, абавязкова партфель.

— Я чакаю ўжо гадзіну, Тася,—кажа Барыс.

— А я чакала ўсё жыцьцё,—адказвае Тася, думаючы пра юнага майстра.

— Што? Што ты кажаш?

— Ты зрабіўся няўважлівым, Барыс... Я хочу есці...

У Барыса заўтра вольны дзень, можна пазней спаць, можна не думаць пра справы. У дакладным раскладзе ягонага жыцця выходныя дні прызначаны для адпачынку, весялосці і для яе, Тасі. Яны едуць у шыкоўны рэстаран. Тут за столікам яна маўчыць, яна глядзіць у люстраную сцяну рэстаранавае залы. І раптам яна бачыць у люстры: у дзверах вырастае постаць юнага майстра. Аркестр грае туш. Усе прысутныя ўстаюць і плешчуць у далоні. Станіслаў Юткевіч пад руку з Паўлам Юткевічам праходзяць паўз устаўшых людзей да спецыяльна нарыхтаванага для іх століка.

— Братка! Барыска, ты?

Ад гэткага фамільярнага зварота да незнаёмага яму чалавека Паўла Юткевіч аж прыўзнімаецца з месца:

— Стась, Стась!

— Нічога, татусь, гэта мой стары, стары прыяцель.

— Знаёмцеся. Гэта—мая сяброўка.

— Сяброўка дзён журботных... Ааа! Дужа, дужа прыемна пазнаёміцца...

...У парку, залітым водбліскамі сонечных пажараў, яны сустракаюцца. Яны пераважна маўчаць. Яны разумеюць адзін аднаго без слоў. Тася прытулілася да яго. Ён адчувае водырную цяплынь яе цела. Яны глядзяць на развітанне сонца. Гарыць барвянцам зямля.

І потым ён ідзе да Барыса.

— Ты дужа заняты? Ну, нічога, я скора пайду. Помніш, Борка, Крушняярск, павяткам, наша сяброўства. Харошы і цікавы быў час. Дзе твой шынель, твой пашарпаны баявы шынель, Борка? Мне хочацца гаварыць, Борка, многа добрых слоў ёсць, я перапоўнены імі.

— Што з табой, Стасік?

— Са мной? У мяне вялікая, у мяне дужая радасць. Барыс! Мне хочацца гаварыць пра радасць.

— А дзе прычына гэтай радасці, Стасік?

— Ух, ты! Ты навучыўся падыходзіць да ўсяго паступова, крок за крокам. Дакладнасць, кажаш?

— Але, дакладнасць.

— Я кахаю, Барыс, першы раз, здорава гэтак, хораша!

Барыс адкідае кніжку ўбок, устае з-за стала, падыходзіць да Станіслава, бярэ яго за рукі.

— Кажы, Стасік, кажы. Гэта мне вядома таксама... Я... я таксама кахаю!..

— Каго?

Барыс смяецца.

— Ты такім-жа хлапчуком застаўся, Стасік. Каго, пытаешся? Ну, тую... Тасю.

— Тасю?

Глыбокая, нібы тэатральная паўза, надыходзіць цішыня. Станіслаў узіраецца ў таварышовы вочы, Станіславу здаецца, што падлога пачынае рытмічна хістацца—раз, два, раз, два... Хутчэй і хутчэй... управа, улева... раз, два... раз, раз, раз! Станіслаў вырывае руку з Барысавых рук.

— Тасю?

Гарыць-палымнее барвовым пажарам цяжарная на радасць і тугу зямля. Мяккае сыплецца на яе лісце кляновае. Паветра перапоўнена водырам спеласці. На паркавай дарожцы яны стаяць утраіх.

— За табой апошняе слова, Тася,—кажа Станіслаў.

Яна разводзіць рукамі.

— Ну, вы... хлопчыкі мае!.. Ну, я не ведаю, што вы ад мяне хочаце. Абодвух, абодвух вас... Абодвы дарагія мне... Абодвы мае, мае!..

— Гэтак не выпадае,—суха кажа Барыс і здымае запацелыя акуляры.—Мне, Стась, дваццаць восем, а табе—дваццаць два. Закон прыроды, так сказаць—па Дарвіну... Бывайце!—і ён аддаляецца ад іх—плаўна і паволі.

Тася зрываецца з месца. Яна хоча бегчы за ім, але густое лісце, покуль стаялі, засыпала яе ногі. Яна амаль крычыць:

— Стась! Стась! Спыні яго. Ён застрэліцца, ён абавязкова застрэліцца!..

— Закон прыроды, так сказаць—па Дарвіну,—жорстка паўтарае Станіслаў і таксама ідзе ў глыбіню парка.

Таіса—бездапаможная—застаецца адна, і толькі апошнія пырскі сонечнай крыві трымцяць у залацістых яе валасах, і ападае лісце кляновае наўкол яе, і адно чуваць, як шамаціць гэтае лісце.

Тэлефонны званок урэзваецца ў надвячоркавую цішыню, і ў трубцы раздаецца меладычны голас паштовае тэлефаністкі:

— Тася, гэта ты?

— Я, Розачка. Што там у цябе?

— Бяры кавалак паперы і запісвай. Ало! Узяла? Слухай. „Паўяткам. Стрэліся пад Камароўскім паселішчам". Далей... Ты слухаеш, Тася? Далей ідзе наступны шыфраваны тэкст...

Стрэліся пад Камароўскім паселішчам.

Адвячоркам чырвоныя выведчыкі ўбачылі атрад коннікаў, што паволі пасоўваліся па полі—нацянькі. Паперадзе атрада ехаў чалавек у ангельскім шынялі з блакітнай нашыўкай на рукаве. Коннікі маўчалі. Не даяжджаючы першых хутароў, атрад рассыпаўся па полі—і так, рассыпаўшыся, коннікі па адным пад'ехалі з розных бакоў да аселіцы. Іх сустрэў брэхам сабака. Хлапчук, што стаяў ля хаты, спалохана кінуўся ў дзверы. У тую-ж самую хвіліну ў вакне паказаўся зацікаўлены твар гаспадара.

— А можна-б было іх перапалохаць,—амаль прашаптаў выведчык-комсамолец, і вочы ягоныя бліснулі задзёрам.—Каб стрэліць...

— Не дурэй, глядзі.

І выведчыкі павярнулі ў лес.

Камандзір Грай праз колькі хвілін даў загад:

— Пачаць!

Хутары абкружылі ланцугом з-пад лесу, і на змерканні сцягнулі ланцуг туга. Ішлі аселіцамі, ціха прыпадаючы да зямлі. Першыя пасты знялі ўраз без шолаху. Далі агонь. Прасторы загаласілі водгуллем стрэлаў. Патрыярхальная веліч зімовага вечара—патрыярхальная маўклівасць нерушаў і роўнядзь белая аснежаных палёў, выхапленая з народнае казкі,—усё гэта ўраз парушылася чалавечым прыходам. Усё злілося ў адзін суладны стогн: і стрэлы, і водгулле іхнае, і брэх сабак, і сполах конскага іржання, і бессэнсоўнае татахтанне кулямёта—у ноч, наўгад, абы біць. У чалавечай мітульзе на ўзгарачаным кані насіўся ваенком Грай, робячы першы паход крушняярскай арміі, і хоць не бачылі яго, але адчувалі ягоную прысутнасць, запальваліся імпэтам ягонага імкнення. У імпэце бою, у імкненні ішлі наперад, гналі белых... і раніца (мароз, крываві сонечны ўсход, ахутаны куродымам) заспела нашых у Камароўскім паселішчы. Вясковая вуліца ляжала перад імі маўклівая. Згрудзіліся на ўзгорку, перад грэбляю. Грай сказаў да Краўчанкі:

— Бяры колькі чалавек ды едзь уладжвай. Спыняцца будзем.

Белых у вёсцы не было. Прыходу чырвоных не прыкмецілі, і толькі царкоўны званар прыкмеціў іх, надумаўся было ўдарыць у званы, але лезці на званіцу не ўзяло ахвоты. Ён першы і вышаў да Краўчанкі.

— Старшыня ваш дзе?—спытаўся Краўчанка, стрымліваючы каня.

— Каго?—хітравата левае вока прыжмурыўшы, перапытаў званар.—Каго пытаешся?

— Старшыні пытаюся.

— Не знаем,—адрэзаў.

— А ты тутэйшы?—увязаўся ў гаворку русявы чырвонаармеец.

— Тутэйшы.

— І не ведаеш вашага старшыні, старасты?

Званар скубануў сваю рэдзенькую рыжаватую барадзёнку, зноў прыжмурыў вока, і твар расплыўся дабратлівай усмешкай.

— От-бы і пыталіся так. Вэнака,—паказаў уздоўж вуліцы.— Ля бяроз, Савацейчык Піліп, стараста.

Гэта была новая хата, крытая гонтамі, са шчыльна зачыненымі акяніцамі. Высокі паркан быў ля яе, і маўклівыя—старога веку—бярозы ў зімовым убранні стаялі ўздоўж паркана. Краўчанка злез з каня, піхнуў фортку, бразнуў ланцуг, азваўся залівістым брэхам сабака, гэтаму брэху азваліся сабакі з суседніх двароў, і вясковая вуліца перапоўнілася ім.

Спалоханая кабета мятнулася ў сенцы, клубком пад Краўчанкавы ногі кінуўся сабака, адпіхнуў яго кароткім „пашоў!" увайшоў у хату. Ля дзвярэй стрэў гаспадар, ёмісты паджылы чалавек, з курчавай чорнай барадой, і ў першую хвіліну за гэтай барадой цяжка было разгледзець ягоны твар.

— Піліп Савацейчык вы будзеце?

— Мы.

І ўраз забегалі босыя дзявочыя ногі—у сеначкі, у варыўню, і адно за адным паявілася на стале: бутэлька прыпраўленае вішнёвым лістам гарэлкі, бл.нцы, сыр, сала, і ўраз засвірчэла на патэльні, пайшло смачным парам па хаце—варанае, смажанае, печанае.

— Хлеб-соль, проша!

Тым-жа днём, на змярканні, калі ў тугія абоймы ёмкія калядныя маразы бралі зямлю, калі дубянеў у марознай цішы абыякавы гуд царкоўнага звона,—сабраўся сход усяго свядомага насельніцтва Камароўскага паселішча, і першым пытаннем на гэтым сходзе было пытанне аб хлебе. Палявы тэлефон, спехам змайстраваны ў Савацейчыкавай хаце, хрыпатлівым гудам высціснуў загад з горада: „Арганізуйце харчразвёрстку, улічваючы забеспячэнне арміі на месцы. Горад чакае хлеба. Атрад даручаю ўзначаліць Краўчанку. Тарас".

Камароўская дзятва ліпла, нібы пчолы, да вокан прыходскага вучылішча, дзе сабраліся дарослыя гаварыць аб хлебе. І бачыла камароўская дзятва строгі твар ваенкома Грая, патрабавальныя, скупыя гесты ягоныя. І было ў дзятвы затоенае захапленне гэтым чалавекам, і праз ваконнае шкло хацелася пачуць, пра што-ж гаворыць гэты чалавек, што прыехаў у паселішча з войскам, прыехаў на буланай жаробцы, лепшай н'ат за Савацейчыкаву.

У гэты самы час вуліца асвяцілася зыркім полымем, і дзятва, адарваўшыся ад вакон, з галёканнем панеслася на край вёскі, на Савацейчыкаву аселіцу, да гумна. Зыркае полымя стаяла над гумном, і тугімі столкамі ішоў у неба з'едлівы дым. З'едліва, з прыхліпам, з затоеным хіхіканнем ударылі званы: бом-блём-бом, бом-блём-бом. Густой грамадой сыпануў з вучылішча народ, і паперадзе ўсіх бег, раскідаючы ў бакі даўгія свае рукі, Піліп Савацейчык.

— Маё гумно, хлеб, хлеб гарыць!—крычаў ён да людзей, і ўторылі яму з'едлівым хіхіканнем царкоўныя званы:—Бом-блём-бом, бом-блём-бом.

...Чарнявы чырвонаармеец адстойваў гадзіны свае начное варты, думаў аб сваім сяле, што засталося па той бок Крушняярска, у думках падлічваў, колькі бацька дасць хлеба вайне і дзяржаве, і моршчыўся чарнявы чырвонаармеец ад назаллівае думкі, каб хаця не ўтойваў бацька хлеба, а дачыста аддаў лішняе вайне і дзяржаве, гэта значыць—яму, сыну. Адна адну пакрывала думка, і прыгадваў чырвонаармеец выпадак, што быў сёння.—Хударлявы, з сухотным румянцам на твары, у пашарпанай рудой браварцы быў гэты чалавек. Ён прышоў у тую хату, дзе стаяў чырвонаармеец, пераступіў з нагі на нагу, кашлянуў для смеласьці, спытаўся:

— Дзе тут, таварышу родненькі, начальнік ваш?

— Ваенком патрэбен, дзядзька?

— Не, гэты, маладзейшы...

І хударлявы чалавек выцяг на сярэдзіну хаты мех, развязаў яго і ўзяў у прыгаршчы зерня, паглядзеў на яго, узважыў, усыпаў назад.

— Скажы начальніку, што Карней Амеллянюк прынёс... дзяржаве,—і ён туга пачырванеў, успацеўшы.

Чарнявы чырвонаармеец глядзеў у ноч, і ноч стала перад ім глухая і чорная, нібы бабульчыны прымхі, і паселішча ляжала перад ім—у начы—маўклівае і грознае ў акамянелай знямеласці, тоячы прывіды ліхалеццяў. Раптам чырвонаармеец пачуў рыпенне вазоў і хрумст крокаў. Ён пільней угледзеўся ў цемрыва. І ў глыбіні марознай немарасці начы ўбачыў ён вазы і людзей ля іх, ахутаных парай. Чырвонаармеец узяў наперавес вінтоўку. Крык рэхам азваўся ў прасцягах. Стрэліў. Коні панеслі. Чырвонаармеец стрэліў у другое, пабег за вазамі. Коні імчаліся па выгане, наўпрост да ракі, пакінуўшы ў баку дарогу. Чырвонаармеец угледзеў, як бягуць з вёскі свае, як абганяюць вазы, пераймаюць ашалелых коняй.

А ў дзень—ля вучылішча—выклеена была папера, ля якой ураз вырас натоўп.

„Імем савецкае ўлады,—гаварылася ў паперы,—імем Крушняярскага павятовага выканаўчага камітэта—

за ўкрыццё хлеба,
за дапамогу белабандытам,
за падбухторванне насельніцтва
з контррэвалюцыйнымі мэтамі—
эксплаататара і крывапійцу Савацейчыка
Піліпа Раманава, ад нараджэння год 43, жанатага—

РАССТРАЛЯЦЬ.

Гэта быў першы расстрэл, падпісаны Краўчанкавай рукой, і ў пералеску—у маладым сасонніку—загад быў выкананы ў наступную ноч.

У гэткіх-жа пералесках, чакаючы на змярканне, прытаіліся людзі, каб па загаду чалавека ў ангельскім шынялі кінуцца на Камароўскае паселішча, на Крушняярск, на Рэсэфэсэрыю.

А другі вораг—непрыкметны, упарты—ужо займаў Крушняярскія ваколіцы. Гэты вораг доўга поўз да Крушняярска, не зважаючы на мароз і завеі, доўга поўз звілістымі дарогамі вайны і голада. Яго не заўважылі пасты, не запыталі паставыя:

— Куды ідзеш?

І нельга было крыкнуць—рэзка і патрабавальна—гэтаму ворагу:

— Стооой!

Непрыкметна, знянацку захапіў гэты вораг Крушняярск і——

...З пяцідзесяці двух гадоў свайго жыцця доктар Уладзімер Восіпавіч Нээрзон дваццаць пяць гадоў пражыў у Крушняярску. Асноўныя вехі доктаравага жыцця—шлюб, радзіны дачкі і сына, абвяшчэнне вайны і ўход на яе сына, усе расійскія рэволюцыі—выставіў Крушняярск. На пачатку імперыялістычнай вайны доктар Нээрзон зрабіў колькі—асабліва складаных—хірургічных аперацый, якія вырататавалі параненых. Апераваных дэманстравалі ў Кіеве і Маскве, пра доктара Нээрзона загаварыла ўся вышэйшая медычная думка, яго запрашалі ў губерскую клініку за ардынатара яе; вялікая княгіня Вольга сама прыслала наіўна-патрыятычнае запрашэнне: ідзіце да нас, у вайсковы шпіталь, арганізаваны аўгусцейшай сям'ёй для расійскіх ваякаў; пра доктара Нээрзона загаварылі ў Нямеччыне. Праз імперыялістычную вайну прышла вядомасць доктару Нээрзону, але ён зачыніўся ад яе ў свой асабнячок у павятовым горадзе Крушняярску. Выдатны гэты хірург вырошчваў у сваім садку тульпаны дзівосных колераў і памераў, праседжваў доўгія гадзіны ў земскай больніцы, рабіў там розныя аперацыі, насвістваючы пры гэтым гарэзныя мелодыі, а ўвечары—у зялёным фланелевым халаце, у мяккіх (гэткага-ж колера) пантоплях—седзячы ў гасцінай, слухаў, як грае на раялю дачка рамансы вялікага славянафіла расійскага—Барадзіна.

Потым прышоў з фронта сын, левую руку ахвяраваўшы Расійскай імперыі, якая ў сваю чаргу адзначыла гэту ахвяру Георгіеўскім крыжам. У асабнячку запанавала цішыня, усё радзей і радзей узнімаліся на вокнах запыленыя гадамі гардзіны,—у пакоях стаяў напаўзмрок, і сын, лежачы праз цэлыя дні на турэцкай софе, чытаў Блока і Бальманта. Доктарава дачка рыхтавалася ў „свет", у сталіцу, працягваць лінію бацькі—вучыцца на доктара, але праз вайну і неспакой бацькі не пушчалі яе з дому, з-пад свайго вока, чакаючы на лепшыя часы. Дачцы ішоў васемнаццаты год—пікантны ўзрост для маладое жанчыны, калі прырода бярэ яе за абедзве рукі і вядзе ў нязведаныя і непазнаныя светы жаданняў і пачуццяў, калі гэтыя светы жаданняў і пачуццяў выходзяць на вочы таямнічымі і рузнымі рэбусамі. Дачцы ішоў васемнаццаты год, а бязрукаму Юрыку было дваццаць пяць. Гэта быў мужчына,

што рана паспытаў з жыццёвага келіха і асалоды, і горачы і прэсненькай—прыперчанай для смаку—муці ў досыць вялікай порцыі, настолькі вялікай, што кожны наступны дзень ягонага бытавання не прадракаў нічога, апрача мяккага звона спружын у софе ды рамантычнай лухты Блока і Бальманта.

Ціхая, маленькая Элен, як клікаў яе муж—доктар Нээрзон, сваім розумам маткі адчувала, што маладым людзям—і сыну, і дачцы—патрэбны адтуліны, пэўная дысгармонія ў павольным безе іхнага жыцця, каб гэтае жыццё было цікавым, каб павольны бег яго абрастаў, як леташнюю сцежку свежая мурава, каляровымі кавалкамі весялосці і гарэзнасці. У гэтых меркаваннях была матчына сіла, сіла жыццёвае практыкі,—маці разумела, што праз гэтыя адтуліны можна ўратаваць дачку ад выпадковасцяй, прыўласных васемнаццацігадоваму ўзросту. Пра сына яна думала менш, глыбінёй свайго чуллівага сэрца разумеючы, што ён будзе выкіроўвацца ў жыцці сам, праз свой розум і праз свой-жа ўласны позірк на рэчаіснасць.

І аднойчы доктар Нээрзон быў прыемна здзіўлены маладой сакавітай гаманой, срабрыстым, як гавораць, рогатам і песняй, што перапоўнілі ягоны асабняк. У прыхожай яго стрэла жонка, з сарамлівай усмешкай на твары яна шапатнула яму:

— У Юрыка і Каці госці. Пераапраніся і прыходзь,—і яна чмокнула мужа ў шчаку.

Доктар Нээрзон, завязваючы шыкоўны—у блакітныя матылькі—гальштук, прыслухоўваўся да сумятні ў гасцінай і дабратліва ўсміхаўся ў люстра: ён любіў моладзь. У люстры доктар Нээрзон убачыў сваю лысіну, доўга і старанна загладжваў яе пасівелым валоссем, няшчадна паліваючы іх адэкалонай. У сваіх уласных вачах доктар маладзеў.

У гасцінай стрэлі яго шумна, крыкамі „гурра". Ён нарыхтаваў сюрпрыз: узняў руку і прымусіў сціхнуць. Ён абвёў вачыма ўсіх прысутных, убачыў прыгожую бялявую сяброўку дачкі, падышоў да яе і:

— Дазвольце быць вашым ухажорам на сёнешні вечар. А гэта—у адзнаку маёй вернасці!—і ён выцягнуў з-за пазухі чырвоны тульпан.

Моладзь запляскала ў далоні. Сюрпрыз быў самым сапраўдным: за вокнамі, на цёмных Крушняярскіх вуліцах разгульвала мяцеліца.

— Юрык! Юрык!—крычала праз гасціную сястра.—Праспявай што небудзь.

— Праспявайце! Абавязкова!—падхапілі.

Лямпу пад японскім каптурком перастав̌ілі на раяль, і на лакаванай паверхні раялю захісталіся каляровыя водбліскі. За раяль сеў малады доктар, бацькаў калега. Прысутныя прытаіліся хто дзе.

„В голубой далекай спаленке
ваш ребенок опочил...
Тихо вышел карлик маленький
и часы остановил".

...і за вакном—па Крушняярскіх вуліцах разгульвала мяцеліца, і ішла мяцеліца на горад з нерушаў, з бездаражжу, з чортава логава. І гэтым бездаражам—недзе пад Крушняярскам—выбіваліся на дарогу коні, упрэжаныя ў шырокія сялянскія сані. Пад кажухом на санях ляжала двух чалавек, а трэці, стоячы на каленях, гнаў коняй. Праз выццё ветру было чуваць, як нехта з гэтых двох стагнаў, раскідаючы па санях рукі. Трэці ад усяе сілы гнаў коняй, бо ён чуў гэты стогн, бо ён чуў яшчэ і стогн другога, чуў і тое, як гэты другі змоўк. І браў страх трэцяга адтаго, што адзін змоўк, і няхітры ягоны розум мог—не ў начы кажучы—меркаваць рознае. Стала зразумела чалавеку—трэцяму, што не накіраваць коняй на шлях, і трэба коням самім даць волю. І чалавек даў волю коням, і коні біліся ўначы з мяцеліцай, і ішла мяцеліца на іх у лобавую атаку.

Тым часам надыходзіў час вячэры. Доктарава жонка запрасіла гасцей у сталовую, і моладзь гуртам сыпанула за стол. Першую чарку налілі гаспадару, і доктар Нээрзон казаў тост:

— Хацеў-бы выпіць, шаноўныя мае, за сваю маладосць, але нічога не зробіш—выпіць за яе няма як.—Ён камічна развёў рукамі.—Але ў сёнешні вечар я адчуў сябе маладым, успомніў на студэнцкія гады.—Ён прыпыніўся, нешта ўспамінаючы.—Вы помніце... помніце!..—Пачаў адлічваць такт, рубячы паветра рубам рукі.

„Быстры, как волны, дни нашей жизни,
что день, то короче к могиле наш путь.
Налей, налей, товарищ, заздравную чару".

Рэзкі званок абарваў песню. Юры вышаў у прыхожую, адкрыў дзверы і—

— Мне патрэбен доктар!—перад ім стаяла ў аснежаным хлапечым кажушку расчырванелая ад марозу і шпаркае хадзьбы дзяўчына.

— Мне патрэбен доктар, дужа патрэбен,—паўтарыла дзяўчына і шпаркімі крокамі пайшла да дзвярэй сталовай.

Юры кінуўся за ею, забыўшыся прычыніць дзверы на вуліцу, і з вуліцы, з мяцельнае начы ўварвалася сцюжа. Сцюжа ірванула дзверы сталовай, міргнула велізарная настольная лямпа.

— Доктар, вас просяць у павяткоm. Іх прывезлі... удвух... адзін па дарозе памёр... Другі жыве, яго трэба выратаваць, абавязкова выратаваць!

З узнятымі чаркамі застылі па сваіх мясцох госці. Доктар Нээрзон спакойна апаражніў сваю чарку, вышаў у габінет.

— Юрык, прычыні дзверы,—нездаволеным тонам, рэзка загадала маці.—Пачакайце доктара ў прыхожай. Юрык, праводзь.

Ён пашоў за ею. У яе ўпала рукавіца, яны абое нахіліліся разам і траха што не ўдарыліся ілбамі.

— Прабачце.

— Дзякую, я сама.

Стаялі і маўчалі. Юры пазіраў на яе, на гэтае лёгкае стварэнне, з пяшчотным румянцам і велізарнымі, нечакана чорнымі вачыма.

— Што здарылася?—з простага далікацтва запытаў ён.

Яна ўздрыганула.

— Іх прывезлі... з фронта... Адзін—чырвонаармеец, комсамолец... А другі... гэта Краўчанка, вы, мусіць, чулі...

— Начальнік харчатрада, так?

— Так,—кіўнула галавой.

Вышаў доктар. Не спяшаючыся, шукаў сярод кучы адзежы свайго паліта, доўга і старанна абвязваў кашнэ.

Уваходзячы ў сталовую, Юры чуў, як казала сястра:

— Мы разам з ею вучыліся ў гімназіі... А цяпер проста не сустракаліся. Яна ў павяткоме працуе, большэвічка!—І яна голасна і нечакана зарагатала. -Давайце за большэвічку вып'ем! Ну, Юры?

— Без камедыі, Каця,—адрэзаў суха і сцісла.—Выбачце, я пайду лягу, галава нешта баліць.

Ён доўга стаяў у бацькавым габінеце ля вакна і бачыў, як разгульвае па Крушняярскіх вуліцах мяцеліца. У снежнай мітульзе мірсцілася яму: вайсковы шпіталь і ноч, вымераная гадзіннікавым ціканнем, бясконцая, цягучая ноч і боль у левай руцэ. Нехта ў супрацлеглым канцы палаты бяссільна стагнаў, потым сціх. Прышлі санітары з насілкамі, валтузіліся ля ложка, на якім заціх стогн. Ля дзвярэй дзяжурная сястра нешта ціха спыталася, і ёй адказаў санітар абыякавым салдацкім голасам: „Трыццаць сёмы вызваліўся". Потым зноў было ціха, і Юры лічыў, праз колькі ложкаў стаіць той ложак, на якім заціх стогн. Атрымалася: дзевяць. Юры дакрануўся спацелым ілбом да халоднае шыбіны, уздрыгануў. Прыслухаўся да цішыні ў хаце і ўчуў, як цікае ў сталовай гадзіннік. Шумела ад выпітага ў галаве. Ён падышоў да канапы і—стомлены—паваліўся на яе.

Тым часам доктар Нэерзон схіліўся над хворым Краўчанкам. Ён папраўляе пенснэ. Ён маршчыніць лоб. Ён нездаволена кажа:

— Так... так! Гэта не па маёй спецыяльнасці... Паклічце Окуня.

І ў дзвярах вырастае шырокая Тарасава постаць, ён падыходзіць да доктара, сваёй рукой сціскае ягоную—вітаецца:

— Маё прозвішча—Кавальчук, добры вечар, доктар. Што?—Ківае галавой на хворага.—Здае канцы?

— Не, што вы?—махае абодвума рукамі на яго доктар.—Хлапец дужы, не здасць. Але гэта, разумееце, не мая спецыяльнасць.

Тарас усміхаецца нечакана шырокай, надзвычай цёплай усмешкай.

— Ну, ну, доктар,—кажа ён мякка—Вы не саромцеся нас, мы людзі простыя. Толькі адно доктар: гэты малец нам да-зарэзу

патрэбны, самі разумееце—гэткі час. Окуня не знойдзеш, на раёне ён. Пайшла пошасць гуляць, у горад трапіць можа.

— І ўжо трапіла!—выпаліў доктар, і злымі, калючымі зрабіліся ягоныя вочы.—Тыфус, сыпняк! Везці ў барак хворага. Зараз-жа!

Потым перанеслі Краўчанку на армейскую двуколку і павезлі ў барак, і праз усю дарогу крычаў Краўчанка, і крык ягоны быў хрыплым стогнам.

— Васька! Васька!—бубнелі апаленыя вусны.—Васька! Бі яго, Васька! Не здавайся, Васька, не адступай, голуб мой.—І зноў стагнаў, зноў плакаў, раскідаючы па шынялі ўраз схудалыя свае рукі.

А Ваську—таварыша—Ваську, якога прывезлі разам з Краўчанкам у Крушняярскі павятком, Ваську нават не ўносілі ў хату, адвезлі ў больнічную пакойніцкую—і там заспаны санітар паклаў на Васькавы грудзі шматок паперы з нязграбна выведзеным надпісам: „З а р а з н ы“. Васька пралежаў у пакойніцкай да раніцы, пралежаў цэлую ноч, і мяцеліца хадзіла за ценкімі сценкамі пакойніцкай, біўся ў цесную фортку вецер, і снег праз фортку цярушыўся на Васькаў твар.

А раніцай над Крушняярскімі ваколіцамі сонца ўзыходзіла праз марозную мітульгу—яснае, спакойнае, безуважнае. Яркі быў колер сонца, і здавалася: тая-ж фарба на сонцы, што і на Васькавай труне. Ля больнічнае брамы сабраліся комсамольцы, і быў над імі новенькі сцяг з надпісам: „Крушняярская працоўная моладзь“. Воддаль ад натоўпу грудком стаялі музыкі-пажарнікі, курылі і жартавалі, чакаючы на работу. Заклапочаны Юрка Сяргейчык бегаў з пакойніцкай у больнічную канцылярыю, пырскаў разам з слінай клапатлівыя словы ў тэлефонную трубку, загадваў, пагражаў, прасіў. Верхам на кані прыехаў таварыш Тарас і з ім—Станіслаў. На белым кані—малады і радасны—Станіслаў Юткевіч уносіў дысгармонію ў абставіны. Прынамсі, так здалося Тасі, але яна спехам адвяла свае вочы ад Станіслававай постаці, і рукі спрытней пачалі ўвязваць адну да адней сасновыя лапкі—у вянок.

Юрка Сяргейчык залівіста гукнуў:

— Парадак! У шарэнгу—станавіся!

Ураз вуліцай апанавала цішыня, капельмейстар узняў руку, талерка барабаншчыка застыла ў паветры. З больнічнае брамы выплыла, ледзь гойдаючыся, яркая чырвоная труна, перавітая сасновымі вянкамі. Глуха войкнуў барабан, і флейты захваляваліся жалобнай мелодыяй. Шчыльнымі зрабіліся шэрагі—і роўнымі, пад адзін, людзі ў іх, толькі адно: над чалавечымі галовамі плыла чырвоная труна, развіваўся сцяг з надпісам„ Крушняярская працоўная моладзь“, і сонца, яркае сонца ішло над натоўпам.

...Яркае сонца. У маленькім павятовым беларускім горадзе, дзе няма высокіх будынін, дзе гарызонт шырокі,

свеціць сонца ў марозныя дні радасна. Яркае сонца. З ім звязана многа ўспамінаў нашага юнацтва—юнацтва нашай эпохі. Яркае сонца. Яно было сведкай Васькавага пахавання—нашага таварыша, нашага комсамольца, сведкай першага пахавання першай нашай страты... Ї ўспамінаецца мне: правым плячом трымаеш труну, цяжкую, безуважную. А перад гэтым—ноч, і праз яе: у клубе імя Трэцяга інтэрнацыянала—у прасторнай залі—ляжыць ён. Нас—чацвёра. Мы стаім у ганаровай варце. Ні шолаху, ні гуку. Праз шэраг расчыненых дзвярэй бачыш перспектыву пустых пакояў. Марозна. Кожныя паўгадзіны мы мяняемся, ідзем грэцца ў цесны пакоік з зыркім полымем „буржуйкі".

— Здаў канцы,—хмура кажа таварыш.

— Здаў,—згаджаюся.

А назаўтра—увечары, пасля прамоў і скупых гукаў жалобнага маршу на пахаванні—адвячоркам прыходзіць загад: грузіць дровы на вагзале. Хмурасць—з плеч! Прэч, жалобныя гукі маршу! Апошнія промні зімовага сонца яркнуць у снезе. Мароз ямчэе. Штабелі дроў узвышаюцца над табой непрыступнай цытадэляй. А там, у канцы жывога канвеера, ля вагона—песню, зачынаюць песню. Рот пеніцца ею, цела дужэе—

„Мы—маладая гвардыя
Рабочых і сялян"

і яшчэ:

„Смела, таварышы, ў ногу"!

— Эй, эй, давай!

— Не азірайся!

— Касцёр палі.

— Раз, раз—гээх!—Раз, раз—гээх! Раз, раз—эээ...

„Эээй, ухнем, эээй, ухнем,
Яшчэээ рааз, і яшчэ дваaa..."

— Угугу! Завялі!...

— Прыстануць скора, пачакай.

— Прыстануць? Эйш ты! Не прыстануць.

„Пад націскам белых наёмных салдат
Атрад комунараў змагаўся".

— Ну, ну! Весялей там! Раніца заспее.

Раніца заспее—невыкананне загаду, а выканаць яго—гонар, абавязак... перад сусветнай рэволюцыяй!

Камякі зямлі грузка стукаліся аб Васькаву труну, і стаяў у паветры ад гэтага стуката гул. Панурыя, разыходзіліся шэрагі з могілак. Вечарэла. Крывавілася сонца.

Праходзячы праз родны дом Тася ўспомніла, што даўно ўжо не заходзіла сюды, не гаварыла з бацькамі. Пахаванне навяло на яе журбу, і раптам дужа захацелася ёй пагаварыць

з бацькамі, выслухаць матчыны скаргі і злыя парадоксы бацькавы...—як-ні-як: свае яны, родныя. Тася ўзышла на ганак, наважылася націснуць кнопку званка, але ў гэты самы момант пад'ехаў Станіслаў.

— Здарова, Тасік.

— Добры вечар, Стась...

— Як Барыс?—не злазячы з каня, спытаўся.

— Барыс? З Барысам дрэнна... Глядзі, каб зноў на могілкі не прышлося ісці...

Станіслаў усміхнуўся.

— Гэта ты пад настрой, Тасік, кажаш... Барыс... Ён не такі, ён дужы.

— Эт, дужы!—махнула рукой.—Ты куды?

— У павятком. Думаў, што там будзеш, а ты да сваіх...

Яна падышла да яго.

— Не пайду... раздумала. А-ну, падвязі!—засмяялася гарэзна.—З табой паеду.

— І нікога не пасаромеешся?

— Анікога. Ну!

Потым яны стаялі ў апусцелым павяткомаўскім калідоры ля вакна. Таварыш Тарас першы раз за колькі дзён паехаў дадому, павяткомаўцы разышліся, і ў апусцелым будынку хадзіла гулкае рэха. Тася рысавала пальцам на затуманенай шыбе, слухаючы Станіслава.

— Не, Тасік, так паміраць я не хочу,—казаў ён.—Што гэта за смерць? Брр!... Агідна робіцца ад аднае толькі думкі. Іншая справа, скажам, памерці на фронце. Разрыў шрапнелі—і тваё цела ў шматкі... Хутка і без разваг. Так лепш...

— Пакінь пра гэта гаварыць, Стась...

— Ага!—усміхнуўся.—Цяпер пачала ты прасіцца. Ну, добра, добра. Я буду гаварыць пра іншае, пра жывое...

У гэту самую хвіліну недзе ўзнік густы і трывожны рокат, дзвынкнула шыбіна, і рэха гэтага дзвынкату пракацілася па калідоры. Тася інстынктыўна прыціснулася да Станіслава, і абое яны пачалі прыслухоўвацца да надвячоркавай цішыні. Раптам у дзяжурным пакоі рэзка і трывожна зазваніў тэлефон, і Стась кінуўся да яго.

У надвячоркавай цішыні гул дужэў.

Разам з гулам узрос пярэпалах.

Па Крушняярскіх вуліцах замільгалі людзі, на ўскраіне танклява загула сірэна шчапіннай, даўгія шыфры тэлефонаграм талі трывогу. Праз колькі хвілін па вуліцы праляцеў на кані таварыш Тарас, няўтульныя павяткомаўскія пакоі напоўніліся народам. Народ густа набіў калідор, і таварыш Тарас вырас у людскім месіве на галаву вышэй.

— Таварышы!—строга і голасна сказаў ён, і ў калідоры ўзнікла трапяткая цішыня.—Няма часу ладзіць сходы і паседжанні. Тыя весткі, якія толькі што атрыманы, абавязваюць нас спяшацца. Разыйдзіцеся па сваіх калектывах і пастаўце на ногі ўсіх, хто можа трымаць вінтоўку. Імем совецкай улады абвяшчаю ўсеагульную мабілізацыю.

У кашарах узнік адпраўны пункт. Тут выдавалі зброю, фармавалі атрады, прызначаліся камандзіры. Густа сярод народу было моладзі, і Юрка Сяргейчык, матляючы лапавухай шапкай меў у гэту ноч вялікі клопат: ён ішоў на фронт на чале комсамольскіх атрадаў.

— Толькі нядаўна першых выправілі,—казаў паджылы слесар, прыкурваючы цыгарку.—Сына разам з імі, аж цяпер і сам іду...— і ён неяк хітравата ўсміхнуўся.

— Нічога, дзядзька,—нібы суцяшаў яго чарнявы падлетак у ватоўцы.—На фронце з сынам сустрэнешся, весялей будзе.

Слесаравы вочы ззялі дабратлівым смехам.

— Мне што... у мяне на плячах шмат вінтовак было... імперыялістычную ўсю прайшоў. Ну, а, скажам, ты. Хлапец ты малады. Гадоў, мусіць, дваццаць...

— Васемнаццаць мінула.

— Ну, вось, бачыш... Хіба табе на фронт? Табе кнігу ў рукі ды навуку грызці..

— От і адваяваць, дзядзька, права на гэтую навуку трэба. Адваяваць, дзядзька...

Атрымаўшы вінтоўкі, яны разам—стары і малады—вышлі на вуліцу. Наўкола кашараў палыхала зарыва кастроў, ля якіх грудкамі грэліся людзі. Ля аднаго з кастроў маладыя галасы бойка рэзалі мароз і цемень:

„Смело мы в бой пойдем
За власть советов.
И как один умрем
В борьбе за это“.

І потым, як вінтоўкі былі раздадзены, як паарганізоўвалі атрады, гэты markanaly... 

— Таварышы! Дазвольце назваць вас ганаровым і слаўным імем—чырвонаармейцы.

Магутнае „гуррра!“ выбухнула ля кашар, мацней захваляваліся агні кастроў, крута пачаў прытанцоўваць конь пад таварышом Тарасам.

— Банды генерала Белова наступаюць на горад. Губерня занята. Нашы чырвоныя атрады гераічна адстойваюць Крушнярск. Іх мала. Вы ідзіце на падтрыманне. Зычу—стойка змагацца і перамагчы. Няхай жыве савецкая ўлада, таварышы!

Праз горад ішлі з песнямі; за шлагбаўмам, калі міргнула чырвонае семафоравае вока, песні замоўклі, і ў твар байцам ударыў вецер і снег. Паперадзе атрадаў ехаў стары партызан Панас Макееў, падпольшчык, машыніст дэпо. А праз кіламетры тры ад атрадаў на ўспененым белым кані, наўздагон, у мітульгу, у ноч, у невядомасць імчаўся Станіслаў Юткевіч, несучы на грудзях пакет з адрасам: ваенкому Граю.

*(Працяг будзе)*

**А. ГУРЛО**

## БАРЫКАДЫ

Яшчэ не забыты тых боек дэталі
(Пра іх у жыцці мы не раз ўспамянём),
Калі з нас над кожным жар-кулі ляталі,
Калі мы заўзята ў адказ грукаталі
Больш моцным—гарматным агнём.

Было тое золкам. Ўздымалася мора,
Па клічу компартыі збіралася раць.
Яшчэ не патухлі дасветныя зоры,
Яшчэ не змяняўся на ранку дазорац,
Пабудкі гарніст і не думаў іграць,—

А мы былі ў зборы, аддалі швартовы
І выбралі якар, каб рушыць у даль.
Паслалі па радыё некалькі словаў:
— Кранштадт. Выканкому. Мы к бою гатовы.
Чакайце падмогі—мы здолеем даць.

Два лепшых эсмінцы, два лепшых ваякі
Па клічу компартыі ішлі ў Петраград.
Імёны эсмінцаў: „Самсон“, „Забіяка“,
На іхніх на сцягах напісан быў заклік:
— За ўладу Советаў—ў агонь барыкад.

Ішлі мы паспешна, ішлі мы напорна,
Нізалі вінтамі успененасць хваль.
Мы зналі, што шлях наш не будзе паўторным,
Мы зналі: за дымам і куравам чорным
Навек праясніцца зацмелая даль.

Нам вецер сустрэчны нямала пярэчыў,
Хадзе заміналі марскія валы,
Але нас віталі пры кожнай сустрэчы
Мільёны удараў сардэц чалавечых,
Якія знімалі з рук, ног кандалы.

Надвечар сустрэлі нас горача хвалі
Халоднай буянай красуні—Невы,
Тады калі якар мы свой аддавалі,
Калі мы „Аўроры“ сігнал падавалі,
А разам з сігналам прывет агнявы.

На небе гарэлі вячэрнія зоры,
Зямлю-ж устрасалі грымоты і град.
А мы, пасланцы ад Балтыцкага мора,
Што былі на фронце яшчэ толькі ўчора,
Сягоння на вокліч прышлі барыкад.

У крэпасці вораг і вораг ў палацы,
На вуліцы вораг на кожным рагу.
А мы парашылі адкрыта змагацца,
Памерці ад кулі, а толькі не здацца,
Не здацца на здзек і на глум.

І вось з захапленнем, адвагай і пэнтам
Уступілі ў апошні рашучы мы бой.
Мы шчыра сказалі сабе і сусвету,
Мы ўсе прысягнулі уладзе Советаў,
Што шлях да комуны праб'ем барацьбой.

Тады зарадзілі вінтоўкі, гарматы,
Хто рушыў пад крэпасць, хто рушыў на пляц,
Дванаццаць на вежы прабілі куранты.
Рады сашчытнілі атрады дэсанта,
А залапам „Аўрора“ затрэсла палац.

Вулканнаю лавай атрад за атрадам
Ў шынелях, ў бушлатах, у світках, ў пальто
За ўладу Советаў—працоўных уладу—
Пад цокат вінтовак, пад гук кананады
Імкнуўся у наступ змаганцаў паток.

Ўжо крэпасць узята—палац не здаецца.
Напар мас мацнее. Бадзёрыцца раць.
Варожае сэрца цішэй ужо б'ецца.
Хвіліна яшчэ—і крывёй абальецца:
Часоваму ўраду пара уміраць.

Куранты прабілі яшчэ разоў з пару,
А крэпасць шугнула разоў з пяць падрад,
І вораг знясілеў ад моцных udaраў.
Стаў вецер раздзьмухваць начніцы і хмары,
Канаў у агоніі часовы урад.

А мы услаўлялі паход перамогай,
Кастрычніцкім бляскам зіялі сцягі,
Ішлі мы з компартыяй адважна у ногу.
Скрозь-на-скразь шырэлі шляхі і дарогі,
Зычэў творчым ўздымам змагальніцкі гімн.

12-X 1933 г.

ЯКУБ КОЛАС

# ДРЫГВА

## XXVI

Васіль Бусыга і яго прыяцелі з напружанасцю чакалі першых данясенняў ад свайго „партызана“ Саўкі Мільгуна. Але праходзілі дні, а Саўка не паказваўся і не падаваў аб сабе ніякіх вестак. Гэта акалічнасць пачынала непакоіць войта і наводзіць на яго розныя мыслі. Хоць і не ў такой ступені, але непакой гэты адчувалі і войтавы прыяцелі. Часамі, сустрэўшыся, яны так ці іначай завядуць гутарку пра Саўку.

— Нешта-ж не чуваць нашага Саўкі,—гаворыць войт і ўважліва пазірае ў вочы Брую. Бруй бачыць, што войту не церпіцца.

— Не чуваць,—пацвярджае разважлівы Бруй.

— Не чуваць падлы,—паўтарае Бірка.

— Што-б гэта значыла?—войту хочацца ўсё-ж дайсці прычыны.

— Справа, бачыш ты, далікатная,—становіцца на шлях разважання развахлівы Бруй:—вы пастаўце сябе на яго месца— хутка і не зробіш тут. Гэта не тое, што ўзяў цэп і пашоў малаціць.

— Ды і цэп узяўшы, адразу малаціць не будзеш,—устаўляе слова і Бірка.

— Саўка, на мой розум, і добра робіць, што не спяшаецца,— гаворыць далей Бруй:—тут, браткі, трэба спрытна падыйсці. Лепш памарудзіць, але зрабіць гладка і акуратна. Цяжэй за ўсё зрабіць першыя крокі... Трохі пачакаем.

Войт паддаецца Бруевым разважанням і на некаторы час заспакойваецца, але ўсё-ж цень трывогі дзесь туліцца ў яго сэрцы, і варта было яму застацца аднаму, каб закалыханая Бруем трывога абуджалася ў ім ізноў.

Хоць войт і меў прыяцеляў у асобах Бруя і Біркі і начальніцкае падтрыманне з боку пана Крулеўскага, тым не меней ён часамі адчуваў сваю адзіноту і адарванасць ад грамады. Адчуванне адзіноты паглыблялася ў ім яшчэ тою акалічнасцю, што з таго часу, як стаўся ён войтам, паміж ім і Аўгіняй лёг цэлы рад непаразуменняў. Вясна-ж і тыя настроі, што насіліся ў самым паветры, усе гутаркі, звязаныя з няяснымі і грознымі падзеямі, што мае прынесці з сабою вясна, і тая напятая засцярожлівасць, што панавала ўсюды, куды ні паткнецца войт, усё гэта выводзіла яго з роўнавагі, прыгнятала яго. Пад уплывам гэтых настрояў Васіль хацеў ужо пераглядзець свае адносіны

да Аўгіні за апошні час і пайсці на згоду. Ён толькі вылучаў зручную мінуту, каб зрабіць гэта палітычна, не паступаючыся годнасцю войта, гонарам мужа і мужчыны наогул. Але здарылася адна праява, што яшчэ глыбей выкапала расколіну паміж імі і паставіла Аўгіню яшчэ далей ад Васіля.

Раз пад вечар ішоў Васіль па вуліцы. З таго часу, як дзед Талаш збег з дому і заставаўся на волі, ды не сядзеў, злажыўшы рукі, дзедава хата набывала нейкую ўладу над войтам, і ён ніколі не мог спакойна праходзіць міма яе. Дзедава хата як-бы пасміхалася з войта і з яго марных старанняў злавіць небяспечнага паўстанца. Усе-ж тыя гутаркі і чуткі, што наверчваліся каля асобы дзеда Талаша, сеялі непакой у войтавым сэрцы. Апроч усяго іншага, Васілю было проста непрыемна, што ён, войт, не гледзячы на ўсе захады, каб злавіць старога Талаша, аставаўся, як кажуць, з носам. Праўда, цяпер была надзея на Саўку Мільгуна, але Саўка да гэтага часу не падае аб сабе ніякага голасу.

Васіль прыпыніўся ў прыхованым закутку, пазіраў на Талашову хату і разважаў. Тут прышла яму ў галаву думка—ці не лепей было-б проста паставіць патайную варту, нават з польскіх салдат? Хіба пагаварыць аб гэтым з панам Крулеўскім?... Не, трэба счакаць яшчэ: а ну-ж з'явіцца Саўка з добраю навінаю. І бачыць Васіль—з двара Талашовай хаты выходзіць жаночая постаць. Жанчына спасцярожліва азірнулася па баках і борздзенька накіравалася ў бок сяла, але не пашла вуліцаю, а павярнула загуменнем у задворкі. На дварэ ўжо змерклася, і пазнаць жанчыну было трудна. Васіль зацікавіўся і нават злёгка захваляваўся і вышаў з свае засады, не спускаючы жанчыны з вока. Туляючыся каля будынкаў, ён пашоў назіркам туды, куды пашла і жанчына. У тую хвіліну ён і сам добра не ведаў, чаго ён высочваў гэту жанчыну. На сярэдзіне сяла ён згубіў яе. Як ганчак, збіўшыся з зайцавага следу, Васіль прашнураваў туды і сюды, а потым выбег на вуліцу: тая-ж жаночая постаць мільгнула на вуліцы і шмыгнула ў вароты войтавага двара. І толькі цяпер ён пазнаў, што гэта Аўгіня, яго жонка. Здзіўлены і яшчэ болей усхваляваны войт спыніўся, як аслупянелы: чаго хадзіла яна туды? Які мае там яна інтарэс? Цэлы жмут думак і пачуццяў калыхнуўся ў Васілёвым сэрцы. Страшная думка раптам працяла яму *галаву:* ці не хадзіла яна на пабачэнне з Мартынам Рылем? Аж горача зрабілася войту. Як-жа дазнацца яму праўды? Чаму яна хадзіла туды? чаго? І да каго хадзіла?

Войт зусім разгубіўся. Шалёная злосць прашыбла яго ўсяго. Ён парывіста рушыў у свой двор, каб не даць апамятавацца здрадлівай жонцы і захапіць яе знянацку. Злы, раз'юшаны, са сцятымі зубамі і з ссунутымі брывямі пераступіў ён парог свае хаты. Аўгініны вочы—зоркія вочы: яна заўважыла Васіля, калі ён ішоў за ёю назіркам, і адразу пачула, што папалася, і што з-за гэтага будзе вялікая перапалка, а можа яшчэ і горшае што. Выкручвацца тут не выпадала. Апраўдвацца—але ў чым?

Яна-ж проста хадзіла да бабкі Насты. Хіба яна не мае права хадзіць, куды яна хоча? Што ёй да таго, што ён закляты вораг старога Талаша? Але ўсё-ж нейкі голас з нутра ёй пярэчыў— раз ён твой муж, то з мужам ты павінна быць заадно. Ды голас гэты быў дужа слабы, і слухаць яго яна не хацела. І Аўгіня спакойна, як чалавек, упэўнены ў немінучасці ліха, гадала, з якога боку і з якою сілай наваліцца на яе гэта ліха.

— Ты дзе была?—націскаючы на „дзе", запытаў Васіль, а зеленкаватыя, поўныя падазронасці вочы яго пазіралі на Аўгіню. Аўгіня старалася не глядзець на Васіля і, толькі пачуўшы грозны тон у яго голасе, зірнула на яго халоднымі, чужымі безуважнымі вачамі.

— А што табе да таго, дзе я была? І чаго ты глядзіш такім зверам?... Не баюся я цябе!—апошнія словы яна сказала ўзняўшы голас.

— Кажы, дзе была, гадзюка ты, шлюха!—загрымеў на ўсю хату Васіль, сашчаміўшы зубы, і ўсутыч падступіўся да Аўгіні. Голас яго адбіўся ў кожным закутку хаты і вострым болем адгукнуўся ў сэрцы дзяцей. Як асіна, закалацілася Алеся. З немым крыкам, белая, як палатно, кінулася яна да маткі, абняла яе моцна рукамі, каб загарадзіць яе сваім кволым дзіцячым целам ад бацькавай ярасці. Пятрок і Грышка знямелі ад страху, стаіліся каля печы і пазіралі на бацькоў перапалоханымі вочкамі. Нават дзед Купрыян прысеў на палатках і падняў на Васіля свае мутныя старэчыя вочы.

— Чаго іх там чэрці дрэнчаць?—ціха сказаў ён, хутчэй да самога сябе, чым да Васіля і Аўгіні. Хацеў яшчэ параіць Васілю ўзяць лейцы ды лепей лейцамі сербануць разы са два, калі яна вінавата, але не сказаў, і толькі патрос галавою.

— Горшай гадзюкі, як ты, няма... Чаго ашчэрыўся, як звер? Дзяцей на смерць перапалохаў. Чым яны вінаваты?—спакойна, але цвёрда азвалася Аўгіня. Яна ўся траслася, але роўнавагі не губляла.

— Прызнавайся, чаго ты хадзіла да старога разбойніка?

Замест адказа Аўгіня схапіла клубок нітак і шпурнула ім у чорную Васілёву бараду.

— Вось па што хадзіла. З'еж яго.

Клубок ніцяй, кінуты Аўгіняй у войтаву асобу, адыграў ролю халоднага душа. Збіты з тропа, Васіль недаўменна пераводзіў вочы то на клубок, то на Аўгіню. У гэтай стычцы з Аўгіняй ён чакаў дазнацца чагось большага і страшнейшага за гэты клубок ніцяй. Запал яго асеў, гарачка спала. Цяпер кіраўніцтва далейшаю сваркаю ўзяў у ім войт.

— А чаму гэта ты носіш туды кудзелю?

— А ты што ж—забароніш мне?—дзёрзка запытала Аўгіня.

— І забараню,—тупнуў нагою войт.

— Мамка, маўчы! Не сварыся з татам!—залемантавала Алеся, націскаючы на матку сваім кволым целам, каб адвесці яе далей ад грознага і страшнага войта.

— Я не твая падданая і не нявольніца, каб слухаць твае забароны.

Войт шырока расплюшчыў вочы.

— Дзе-ж гэта набралася ты такой вольнасці? — Злы смех пачуўся ў войтавым запытанні.—Можа і ты ў лес збіраешся?

— Ды ўжо-ж лепей у лес ісці, як быць такім войтам, як ты.

Новая хваля злосці прашыбла войта. Але ён цяпер ужо не схібіць—ў яго ёсць цвёрдая лінія, і ён ведае, як павесці справу, і ведае, чым кончыць сваю гэту стычку з Аўгіняй.

— Гэта ты ў Талашоў набралася такога розуму? Ці можа навучыў цябе Мартын?

Назваўшы Мартына, Васіль зразу адчуў усю нянавісць да яго і да Аўгіні. Таксама і Аўгіня не магла спакойна пачуць гэта імя.

— Хто-б сабе ні вучыў, абы навучыў. А вось цябе дык ніхто не навучыць. І людзі глядзяць на цябе, як на воўка. Ты сам сабе яму капаеш...

— Ты мне капаеш яму!—перапыніў Аўгіню Васіль:—як ты смееш хадзіць да гэтых Талашоў і кампанаваць з імі? Хіба гэта людзі? Разбойнікі, галадранцы, праступнікі! Ці табе хлеб мой гаспадарскі надакучыў? Ці табе няма ў што адзецца, што водзіш з імі дружбу? Хто-ж ты пасля гэтага?

— Што ты папікаеш мяне сваім хлебам?—зававлівыя Аўгініны вочы сталі злымі і халоднымі:—хіба-ж я не працавала? Не зарабіла сабе на хлеб, на адзежу?

Яна заплакала і, змяніўшы голас, сказала:

— Дык няхай-жа ён агнём пойдзе, твой хлеб і твая адзежа! Лепш-бы я батрачкаю засталася.

— А, абжэрлася! Батрацтва захацела?–Васілёвы губы пачварна скрывіліся, чорная барада заківалася:—Дык забірай свайго байструка і—марш з мае хаты! Вон, каб тут і смроду твайго не было! Не трэба мне здрадніцы і ворага ў хаце! Вон!

Схапіў за плячук Аўгіню і з сілаю штурхнуў яе ў дзверы. Алеся, прыліпшы да маткі, хіснулася разам з ёю і стукнулася галавою аб касяк. Яна схапілася рукою за галаву, але не плакала і не крычала, а толькі калацілася ўся, як у ліхаманцы. Пятрок і Грышка кінуліся з плачам да маткі і таксама пачапляліся ручкамі за яе адзежу.

Такая горкая крыўда і такая абраза.

Нічога падобнага не зрабіў так з Аўгіняй ніхто на свеце. Яна сама перапалохалася не менш за Алесю. Жахліва зірнула на раз'юшанага войта, потым прытуліла Алесю.

— Дачушка мая. Галоўку табе пабіў гэты звер?

— Мамка! На што ты сварылася з татам?—з дакорам запытала матку ціхенька Алеся.

А Васіль у парыве дзікага буйства рынуўся да ашэстка, стаў зрываць Аўгініну і Алесіну адзежу і кідаць яе пад ногі.

— Забірайце свае транты і не мазольце мне вачэй. Годзі.

Потым паваліў на бок куфар, ускочыў на яго з ботамі і пачаў таптаць і біць яго абцасамі.

Аўгіня моўчкі надзела кароткі кажушок, накінула на галаву цёплую хустку, адзела Алесю.

— Пойдзем, дачушка: нам няма тут месца.

Пятрок і Грышка паднялі лямант.

— Не ідзі, маці!

— І мы з табою!

— Марш на печ,—тупнуў на іх бацька.

Хлопчыкі пакорна выпусцілі з рук матчын кажушок і з апушчанымі галовамі пашыбавалі ў падсуседзі да дзеда Купрыяна і там пачалі голасна плакаць.

— Не плачце, дзеткі,—сказала да іх маці.—Я вярнуся і вас вазьму.

— А скулу табе!—крычаў Васіль:—Хопіць з цябе твайго байструка

— Ну, гэта мы яшчэ пабачым,—і пагроза чулася ў Аўгініным голасе.

Васіль расчыніў дзверы. Аўгіня, не чакаючы новага штурхеля, узяла за руку Алесю і ступіла за парог у цемру зімняга вечара.

Назаўтра па вёсцы Прымакі—так звалася вёска, дзе жыў дзед Талаш—толькі і гутаркі было, што пра Аўгіню ды пра яе поўны разрыў з войтам Васілём Бусыгам. А пад вечар таго-ж дня другая навіна не меней здзівіла Прымакі: Талашова хата і ўсе яго будынкі засталіся пустымі, пакінутымі гаспадарамі.

## XXVII

У Саўкі Мільгуна выпрацаваўся свой погляд на рэчы: лепей спазніцца, чым не ў часе схапіцца. Вось чаму, развітаўшыся з Максімам, павольна, не спяшаючыся, пасоўваўся ён у бок Вепраў. Ды й чаго наогул спяшацца? Усё-роўна, спяшайся, не спяшайся, а свайго не мінеш. У Вепрах Саўка запыніўся на некаторы час: былі ўсе падставы для таго, каб пабыць там даўжэй. Па-першае, там было многа народу, моцна пакрыўджанага палякамі: у Вепрах палякі забілі Кандрата Буса, спалілі Мартынаву хату. Наогул Вепры абадралі яны, як ліпку. Па-другое, у Вепрах былі і Саўкавы прыяцелі, даўнейшыя хаўруснікі па часці канакрадства. Праўда, справы гэта не такія ўжо пачэсныя, каб на іх тут доўга спыняцца і раззвоньваць, але ўспомніць пра іх у добрай кампаніі пры чарцы самагону ўсё-ж можна было, асабліва калі прыняць пад увагу, што рабіліся яны яшчэ за царом. А ў Саўкі якраз і аванс быў, выданы яму войтам і яго прыяцелямі. Такім чынам у Вепрах прабыў Саўка дзён тры ці чатыры.

І трэба сказаць, дарма часу ён і тут не зводзіў: і тут ён пашыраў, праўда, пад вялікім сакрэтам, тыя-ж погляды, аб якіх расказваў Максіму, гаварыў аб сваім замаху стаць партызанам. У гэтай справе ён ужо набіў, як кажуць, руку. Ён так захапіўся партызанствам, што і сам пачынаў верыць у яго. Але за гэты час адбыліся некаторыя падзеі, у выніку чаго сюды, у Вепры, прышла Талашова нявестка і таксама па сакрэту расказала Мартынавай жонцы пра тую ролю, якую адвялі Саўку войт і яго прыяцелі. Вепраўцы, дачуўшыся аб гэтым, былі дужа абураны і невядома, што сталася-б тут з Саўкам, калі-б не прышоў сюды Талашоў Максім і не перадаў загад свайго бацькі накіраваць Саўку ў Карначы да Цімоха Будзіка. Гэтым вырашэннем справы усе засталіся задаволены: сам Максім, бо ён выпаўніў бацькаў загад знайсці Саўку, каб накіраваць яго да Будзіка; вепраўцы—ім не трэба было думаць, што зрабіць з Саўкам. Задаволены быў і Саўка: ён знайшоў тое, чаго шукаў.

З Вепраў падаўся Саўка ў Карначы.

Цімох Будзік доўга і ўважна паўзіраўся ў Саўку Мільгуна. Саўку было нават трохі няёмка пад такім пранізлівым позіркам Цімохавых вачэй. Але ён храбра вытрымаў гэты выпрабоўваючы позірк і ў сваю чаргу, не маргнуўшы вокам, пазіраў на Цімоха.

— Дык гэта ты і ёсць той самы Саўка Мільгун?—запытаў нарэшце Будзік.

„Пры чым тут той самы? і чаму той самы?“ Сам сабе падумаў Мільгун. У гэтым „той самы“ яму пачулася нешта такое, што шоргнула па ім, як кажухом па печы.

— Як гэта „той самы“... Хіба ёсць яшчэ і не той самы Саўка Мільгун, і ты ведаеш такога?—пацікавіўся Саўка.

— Можа і ёсць, можа і ведаю,—многазначна ўсміхнуўся Цімох, і смех не зусім ішоў да яго суровага твару.

— Здаецца, як бы я цябе дзесь бачыў,—Цімох зноў паглядзеў на Саўку.

— Можа і я цябе дзесь бачыў,—і Саўка таксама паўглядаўся ў Цімохаў твар, падкрэсліўшы слова „дзесь“.

— А дзе было гэта „дзесь“?—запытаў Цімох.

Саўка хітра зірнуў на Будзіка.

— Калі не памыляюся, дык у Мозыры елі царскія сыры.

Саўка намякаў на Мазырскі астрог. Ён прасядзеў там цэлы год, як асуджаны за палітычную справу: за распаўсюджванне пракламацый. Гэта акалічнасць, паказваючы Саўку з новага боку, вымагае тлумачэння. Справа тут вось у чым. Саўка ведаў, што асуджаныя за „палітыку“ карыстаюцца павагаю з боку шырокіх колаў грамады. На гэтым ён і пабудаваў сваю тактыку. І ў апошнія часы, калі ён ішаў на лоўлю, гэта значыць красці коні, то браў з сабою і пракламацыі. Яго злавілі як канакрада, але ў яго аказаліся пракламацыі. І судзілі Саўку не як канакрада, а як „дэмакрата-соцыяліста“.

Цяпер Саўка з энтузіязмам хваліцца, што і ён змагаўся з царскім „прыжымам“. Цімох Будзік, як ужо вядома, адбыў два гады арыштанскіх рот за падпал панскай стадолы, сядзеў як крымінальнік.

— Гм! так, так! Цяпер помню,—рэзюмаваў успаміны пра былое Цімох:—а цяпер, значыцца, ваяваць з панамі?

— Ваяваць, брат, да канца ваяваць,—сказаў Саўка і рашуча кіўнуў галавою.

— Ну, то і добра. Завяду я цябе да нашых і пазнаёмлю з нашым атаманам.

Дзед Талаш, так удала вырваўшыся са свайго палона, заняўся Саўкам Мільгуном: што з ім рабіць? Як паступіць з ім? У дзеда Талаша было многа розных праектаў, але паколькі гэта справа мела грамадскі характар, то дзед Талаш палічыў болей правільным перадаць гэту справу на вырашэнне партызанскай грамады, у якой ужо складаліся свае парадкі і законы. Якраз гэтымі днямі партызанская грамада значна павялічылася. Партызанскі рух з набліжэннем вясны рос і шырыўся. Сюды прышоў Марка Балук з-пад Цернішч. Прышоў ён адзін, але ў яго была свая грамада адважных людзей. Яму трэба было звязацца з партызанамі дзеда Талаша і выпрацаваць план сумеснага дзеяння.

Аўтарытэт Маркі Балука высока стаяў у вачах тутэйшых партызан. Прывёў яго Мартын Рыль, і сустрэлі яго з радасцю. Дзед Талаш моцна і доўга трос яго руку, пазіраў яму ў вочы.

— Дай-жа, саколе, паглядзець на цябе. Чуў я, чуў пра Марку Балука. Шукаў цябе, сынку, эге-ж! Жонку тваю выпадкам спаткаў. Аб табе гутарылі.

Прыход Маркі Балука, набліжэнне вясны і пашырэнне партызанскага руху высоўвалі цэлы рад новых пытанняў, аб якіх трэба было пагаварыць. Нараду правялі ў лесе. На нарадзе былі Марка Балук, Мартын Рыль, Цімох Будзік, Нупрэй, дзед Талаш і некалькі радавых партызан. Гаварылі аб формах сувязі сярод партызан, абмеркавалі ўмоўныя знакі, каб пазнаваць сваіх, аб вярбоўцы людзей у партызаны, аб размежаванні раёнаў баявога дзеяння. Калі ўсе гэтыя пытанні былі абмеркаваны, выступіў дзед Талаш, каб расказаць пра Саўку Мільгуна.

— А цяпер, хлопцы-малайцы, раскажу вам адну рэч,—пачаў дзед Талаш:—памятаеце вы, што гаварыў нам тав. Букрэй? Ён гаварыў, што да нас будуць прыставаць і нашы ворагі... Як ён іх называў? забыўся.

— Правакатары!—падказалі дзеду.

— Во, во, гэтыя аматары. Вось-жа ён і не памыліўся. Я маю пэўныя весткі аб тым, што Васіль Бусыга з нашай вёскі і яго прыяцелі-багацеі нанялі злодзея, Саўку Мільгуна, каб ён, прыкінуўшыся нашым чалавекам, прышоў да нас, як партызан-ваяка. Праз гэтага злодзея яны хочуць выведаць усе нашы сакрэты, а нас прадаць панам. Чуеце, што робіцца? Да чаго дадумаліся

— Кінь трапацца, таварыш начальнік... Больна вучаныя, светам кручаныя... Мы-ста паленыя, смаленыя, у сямі вадах саліліся, салавецкаму богу маліліся... і вот табе за руб за дваццаць... пажалуйце брыцца, у канале мыцца...

— Уга-а... А я і не ведаў... Гэткая сіла марнуецца... Да мы цябе, голуб, пярвейшым чалавекам над агітбрыгадай паставім... Людзей жа нехватка... Давай ка фамілію сваю, браток, ды назаўтра айда ў брыгаду, частушкі будзеш складаць... Людзі будуць слухаць... Ды якія людзі... Не рураўцаў адпетых сотня, а ўсім лагерам песні твае паслухаем.

— Мне што... Загадае Андрэй Андрэевіч, буду пець... На язык я васцёр...—і ўтароплены ад пахвал філон—вяртлявы, рухавы—ушыўся за спіну другіх, каб не стрэцца вачыма з начальніцкім зрокам: цёплым, ясным і такім-жа глыбокім, пранізваючым.

— І толькі з-за нар з куткоў раздаваліся адзіночныя галасы:

— Пра работу ты кінь, начальнік...

— А што?

— Работа нам не да твару. Няхай кулак працуе, яму і лапата ў рукі. У яго і здатнасць на гэта: быў чэравам земляным, чарвяком земляным і застаўся... Дык контрыкі няхай потам умыюцца... Колькі то гады нашаму брату нашкодзілі...

— А вы?

— Мы што... Мы—чэсная пролетарыя...

Выбухі рогату сатраслі жоўтыя сцены бараку. Зыбануліся лампы пад столлю, разганяючы цені на нарах. Нават пануры Андрэй Андрэевіч, што сядзеў бязучасны і калупаўся ў разбітай гармоні і той не сцярпеў і, хапіўшыся за бакі, прыпадаў аж да самых нар ад разухабістага смеху і рогата. У жарты нават укінуўся:

— То-ж, чорт стрыжаны, адпаліў... Пролетарыя... Чэсная... Калі б чэсць тваю ды ў канале абмыць, мора Белае пачарнее... Таму і баімся мы работы гэтае, каб мору канфуз не вышаў...

— А мы на мора ўправу большэвіцкую знойдзем...—на жарт адказаў жартам начальнік і ўжо ў сур'ёз:

— А вы падумайце ўсё-ж, мазгой пашаруйце... Часу хапае ў вас...

Развіталіся позна. І калі вышлі з бараку прыспешыў хаду таварыш Пірын—начальнік, кідаючы на хаду скупыя словы загадчыку участка, маладому і рухаваму чэкісту:

— Дык як жа будзе?

— Усё, што маглі, рабілі... І ўгаворы, і найлепшыя выхавацелі. З месца ні на кропку, упартыя, як чортавы лбы...

— Ну?

— Трэба нешта рабіць яшчэ... Завадатарам у іх Андрэй Андрэевіч, усімі канаводзіць... Ізаляваць хіба яго, адаслаць на прыемнік, няхай на Салаўкі ізноў... Дзе ты яго паправіш...

Шлі мяккай пяшчанай сцежкай па абочыне недаробленага яшчэ шлюза, і ў цішыні ночы чуваць было, як шархацяць рэдкія пяшчынкі, скачваючыся па гранітных сцежках канала. Таварыш Пырын маўчаў, прыслухаўся да гэтых пяшчынак, да ціхага падзення вадзяных кропель, да ледзь чутнага цурчэння непрыкметнага струменчыка вады, які слязіўся, праслізаўся скрозь тысячагадовыя тоўшчы граніта, дыябазавыя пракаветныя залежы.

— То-ж сілішча... Гэткая сіла... Камень крышыць...

Праз шчыліны недаробленых варот струменчыкі білі фантанамі, рассыпаліся пырскамі, наганялі рабацінне на соннае вадзяное дно. Расплываліся ў ім, калыхаліся празрыстыя водсветы месяца. І звонкае цурчэнне струменчыкаў нагадвала самыя тонкія серабраныя галасы гармоні. Той, рураўскай...

І калі садзіўся на кацер, каб ехаць назад, у цэнтральны лагер, на хвіліну спыніўся, падумаў, кінуў пару-другую скупых слоў:

— Ты гэта... так... Пастой... Пачакай, адным словам... Нешта мы ўсё-ж прыдумаем... Пра Салаўкі пакуль што пакінь думаць...

— Пра што гэта вы?

— Да пра твайго Андрэя Андрэявіча...

---

— З неба райскага чалавека ўхапілі, на куцыя ножкі паставілі і сказалі: хадзі, да пахаджвай, духу лагернага набірайся.

І хадзіў, і пахаджваў.

Галава як макавінка—трапяткая ды гнуткая, вухам на гук нахіляецца, прыслухаецца. Сівыя рэдкія валосікі прылізаныя, і сярод іх ружавее лысіна—бліскучая, потная, голая як калена. І такія-ж ружовыя празрыстыя вушы. Казліная бародка ў сале. Засалены рот, сівыя непракураныя вусы сыходзяць салам. Паблісквае салам пугаўка-нос. Старэчы рот прычмоквае, шамкае, пасвіствае праз рэдкія зубы, сапіць, слюнявіцца.

Чалавек да косткі прыліп, грызе, абгрызвае.

І ў вачох тады жоўтая муць, звярыныя аганькі, драпежніцкія, прагавітыя.

— Ды кінь ты мусоліць, глядзець прыкра... Ну й кастаглот.

— К-к-аму кастаглот, а' к-к-аму Апацей Еўдаксеевіч...

— А мне пляваць... Пацей ні пацей—дураком памрэш...

Костка падае з роту, натапыраныя тонкія пальцы вісяць нерухома. Чорная яміна роту кругліцца, шырыцца...

— Да я... Да-а ты...

— Да разам з табой—перадражняе той.

— Я-я-я не дазволю... Я-я-я першай гільдыі рыбны купец...

— Пляваць на гільдыю... І на купцоў...

— Да я на моры, на Каспіі параходы меў...

— Паплылі параходзікі, адплылі...

— Я рыб лавіў...

— Людзі елі...

— На мільёны рублёў адных рыбных тавараў. Ды на Волзе раке.

— На Волзе раке... Гэта да... Волга матушка, Волга рака... Ты шы-ы-рокая, прашырокая... Не зліць берагоў тваіх, дна не высушыць...

І абодва змаўкаюць, спыняюць лаянку, папракаючы адзін аднаго:

— Дык чаго-ж ты гад харахорышся...

— То сыходзяцца часам старыя дружбакі —былы ўласнік параходных буфетаў і волжскіх рэстаранаў, другі—стары волжскі купец, рыбны прамысловец Апацей Ёўдаксеевіч. Першы загадвае цяпер сталоўкай, у другога склад: невады, сеці, розныя іншыя прычандалы лагернай вазёрнай гаспадаркі. Тут жа і капціньня для анежскіх сігоў. Кожны працуе, так сказаць, па спецыяльнасці. І ў вольныя хвіліны сыходзяцца разам, каб, перабраўшы падзеі дня, падзеі каналу, узгадаць пра старое, перажытае. Успаміны кароткія, абрывістыя.

— А памятаеш, у Ніжнім, у дванаццатым; у рэстаране Заплюева акцёрку раздзелі ды гарчыцай, гарчыцай, па целу, па беламу... Ка-а-рціна...

— У тры тысячы уліпла карцінка... Абмывалі віном... А ў Маскве у шаснаццатым, як купаліся ў акварыуме... Чы-ы-жолы быў целам я, як плюхнуўся ў ваду, рыба ўся на падлогу, акварыум напал...

— Што ні гавары, баценька, шырокая была дарога нам... не раўнуючы—Волга матушка... Да сплыло ўсё, вадой залілося. І ты і я па рыштанскай цяпер гільдыі ходзім.

— А скажы па совесці, Апацей Ёўдаксеевіч, колькі сунуў ты астраханскаму фінаддзелу, ці багата, кажу, разарыўся на ўзяткі?

— Узяткі? Не з таго канца ты бярэшся за справу... Узятка— ноль, узяткай свет з капылоў не саб'еш, асабліва-ж калі капылы большэвіцкія... Глыбей я, голуб, глядзеў, у корань глядзеў. З'елі мяне калгасы лавецкія, гэтак-жа падсадзілі, супроць іх лінію гнуў. Ан не вышла... Перамаглі... На водмель сеў, прыдуха прышла не раўнуючы як на рыбу ў мароз на мелкаводдзі... Перамаглі... І хто б, сказаць, перамог... Большэвічкі... Памятаеш, параходзішка быў у мяне буксірны. Качагарыў там адзін такі чалавечышка няпуцевы і п'яніца, голь перакатная. За чаркай на неба палез бы... А сын яго, сукін сын, начальнікам цяпер ходзіць. У нас-жа тут. Ды шчэ галава якая, адчувае, чым дыхаеш ты, за якую думку трымаешся. Пазаўчора прыходзіць, пытае:

— Ну, як, Ёўдаксеевіч?

— А так,—гавару.

— Копціш?

— Стараюся...

— Гэта харашо, калі стараешся... Аднак сігі ў цябе ненадзейныя, зусім сігі падупалі, хужэй, чым твой былы селядзец астраханскі, копчаны. Разлязаюцца сігі, ніякай дысцыпліны ў іх.

— Мае чалавек рацыю,—думаю. А голас у мяне дрыжыць, заікаецца голас. І перад кім, падумаць... Гэта перад Пірыным, перад сынком непуцёвага майго качагарышкі. Зусім з тропкі збіваецца голас.

— Правільна,—кажу, ніякае у сіга совесці: ты яго й так, ты яго й гэтак капці, а ён усё разлязаецца, ад касці адстае, на шматкі распаўзаецца...

— А ты на сіга паклепу не ўзводзь, сіг—рыба акуратная, не чапай яго совесці... На сваю паглядзі лепш, ды падумай...

— Падумаю—кажу. І рукі ў мяне трасуцца, і голас аслаб.

— і што-ж ты думаеш: паднялёг я на сіга, паднаціснуў — у акурат цяпер рыба прыходзіць, із капцільні хоць граф'ям на стол... Вот табе й сіг...

Еўдаксеевіч частуе дружбака сігам ад трудоў сваіх праведных. Сам косткі любіць, бараннія з жырам, з мозгам, у сталоўцы ў кашавара выпрашвае:

— З храшчыкам мне, мілчалавек, пагрызці. пакрамзоліць...

— Не крыўдуюць другія, спачуваюць старому:

— Дай костку яму, не шкадуй... Няхай пабалуецца, ліха копчанае...

Апацей Еўдаксеевіч мусоліць костку, з дружбаком сваім думкамі дзеліцца:

— Усё зразумела мне, усяго я ў жыцьці дасяг... Ну я, ну ты... Рыштанты з табой...

— Кінь... Не тое... Не аб тым гаворка мая. Я і ты—паважаныя людзі, вялікія людзі. Канешне, да мінулых год памянуўшы. Ну што-ж, аб нас большэвікі і клопат маюць: кожнаму па прафесіі, у людзі. бачыш, вывесці хочуць... Нў інжынеры, скажам, контрыкі, былыя шкоднікі... Таксама паважаныя людзі, як і мы з табой. І аб іх правільны клопат: як ніяк з вялікай адукацыяй людзі, з мазгой вялікай. Сяды-тады і большэвікам дапамагчы могуць. І дапамагаюць... Вунь канал правялі—было-ж і іхнае стараннe інжынерскае... Але скажы ты, мілчалавек, навошта большэвікам пра басоту дбаць, пра зладзюг клопаты мець, з жыганамі-бандытамі цацкацца... Розуму на дабяру... Вунь уркі на работу не ідуць, выскаляюцца гады... Андрэй Жыган, памятаеш, на Урале бузу вадзіў—верхаводзіць над імі: ні ўзад, ні уперад, сядзяць у руры і хоць бы хны, хоць бы палец каторы да работы прыклаў, дзе ты бачыў... Шчэ над табой часам кпіць, над купецтвам тваім, над мінулым насміхаюцца горка:

— Дзе пуза тваё, купец, дзе ходы твае, параходы...

— І што-ж ты думаеш: з упросамі да іх, з угаворамі... А каторыя на рабоце, дык ля тых, як не раўнуючы да святых: ударнічкі вы, брыгаднічкі... І пайкі ўдарныя ім, рэкордысцкія—ім, падарункі—ім піражкі на канале—брыгадні чкам... Ды што

казаць... Вунь сягоньня начальнік наш Пірын гармонь прыслаў, на складзе ляжыць цяпер—баян, пярвейшай маркі, паўтары тысячы цалковых за баян той у Маскве плочана, спецыяльна, можна сказаць ездіў Пірын за гэтым струменцікам. Каму баян? Навошта баян? Лепшаму гарманісту-ударміку... Так і сказаў начальнік... Ты падумай, паўтары тысячы цалковых, гэта, брат, не кот наплакаў... І якому-небудзь, даруй божа, гаду печанаму, злодзію-пройдзісвету гэты паўтарытысячны баян дастанецца... Ці сніў, ці бачыў ты. Я яго, гада печанага, каб уладу меў, разлажыў-бы каторага ды ўклеіў, ды ўсыпаў... Ведаў бы жыганскую долю. Па-а-ўтары тысячы... Сярэ-э-браныя галасы... Ляжыць на складзе ў мяне, падыходзіць баюся. Жартачкі—жывыя цалковікі на бяздзеліцу жахнулі, паўтары тысячы на гармонік...

— Та-а-к... Га-а-рмонь... А і я грэшным дзелам любіў у свой час душу пад гармонь пусціць, расцягнуць яе ўшыркі, на ўсе галасы залатыя... Дзя-б-лы... Памятаеш, пад Саратавам...

Старыя дружбакі,ператрасаюць старое жыццё, і цярушыцца яно залатымі лахманамі, прагорклым пылам мінуўшчыны. Як у горле ад пылу таго, пяршыць у памяць ад успамінаў, потырч думкі ляцяць, настырбучаныя. Ніяк-жа да ладу гэтыя думкі старыя не месцяцца. Старое жыццё распаўзаецца, разлязаецца, ашмоткамі разлятаецца па баках. Замаўкаюць абодвы. І ў кожнага думка-жорсткая, шурпатая, хіба скажаш аб ёй адзін другому. Думка аб тым, што прашло жыццё старое, у пух і прах разлязелася на камені. На бальшэвіцкім. Перамаглі. Уставілі свой закон. І ты—залачонае пуза былое—аб мазалі стаў клопат мець. І грэшная думка: калі копчаны сіг акуратным выходзіць ад рук тваіх, ад мазалёў—тады сверліць мозг неадчэпная думка:

— А харашо... калі са стараннасцю...

І тады прыходзіць—нязведанымі раней шляхамі—новая госця. Імя той госці—радасць. Ад мазаля тая радасць ідзе, ад работы.

Хіба-ж у радасці той ты сазнаешся старому дружбаку...

— І маўчаць абодвы, думаюць... Лічаць зоры сінія за вакном. Лічаць годы адсідкі, аб будучыні мяркуюць..

---

Паплылі па бараку чуткі:

— Ад Пірына гармонь прывезлі...

— Баян...

— Ся-я-рэбраныя галасы...

— Каму-ж да гармоні ручкі прыкласці...

І скоса пазіраюць на Андрэя Андрэевіча. Хадзіў той грозны, панурысты. З твару чалавек сышоў. І ніякіх, здаецца, чалавеку клапот: ляжы, панлёвай, ды на нарах пуза пагладжвай, каб пуп не аслаб ад жыганскае вольніцы. Дык дзе там. Ходзіць чалавек сам не ў сябе, а вокам зірне на цябе—уцякай падалей—заб'е позіркам. На чуткі, на шэпты напароўся, вуха на іх настроміў.

Падазваў карманшчыка маладога, малец з гузік, а фокусы вырабляе з вывертам, па карманнай, значыцца, справе. Дасціпны быў хлопец па гэтай часці.

Падзывае сурова:

— А ну, падходзь!

У таго і душа ў пяткі: кепскія з атаманам справы.

— Ты пра што, сапля карманная, трэплешся?—і рукі валахатыя на плячо. Цяжкія рукі, аж косткі ныюць пад імі.

— Дзядзенька... Усю праўду, як на далоні... Далібог-жа прывезлі... Чыстакроўны баян... Вот жа крыж табе і макаўкі залатыя—праўду кажу, без падману... Гармонь—во-о... мяхі во... а галасы—нязлічоныя...

— Вот я табе рэбры як памну, тады палічыш... Бачыў?

— Бачыць не бачыў, людзі казалі... Зіхаціць гармонь, багацюю-шчая...

Яшчэ больш пачарнеў Андрэй Андрэевіч—ні да чаго не горнуцца рукі, ні да сцірак, ні да хлеба, ні да лыжкі. Дзень хадзіў, два хадзіў, на трэці несцерп узяў. Каравульнага начальніка выклікаў.

— Вот што, таварыш начальнік, адным вобмегам я на склад: справа ў мяне там важная, дужа сур'ёзная справа...

— Якія-ж там справы ў цябе асаблівыя?

— Пасля...

Пусцілі. Стралой паімчаў да складу, што ў сасоннічку, над возерам. Да самага кладаўшчыка, майстра сігавага Апацея Еўдаксеевіча. Перапуду на чалавека нагнаў, аж костка ўпала ў таго на падлогу, хрупасткая костка баранняя, пад падкоўку Андрэя Андрэевіча трапіла.

— Дык праўда хіба?

— Ты пра што чалавеча?—і задам, задам пасунуў Апацей Еўдаксеевіч да дзвярэй у куток, каб падалей ад рук валахатых.

— Пра гармонь я пытаю. Ці праўда то, што прывезлі?

— А-а... ты пра гармонь...—адлягло Еўдаксеевічава сэрца, страпянулася радасна.—Ды ўжо-ж прывезлі. Ад самага Пірына даставілі, чалавеча... З Масквы баянчык прывезлі...

— Пакаж...

— Што ты, чалавеча, як-жа можна... Нікому гармонь яшчэ не прыручана...

— А ну, чортава плеш, пагавары яшчэ... Даставай мне без валакіты.

Зірнуў тут Еўдаксеевіч на жыганскія вочы, ды хуценька да скрынкі. Ніяк тыя рукі на крышку не маглі патрапіць, сапеў, стараўся, сяк-так адвярнуў, баяна выцягнуў. Сонца ў вокны свяціла, рассыпалася зайчыкамі па галасох, па бліскучаму лаку, па срэбных вугольніках. Ды трапіла ў вочы да Андрэя Андрэевіча, заіскрылася агеньчыкамі гарэзнымі, ліхаманкавымі.

— А і сапраўды... Баян... Баянчык на славу...

Валахатымі рукамі да ладоў дакрануўся і адчуў халадок іх празрысты, светлы, як на чыстай кашулі белыя гузікі, перламутравыя. Харашы лады... Націснуў нясмела, прайшоўся па іх, перламутравых галасах пералівістых. Як ручэй вясной пад ільдзінкаю сонечнай, хрупасткой... Цурчыць ручэй, цурчыць... ды пад сонечнымі пацалункамі нікне, тае ільдзінка, сцякае каплямі. І гараць яны вясёлкавымі пералівамі і свечкамі веснавымі, лядовымі

Разышліся маршчакі на ілбе, твар пацямнеў. Уздыхнуў.

— Та-а-к... Струмент стоюшчы... дарагі, дзед, струмант...

І спахмурнеў ізноў, вочы ў хмары:

— Цьфу ты, дзеда знашоў... На... Не вярэдзь душы... Ды хавай, чорт лысы, каб паганымі рукамі сваімі да яе не дакрануўся...

— А ты, чалавеча, не лайся.

— Ну, ну... Чалаве-е-ча..- Язык вазьмі ў рукі, ведай, стаіш перад кім... Ён думае, што мне ўвесь той сьвет ў гармоні... Чалаве-е-ча... Я цябе так ўчалавечу, што ты маму радзімую ўбачыш... Іш, контрыкаў напусьцілі на нашага брата, чэрава на сігах разбэхаў, на казённых сігах, ірад...

І да самага носу збялелага Апацея Еўдаксеевіча паднёс кулак валахаты, з рудай плямаю, з якарам сінім.

— Панюхай, чым мора дыша, астраханская гніда.

Да самай сцяны ўліп Апацей Еўдаксеевіч, далей сунуцца некуды. А той ужэ змяічэў, ды з парогу:

— Іш ты, пудлівы... Душа ў вас заходлівая, жыдкая... Дык глядзі... Ды вот што яшчэ... Каму гаромоньку начальства прызначыла?

— Гарманістам, мілай... гарманістам...

— Знама, што гарманістам. Не табе, плеш купецкая...

— Гарманістам-ударнікам... Ударнікам, мілай... Так што конкурс ім, ударнічкам нашым... найлепшы хто, таму і гармонь.

— Уда а-рнікам... у багародзіцу вашу, у бабушку...—і так ляснуў дзьвярыма, забрынчэлі аж шыбкі, ды сэрца ў Апацея Еўдаксеевіча, як падбітая птаха—кулдык, кулдык, аж рукамі схапіў, каб не вырвалася.

Стаяў, прыхіліўшыся ля сцяны, у вакно пазірнуў нясмела, аддыхаўся.

— Ах-жа, божа-ж ты мой... чалавек... чалавечына... нераўнуючы, казня ягіпецкая... дай ты рады... зряжыся, не расчэпішся... яшчэ бог так-сяк мілаваў ад гэтай нахабы.

І, аддыхаўшы ад страху, ад перапуду, палажыў Апацей Еўдаксеевіч крыўду вялікую на сваё сэрца: за пражытыя дні, за чортаву плеш, за купецкую...

— Гэта-ж трэба, каб кожны бандыт марнаваў тваю годнасць купецкую, вялічаў-бы пляшывінай...

---

Навалілася скруха на рур.

Павесілі насы вуркаганы: ні смеху, ні вясёлага рогату, ні шалёнага тупату ног—гэта калі „яблычка“, да „куды коцішся“... не да яблычка было старому вуркагану.

— Кацiцеся вы да папы, да мамы, да чортавай бабушкі вы кацiцеся...—загнуў, паслаў Андрэй Андрэявiч развясёлую сваю каманду: душагубаў, дамушнікаў, карманшчыкаў, шырмачэй, паўдзесятка дзяўчат, начных цвецікаў, да ўсякага іншага брата, трыццаць пятай стаццёй прыгалубленага.

— Жысць вы маю загубілі, гады іржавыя... І як бразнецца часам на нары, ляжыць, не варушыцца, ды камусці кулаком пагражае. Валахатым агромністым, з рудай плямаю, з якарам сінім. Ідуць ад кулака палахлівыя цені, матляюцца на змрочных сценах, сум наводзяць на нары. Ды часам уголас:

— Уда-а арнікі...

Багародзіцыну бабушку памінае. А калі пачне да багародзіцы ўчашчаць, тады лепш падалей ад Андрэя Андрэевіча. Асцерагаліся. Толькі шэпты глухія, да перашэпты ля сцен, па кутках, ды па нарах далёкіх. Народ кемлівы, здагадлівы.

— Відна, суджана нам на работу выходзіць...

— Як-жа так, каб здавацца? У рукі большэвікоў цёпленькімі?

— А каму-б ты здацца хацеў?

— Не ў тым рэч... Няма ў мяне васпітанії такой, каб ручкі мае на рабоце паганіць. Я, можна сказаць, ручкамі сваімі магу любы фокус зрабіць... Ды што казаць, далікатныя ручкі ў мяне, не з імі-ж мне з сівалапымі ў рад станавіцца, пальчыкам залатым калупаць граніты ..

Шэсць дзён, шэсць начэй у тых шэптах: здамося, ці не здамося?

Слых напружаны ў Андрэя Андрэевіча. Ловіць кожны ўздых, кожнае слова. Пра пальчыкі залатыя ўчуў, пра васпітанію, памянуў багародзіцу. А калі дачуўся да сівалапых, узняўся, як мядзведзь, гарой зрушыўся з нар і агромністы, цяльпухаваты загрымеў у вячэрнім змроку:

— Гей, ты, васпітаніе далікатнае, станавіся прад нашы ясныя вочы... Ма пабілі граф'ёў, мы князямі платы гарадзілі і рабілі гаці з паноў... дык выходзь-жа, залатая, далікатная сволач, я пакажу табе сапраўдныя сівалапыя рукі, сівалапы кулак распацешу на тваей далікатнай дыні... дзе-ж ты, прыхвасьцень панскі, асметак чужога веку... Ён не зда-а-сцца большэвікам... большэвікі яму ворагі, чужаеду ..

Далікатная васпітанія ўшылася ў нары, утаіла духі. Ды грэблівыя галасы каторыя:

— Кінь, Андрэй Андрэевіч, не варта рук паганіць аб кожную былую гнілу, яна сама здохне ад сівалапага духу, адсыпецца як прус у чыстай хаце праветранай...

І відаць было: падыходзіць руру канец.

І калі наступіў сёмы дзень, вышаў Андрэй Андрэевіч на сяродку бараку і проста да ўсіх:

— Вот што... годзе, даволі... пафілонствавалі, пабязулілі... хопіць... туфту заражаць [1]. А хто хоча быць дармаедам на

---

[1]) Туфту заражаць—займацца абманам.

нашым карку—айда налева.

Некалькі ног далікатных памкнуліся ўлева, але асірочаныя, пакінутыя віхарам перамятнуліся назад, утаропіўшы збянтэжаныя позіркі на ўчарашніх дружбакоў-таварышоў. *Тыя стаялі* панурыя, насупленыя. Але цвёрдыя ногі былі ў іх і сцятыя кулакі—у логава дармаецкае, у левы стан чужаецкі ніхто з іх не рушыў.

— А цяпер на работу...

І далей:

— Абвяшчаю вас сваёй брыгадай, баявой фалангай Андрэя Андрэевіча... пойдзем дамбу капаць на канал... контрыкаў біць на спаборніцтве, кулакоў... Яны могуць, а мы не можам, далі-ка-а-тная васпітанія... Смешна... Дык глядзіце-ж: хітрыкаў аніякіх. Інача́й худа будзе.

Спрабавалі некаторыя слова насуперак:

— Як-жа так: брыгаду да тваім імем? Каб сам ты брыгадзе імя даваў?

Нават вызверыўся:

— А якая да таго каму справа? Калі на худое, дык слухаюць гады... паслухайце-ж і на добрае...

Не знайшліся адказаць чым. Здаўся рур, пашлі на работу філоны. Шаптаў каторы:

— Ну, і дзялы, праз Андрэя Андрэевіча ўліплі, зашыліся. На гармонь чалавек хварэе, а ты клопат мей...

— Не ў гармоні аднэй, чалавеча, справа.

---

Пашла слава пра фалангу Андрэя Андрэевіча. Баявая фаланга, брыгадзір найпершы. Спрабавалі спачатку пакпіць каторыя, пасміхаліся ў вусы:

— Шырмачы ў работу ўкінуліся, здох у лесе мядзьведзь, няйначай...

— Ручкі белыя ў гліну не ўмажце, камянчыкамі не падрапайце, няспрытна па кішэнях рукой мазалёвай лазіць...

Агрызаліся. А хутка кінулі, бо ніхто больш не смеў лезці ў вочы сляпіцаю, калі проценты ўгару палезлі, ды суседнія брыгады пачалі непакоіцца:

— Чорт вас ведае, скуль што бярэцца. Прасядзелі сіднямі на руры і на табе, на лініі перадавыя...

Слухаў Андрэй Андрэевіч, у вус пасміхваўся. Ужо тыдні два як гармонь за ім—спэцыяльны быў конкурс у клубе, хто-ж устаяць змог супроць рук яго, да гармоніі ўліплых. Гармонь—за ім, пярвейшы брыгадзір—за ім, два портрэты ў розных газетах—за ім. Развясёлая братва—і ім гармонь з галасамі сярэбранымі. Ды што гармонь. Вот сядзяць вечарамі па пальцах лічуць, загінаюць гэтыя пальцы з свежымі мазалямі:

— Раз—гармонь наша...

— Два—ударнічкі...

— Тры—уніз адсідка пашла...

— Чатыры—і на курсы каторыя, будуць майстрамі, токарамі...

— Пяць—хіба-ж контрыкам мы папусцімся, каб яны на рабоце, ды першымі...

— І шэсць—з піражкамі... усё для нас, для ўдарнікаў...

Невялікі піражок той, а вяліка павага, дорага слова ўважлівае. І тое слова ўдарніку.

І толькі гэта на новыя капылы ўзбіліся, жытку сваю пачалі кроіць, як вышаў канфуз з Андрэем Андрэевічам, праз гармонь яго, праз галасы: адклеілася два—басовы і адзін альтовы. Невялікі, здаецца, і клопат, пусцяковіна, можна сказаць: узяў іх, галасы тыя, ды прыклеіў. Андрэй Андрэевіч так і надумаўся, ды проста з работы на склад, да майстра сігавага, да Апацея Еўдаксеевіча—павінен на складзе клей быць, звычайны гуміарабік па канцылярскіх справах—галасы ім падклеіць у самы раз. Як быў на рабоце на дамбе—у гліне, у зямлі, брэзентавая спецовачка на ім памятая, мазалём зашмальцованая—так і сунуў на склад. Завіхаліся людзі на ім. Апацей Еўдаксеевіч важна пахаджваў, казліную бародку пашчыпваў, навучаў, як сігоў капціць, пакаваць як у скрынкі іх. Зірнуў на яго Андрэй Андрэевіч—„іш ты гніда"—ды з просьбаю:

— Вот што, купец, да зарэзу мне клей патрэбны, адпусці, каплі з тры...

Тут Апацей Еўдаксеевіч старога знаёмага ўгледзеў. Спалохаўся нават, успомніўшы пра гармонь, пра чортаву плеш. Але на складзе людзі былі. і спецовачка на Андрэі Андрэевічы ў зямлі, памятая спецовачка, нямудрашчая, у кожнага рабочага такая адзежынка, а рабочых тых тысячы—у зямлі капаюцца, канал рыюць. І раз людзі на складзе, раз спецовачка тая зашмальцованая нямудрашчая, ды абіды к таму, крыўды старыя за чорта лысага, за купецкую плеш—усміхнуўся ў душы Апацей Еўдаксеевіч:

А зламілі цябе гада... здалася птаха большэвічкам, падрэзалі вуркагану крыльлі...

Усміхнуўшыся ды набраўшы віду начальніцкага, важнецкі ў голас:

— А няма ў мяне клею... заводу ў мяне няма клеевага для кожнага прахадзяшчага, для кожнага, можна сказаць, шырмача...

Шчэ далей хацеў казаць, але змоўк, папярхнуўся, угледзеўшы злавесны цень на твары Андрэя Андрэевіча—сігануў той цень шрам і схаваўся дзесці пад густымі расніцамі насупленага твару. Задам, задам, пасунуў глыбей у склад—нязручна з ім, авантурнікам. Але людзі ў складзе—і страх развеяўся. Мармытнуў:

— Ідзі, ідзі... Нечага тут анцімоніі з клеем разводзіць.

Нічога не сказаў Андрэй Андрэевіч, счарнеў увесь ды, як цёмная хмара, пасунуў за дзверы і пашоў спакваля да барака.

Думаў усё.

І калі чорная ноч ахінула баракі, калі роўны храп распраспёрся пад высокую столь—сон салодкі змарыў спрацаваных каналаармейцаў,—нацягнуў асцярожна чабаты Андрэй Андрэевіч, паклаў у кішэню прыпасены іржавы цвік, вышаў крадучыся з барака і пасунуў, як цень, да сасонніка, да вазёрнага берага, дзе склад, дзе капцільня, дзе былы купец астраханскі—ружовая лысіна—Апацей Еўдаксеевіч.

Клею ўкрасці пашоў.

Доўга порхаўся ля дзвярэй, ля замкоў немудрашчых, калупаўся цвікам іржавым. Калупаўся і лаяўся:

— Гэтак і пра рамяство забудзешся... Як арэх падаваліся колісь любыя замкі...

Раскалупаў. Ціха звякнулі два замкі, што на складзе. Увайшоў, запалкай чыркануў, абышоў сталы. Цэлую бутлю клею знайшоў на адным.

— На чорта яна мне здалася, цэлая...

Шукаў з запалкай пляшачкі малай, каб порцыю клею адліць. Ступаў крадучыся, каб не рыпнулі палавіцы, рыпам сваім не выдалі-б чабаты: за сцяной за пярэбаркай быў ціхі храп—сніў Апацей Еўдаксеевіч, колішнія параходы сніў, караваны лавецкія, астраханскія, волжскія берагі, жытку волжскую сніў купецкую тую, шырокую.

Сніў ды кідаў спрасонку:

— Гэй ты, чалаве-е-к...

Уздрыгваў тады Андрэй Андрэевіч, ды сэрца сціхала салодкім зудам, старым, пражытым, даўно зведаным. Захліпалася і ныла сэрца ў тым зудзе:

— Эх ты, ночка, да ночка, да цё-о-мная...
— Цё-о-мная, да глыбокая...

Пра клей аж забыўся. Хіба ночы такія да клеем паскудзіць. Размяў вольным рухам старыя плечы, ля паліц, ля сцен прашоўся, вочы ў свеце празрыстым, запалкавым разгарэліся. Аж звон у вушах, пра старую тую ночку, да ночку, да цё-о-мную.. Цё-о-мную, да глыбокую... Чаго, чаго не навалена тут ля сцен: адных адзеялаў аж адзіннаццаць, да прасціраллы, да ручнікі, спецовачкі новыя для сплаўшчыкаў лагерных прыпасеныя... Цукру мяшкі, сёе тое яшчэ з харчу лагернага. Прыгледзеўся да тых адзеялаў, рукой гаспадарчаю у кучу склаў, старанна звязаў у тугі вузел, каб не рассыпаліся, не згубілся. Сёе-тое з харчу паклаў, узважыў на рукі—у самы раз як данесці. Прыслухаўся да храпу за пярэбаркай і сверб праняў рукі. Ціха зайшоў, запалкай чыркнуў. Ружовая лысіна ў падушку ўмятая бледна паблісквала пад запалкавым светам, адтапыраныя старэчыя вусны слюнявіліся, нос храпеў з подсвістам старым, з захліпінай.

— Іш гніда, раскапусцілася... У самы бы раз па ружоваму цемені стукнуць.. За шырмача... Ды ладна... Жыві, задрыга старая, рук сваіх паганіць не буду... І так з цябе хопіць, памятаць будзеш...

Не сцяпрэў толькі ў адным: цэлую бутлю клею выліў акуратна пад адзеяла, на падушку, на сарочку тую, на штонікі на купецкія.

— Ведаў каб, як дзярма шкадаваць... Будзеш зубамі адгрызаць, ірад бога не нашага... Іш ты, бюракрат пляшывы...

І пашоў за пярэбарку, вузялок з адзеяламі падкінуў на плечы, крактануў разы са два і пашоў у ноч, у цемень, прыбаўляючы кроку. Пашоў у бок ад баракаў, тропкамі тайнымі, няходжанымі, праз лясную глухамань, праз балоты, праз сівыя валуны да імшарыны, напяваючы песню тую пра ночку, да ночку, да цё-о-мную, цё-о-мную, да глыбокую...

---

Два дні і дзве ночы не было Андрэя Андрэевіча. Брыгадзірава гармонь ляжала на нарах, цьмяна пабліскваля асірочанымі галасамі, наганяючы сум на ўдарнічкаў: туфтачэй былых, філонаў учорашніх: не было ў іх руках таго спрыту, умельства, каб прайсціся сярэбранымі галасамі, пра яблычка галасамі тымі ўдарыць, ногі настроіць на польку-кадрыль. І не да яблычка было, не да кадрылі...

— Брыгадзір уцёк... Перад контрыкамі цяпер канфуз, як даведаюцца... Перад кратамі землянымі—перад кулакамі знявага...

І вечарам познім, калі масціліся ўдарнікі на сон, заявіўся ў барак Андрэй Андрэевіч, як з неба ўпаў, нечакана. Узрадаваліся, узрушыліся, насустрач кінуліся. Грымнулі вясёлае ура, вітаць кінуліся, і ееселі. Асекліся. П'яны быў брыгадзір. Нахохлены, шэрая цвецень шчок была нерухомай. Быў ён нябрыты, ускудлачаны, матляліся лапікі спецовачкі—ў пух і ўдрызг пашла яна немудрашчая, брэзентавая. Відаць, у лесе туляўся, аціраў галлё, прадзіраўся праз парасьнік, праз чашчобу. Ішоў паміж нар, хістаўся, хапаўся рукамі за перакладзіны нар, агрызаўся на ўсіх:

— Гэй вы... у бога вас, у хрыста, у багародзіцу... Дарогу мне, брыгадзіру дарогу...

І як быў нераспрануты, неразуты—заваліўся на нары. Заснуў хваравітым сном. Ускакваў у сне, несусвеціцу верз пра гармонь, пра клей, пра ружовую плеш, пра адзіннаццаць адзеялаў лагерных...

„Далікатная васпітанія“ усміхнулася, шапарнула:

— Адзеяльцы відаць камандзір наш папёр. Ручак яго не мінулі...

Грымнулі з нар, з куткоў:

— Ціху ты, балдзей... Ні шкні...

Ушылася ў нары „васпітанія“, сціхам'рылася...

А раніцою, чуць свет, узняўся Андрэй Андрэевіч з нар, на двор вышаў да жасцянага ўмывальніка. Мыўся, чапурыўся доўга прыгладжваў ускудлачаныя валасіны, брэзентавыя штаны размінаў на палене хваёвым—усё стараўся складку навесьці. Студзёнай вадой боты абмыў—ад бруду, ад гразі балотнае. Чапурыўся,

рыхтаваўся да нечага. І чакаць не прышлося доўга. Прышлі, загадалі ісці, павялі пад канвоем.

І на допыце заявіў без доўгіх анцімоній:

— Ну што-ж, сесці прышоў, таварыш начальнік... *За адзінаццаць* адзеял, адну скрынку сігоў ды пакуначак цукру неважаны... Ды яшчэ за неважаную даверыю...

І без доўгіх анцімоній сеў.

Пасадзілі Андрэя Анерэевіча. За жалезныя краты нямудрашчыя, ізолятарскія.

Гармонь адабралі.

---

Сядзіць Андрэй Андрэявіч.

Каторы дзень сядзіць. Не ў ахвоту сідзенне тое, апрыклае. Адзін. Словам перакінуцца,—няма з кім.

А за вакном чорная ноч, гудуць, завываюць восенскія вятры. Золь у іх, стыль, студзёныя подыхі недалёкага Белага мора. Здаецца ў змроку начным, нібы вось яно, вось за самай сцяной, за чорнай шыбкай—дыхае яно, распраўляе магутныя грудзі, набягае грымлівымі ўспененымі хвалямі і ад іх шалёных ўзвіваў лятуць салёныя пырскі, пасцілаюцца слатой на шыбках вакон, рассыпаюцца друзам лядовым па даху, па сценах. То вецер зрывае іглiцу хвой, цярушыць, асыпае яе, злосна кідае ў вокны, у сцены, шамаціць па чорнаму шклу, вільготнаму, запацеламу. Вунь колькі на гэтай шыбцы калючай іглiцы, ды апалага лісту, счарнелага, пажоўклага.

І прынікшы гарачым лобам да стылага шкла, намагаецца Андрэй Андрэевіч думкі свае сабраць у бярэма. Нікнуць яны, рассыпаюцца, вострай іглiцай драпаюць сэрца.

Чарадою праходзяць гады. Што ні год—ліст апалы, пажоўклы. І жыццё ўсё—золь восенская, слата, сцежкі віхлястыя, абіваныя турэмныя парогі, царскія турэмныя клапы за панібрата, смуродная цвіль турэмных нар і вечная—з году ў год—пракаветная думка: вот-жа вырвуся, воляй дыхну,—ведай нашых тагды. Вырываўся на некалькі тыдняў, на дзесяткі дзён. І цяжка дыхала кароткая воля—перагарам гарэлкі, чадам ашалелай вясялосці, блёклаю чырванню блёклых дзяўчат, шалёным рязгулам панажоўшчыны.

Ад турэмных крат і ад кароткай волі страцілі вочы былы бляск, сівая цвецень уплялася ў валасы. Сугорбілася спіна. Хада насцярожанай стала—страцілі ногі былую гнуткую цвёрдасць не ногі былі—спрунжыны, калі ўцякаў у цёмныя ночы ад турэмных наглядальнікаў і парогаў. Цяпер ныюць ногі, цяжкія азызлыя. І калі прышла яна—рэволюцыя, цяжка было выбіцца з віхлястых прызвычаеных сцежак на пратораныя людскія дарогі, на новыя прасторы новай зямлі. Мелі ногі хаду старую, такую-ж хаду мелі старыя думкі пра свет, пра жыццё, пра людзей—усе на свеце злодзеі, найбольшыя з іх у пашане ходзяць, найспрытнейшыя светам правяць, чым жа я хужэй ад іх—злодзей най-

меншы. Віхлястыя сцежкі прывялі ў Салаўкі. Белым морам на канал прывезлі. І тут збіўся са старых прызвычаеных капылоў. Усё трымаўся на іх, на старых, трупехлых. Падламаліся.

Мо', баян падвёў—не ўстоіў перад ім па слабасці сваёй да гармоні Андрэй Андрэевіч, адзінаю ўцехаю лічыў яе ў жыцьці і мог сярэбранымі галасамі выціснуць слязу на азвярэлым твары, сэрца збітае з каменю, растапіць у жалю, радасцю чалавечаю яго заіскрыць. Падвяла гармонь. А мо' не гармонь. Да сярэбраных галасоў было слова людское, цёплае спачувальнае. Не чуў яго ніколі раней стары злодзей Андрэй Андрэевіч. І пашоў на работу, за сабою павёў баявую фалангу. З-за гармоні пашоў. Толькі ўдарнік меў права на сярэбраныя яе галасы.

І калі стаў на работу, спала з воч старая слата, свет пазнаў па-новаму. Даведаўся—не зладзеямі свет трымаецца і не імі ён правіцца ў роднай краіне. І няма ніякіх пуцей яму Андрэю Андрэевічу, найменшаму злодзею ў мінулым, а цяпер выходзіць найбольшаму... Акрамя як на работу... Там ён чалавек найпершы, найслаўнейшы брыгадзір, да слова яго ўважліва прыслухаюцца... раюцца з ім... Гэткую дамбу згаралі і дзіва то: уздыбілася балотная возера, узнесла хвалі свае вышэй стромкіх хвой і па хвоях тых, па вершалінах карабель паплыў, аж да белага мора пашлі параходы... І яго рукой тое возера створана, ён падняў караблі, параходы вышэй стромкіх хвой, шлях дарогу паказаў ім да мора.

Глыбокае возера бурнае. Ідзе канал з яго да Белага мора.
А яно яшчэ глыбей. Берагоў на ім не відаць, на вялікім...
І тры каплі клею...

Усяго на ўсяго тры каплі. І як паслізнуўся на іх, да пякучага болю ў сэрцы, нібы кранулі па ім нажом тупым, зазубраным і шурпатым. Аж сцяўся ўвесь, уздыхнуў. Быў той уздых глыбокім, працяглым. Спалохаўся нават. Адчуў, як нешта цёплае напоўніла шрам, скацілася праз нябрытую шчаку, запяршыла і сціснула ў горле. Рэзка падхапіўся з нар, прыліп да вакна, пастроміў вачмі начную цемрань, што цярушылася ігліцай, падалкай-лісцем, восенскай золлю, макрэддзю.

— Каб я... Ручкі склаўшы сядзець, падвадзіць чалавека... Не, не будзе гэтага... Больш так немагчыма...

Напружыўся ўвесь. Валахатыя рукі наваліліся на тонкую жалезіну, з мясам вырвалі з рамы. Хруснула яна, падалася. Ціха дзвынкнула шкло, упала і рассыпалася па мокрай зямлі. Рэзкі вецер узмачаліў космы валос, абдаў холадам твар, думкі прывёў да парадку.

Грузнае тулава перамятнулася праз падваконне, і чалавек знік, праглынуты вятрамі і цямрынёй. Шла насустрач лесавая восенская пурга, лісцвяная, іглічная. Грознымі перакатамі гудзела ў вершалінах хвой, шалёна кідалася на вазёрныя прасторы, кідала на дыбкі чорныя хвалі, і яны з гудам, з грохатам навальваліся на ўспенены бераг і адкатваліся назад, каб разбіцца аб

сустрэчныя хвалі. Пурга кідала ў вочы, у расхрыстаныя грудзі жмені вострай ігліцы і мокрага лісця, прыгінала стромкія дрэвы, і напятыя, яны гудзелі, як струны. У гудзе тым была суровая і пагрозлівая музыка лесу. Дзесці патрывожаны бураломам, раўкнуў мядзведзь, і роў яго пракаціўся кароткімі пагалоскамі, праглынутымі глыбокімі лажбінамі, мяккімі імшарынамі балот, уздыбленымі хвалямі возера.

Чалавек торапка бег, падганяемы пургой, начнымі спалохамі, глухімі гукамі лесавымі, звярынымі.

---

Змрочная пеляна спаўзала з вакон. У іх разлівалася шэрая празрыстасць раніцы. Праз іх відаць былі сівыя туманы—яны плылі па лажбінах, клубіліся над рачулкай, над азёрнымі берагамі. І нібы плавалі ў гэтым тумане суровыя грамады хвой і ялін, высока ўзнесшы калматыя верхавіны ў золь і стыль ранішняга неба.

Прачыналася Мядзведжая гара, абуджалася гаманлівымі галасамі. Шлі лагернікі на работу: у майстэрні, на сплаў, на лесавыя работы. Заклікаюча гулі гудкі лесапільні, грымелі буферамі цягнікі на станцыі, пераклікаліся паравозы.

Чалавек сядзеў за сталом, лахматы, нахохлены. Раз-по-разу праводзіў па твару, па ўскудлачаных валасах шырокай далоняй нібы зганяючы з твару дрымотную цяплыню, што хіліла да сна, да спачыну. Прыслухаўся да паравозных гудкоў, і тады на хвіліну якую выпростаўся сутулены стан, святлеў позірк вачэй—рабіўся цвёрдым, калючым. У гудках тых была вялікая і грозная сіла—паравозы прышлі здалёк, былі бясконцымі іх шляхі, да радзімы далёкай вялі, да волі. Далёкай волі.

— Дык як-жа так? Што будзем рабіць?

Чалавек чуў запытанне і марудзіў з адказам. Усё падбіраў лепшыя словы, каб былі яны глыбей і мякчэй, каб была ў іх вялікая праўда, каб глыбокая вера была да тых слоў. Чалавеку хацелася сказаць аб дзівосным жыцці, аб суровай праўдзе, аб сярэбраных галасах гармоні, аб ударніцтве, нячуваных процантах... І аб трох каплях клею...

Чалавеку хацелася яшчэ расказаць аб ночы ў лесе, аб грознай пурге, аб галасах лесавых, звярыных... Аб звярыных сцежках і тропках... І аб тых слядах, што ідуць яшчэ да чалавечага сэрца... Ідуць і знікаюць... Вытаптваюцца старыя звярыныя сцежкі, і на мейсца іх устаюць пратораныя людскія дарогі... Пра дамбу хацеў расказаць, пра глыбокі канал...

Чалавеку хацелася расказаць. А словы не шлі, былі яны няўлоўныя, неўвароткія, каравыя словы ды шурпатыя. Таму і сказаў толькі:

— Дык гэта-ж я адзеялы папёр... Адзіннаццаць адзеяльцаў стырыў... Быў то мой клопат і мой інтарэс...

— Ну?

Былі ўважлівыя вочы ў начальніка лагеру, у таварыша Пырына. Уважлівыя і глыбокія. Бачылі яны куды далей адзяялаў, не засцілі тыя адзяялы звярыных слядоў і дарог людскіх. І прыўзняўшы строга правую броў, запытаў яшчэ раз:

— Ну, дык што-ж? Расказвай... Уцёк, відаць... З ізолятара?

— Уцёк... Пасадзілі былі... І гармонь атабралі... А быў я ўдарнікам... І вот... Трыццаць вёрст я зрабіў за ноч, да вас бег, на Мядзведжую гару, каб расказаць аб усім... Дарогамі не шоў, каб не спаймалі... Абыходзіў лесам, ды праз балоты... Не магу я больш сядзець, няма болш магчымасці... А з адзяяльцамі я вінаваты... Усё праз тое залачонае пуза, дзярма пашкадаваў, бюракрат пляшывы... За клеем я палез у склад... і вот... уклеіўся...

Ледзь прыкметная ўсмешка прашлася па твару таварыша Пырына.

— Та-а-ак, Андрэй Андрэевіч... І які толькі лешы табе ногі папутаў...

Доўга яшчэ гаварылі. Аб дамбе. Аб ударніках. Аб сплаве лесу. І тады сказаў начальнік лагеру таварыш Пырын.

— Дык вот што, Андрэй Андрэевіч... Каб ног не трапаць, бяры вот запіску ды крый на возера, дзяжурны катэр пойдзе на канал праз гадзіну, цябе з сабой возме. Плыві назад, станавіся на работу, сваімі ўдарнічкамі камандуй. Ды вот яшчэ... Пра курсы ты колісь казаў... Праз тыдзень які можна будзе ў механічную майстэрню цябе забраць, рукі лепш наламаеш да працы, майстрам станеш... А цяпер ідзі... Гармонь... назад атрымаеш—па тэлефону перадам. Дык бывай...

Як падхоплены на крыллі мчаў Андрэй Андрэевіч з Мядзведжай гары уніз да возера, да параходнай прыстані. Высока ўзышло сонца і чыстае, зыркае—пасля ранічных рос і туманаў—яно рассыпалася ў мільёнах сонечных усмешак на ціхіх хвалях, на ўлагоджанай роўнядзі возера. Бязмежныя вадзяныя прасторы дыхалі велічавым спакоем, трапяткой серабрыстай люстранасцю зліваліся з далёкім небам, і люстранасць тая гарэла ў нясцерпным асляпляючым бляску.

У сонечным бляску.

Беламорскі канал
1933 г.

---

С. МІТРАХОВІЧ

## ПЕСНЯ ПРА КАНЯ

Праз лугі, лясы, балоты
Брала конніцца бар'ер,
Несла конніцца галопам,
Вораг выў, як дзікі звер.

Зоркі ярка аганькамі
Зіхацелі у начы,
Конь дарогамі, палямі
Нёсся ўперад, ў далячынь.

Конь—прыяцель, конь—таварыш
І на полі і ў страі.
У час будучых пажарышч
Будзем разам у баі.

З вараным сваім я разам
Паскачу ў рашучы бой.
Ні гарматамі, ні газам
Не разлучаць нас з табой.

Кроў у жылах не астудзім
І ў баі не ляжам ніц:
Азвярэлых катаў будзем
Ад совецкіх гнаць граніц.

У час бур, навал, грымотаў
Мы з табою, Вараны,
Разам з танкам, кулямётам
Будзем межы бараніць.

Ліпень 1933 г.
Менск.

С. ГУСЕЎ

# ПЕРАМОГА

Усё вышэй і вышэй падымалася сакавіцкае сонца. Надыходзіла вясна. Чэрствы снег, моцна прылёгшы да мёрзлай зямлі, пачынаў раставаць.

Стрэхі вёсак, узгоркі чорнымі і шэрымі плямамі выглядалі з-пад снегу. Яны нібы намагаліся хутчэй устаць, каб зацвісці прыгожай вясной.

Па палях, лугах і лясах хутка крочыла вясна. А яе даўно чакалі ўсе тыя, хто марозам і холадам быў загнаны ў сум вясковай вуліцы, хто цэлыя вякі быў прыціснуты пакутамі да зямлі і пух з голаду.

Вёска Лазоўка, што стаяла побач з Каменкай, збіралася на сход. Маленькія хаты стаялі па краях вузкай вуліцы, прытуліўшыся адна да аднэй. Вакенцы закураныя, сумныя, у большасці іх, замест шкла, тарчалі анучкі, рагожа і салома.

На вуліцу з хат выходзілі людзі. Яны збіраліся ў натоўп, размахвалі рукамі, аб нечым гутарылі.

— Таварышы, глядзіце. Яны-ж ужо едуць,—пачуўся голас з натоўпа.

— Так, так. Едуць,—адказаў хтось і з вінтоўкай цераз плячо накіраваўся насустрач едучым двум конным.

На край вуліцы да курніцы-хаты пад'ехалі два ўзброеных матросы. З чарнявым прыгожым тварам, высокі злез з каня, зняў карабін і, не спяшаючы, увайшоў у хату. Гэта быў Віхраў, які з сваім памочнікам вёў працу па арганізацыі чырвоных партызан. Ён вярнуўся з воласці ў вёску, дзе пакінуў некалькі ўзброеных людзей.

Памочнік бялявы, маладу, вёрткі і спрытны, прывязаў да ляскоўкі хлява коні і ўбег у хату.

Хата хутка набілася людзьмі. Прамені сонца прабіваюцца ў маленькія вакенцы і асвятляюць смуглыя твары. Падпёртыя бэлькі нізенькай столі, здавалася, вось-вось трэснуць, і столь паляціць на галовы. Паветра спёртае. Ля столі ўецца шызы махорачны дым і праз адчыненыя дзверы цягнецца на двор.

У дварэ на прызьбе і каля ляскоўкі сядзелі сяляне, а дзе-ні-дзе між імі ўзброеныя.

У хаце грукалі прыкладамі стрэльбаў, смяяліся, жартавалі. Жарты і смех сціхлі. Пачуўся басісты голас Віхрава.

— Ну, хлопцы, забралі зямлю, будзем абараняць і... кропка. Мы гаспадары...

Было ціха, толькі Віхраў штосці тлумачыў далей. Калі ён скончыў, з хаты пачалі выходзіць узброеныя і без зброі людзі. Яны ўсе зноў смяяліся, гаманілі і выходзілі потныя, нібы з лазні. Большасць узброеных не так даўно вярнуліся з акопаў. Іх твары былі зямлістыя, худыя. Апошнім выйшаў Віхраў. На істужцы бесказыркі літары „Гангут" заблішчэлі ад сонца.

З канца вуліцы відаць сінія, як мора, лясы маёнтка Прывольскага. Ахутаныя дрымотай яны не зварухнуцца хвоямі. Стромкія сосны і елкі, абамшэлыя ад старасці, распусцілі зялёныя лапы і стаяць, нібы карабельныя мачты, упіраючыся ў блакітнае неба.

Віхраў ускінуў на плечы карабін, узяў за повад каня, сказаў:

— Нас цяпер мала, таварышы, але нас будзе многа. А пакуль з двума дзесяткамі ўзброеных лепш на смерць пойдзем, а абаронім свабоду, советы, зямлю. Так, таварышы?

З натоўпа гучна адказалі:

— Правільна. Даёш.

А цяпер, пакуль я вярнуся, узброеныя пойдзеце пад камандаю Лобава на хутар Прывольшчына. І, звяртаючыся да свайго памочніка, дадаў:—Чакай там мяне, рабі так, як мы ўмовіліся і... кропка.

— Есьць, як мы ўмовіліся,—бадзёра адказаў матрос Лобаў:

Віхраў сеў на каня і з месца ўзяў рыссю.

Лобаў падцягнуў рухавама каньку папругі, паправіў на поясе бомбу, ускочыў у сядло і, выехаўшы на сярэдзіну вуліцы, працяжна крыкнуў:

— Станавіся!

Узброеныя стрэльбамі людзі хутка сталі па два ў рад. Яны былі апрануты па рознаму. Хто ў старым, з плямамі, парыжэлым шынялі, хто ў латаным кажуху, а хто ў ватовай зялёнацмянага колеру ватоўцы. Быў, нават, адзін з прыколатым на грудзях георгіеўскім крыжам.

Усе, як бы на якім ганаровым парадзе, выраўнаваліся.

Зважай!—крыкнуў Лобаў, і чоткім мерным крокам узброеныя пашлі...

Каля шляха, за лесам, дзе стаяў на беразе ракі Проні хутар, дваццаць узброеных партызан прыпыніліля, увайшлі ў хату...

Выставіўшы варту, матрос Лобаў прышоў і сказаў:

— Месца небяспечнае: у адзіннаццаці кілометрах на павет рухаюцца белапалякі і чакенцы. Нясуць гэтыя гады расстрэлы, шыбеніцы і жандарскі бізун. Нам тут трэба быць надта пільнымі...

Прайшла ноч... Трывожна ў павеце, па вёсках.

— Ці не здарылася што з ім? Чаго тут доўга сядзець?— думае Лобаў. Хвалююцца і партызаны, але моўчкі, галосна ніхто не хоча гаварыць, бо вераць у здольнасць Віхрова. Але-ж час небяспечны. Мала што можа быць.

* * *

На нач бярэцца мароз. Чырвоныя праменні пакрываюць захад. У хаце на хутары партызаны па чарзе спяваюць розныя песні, частушкі: пра здраднікаў-генералаў у Галіцыі і на Карпатах, пра Міколку і Распуціна з Алісай у Пэтраградзе. А за хутарам ціха. Не калыхнуцца галінкі бяроз на шляху. Між бярозамі на ўзвышшы стаіць вартавы. Ён глядзіць у бок павятовага горада, пільна сочыць за снегавой раўнінай, перарэзанай дарогамі.

З боку вёскі Лазоўкі, перайшоўшы скаваную ў ільды Проню, да хутара набліжалася постаць чалавека. Вопратка на ім падраная. На плячах старыя латы. Лапці стоптаныя. Твар худы.

Незнаёмы паглядзеў на гонтавую хутарскую страху, пачухаў патыліцу, а потым спрытнай хадой увйшоў у хату.

— Добры дзень, панове таварышы,—зачыніўшы за сабою рыплівыя дзверы, сказаў незнаёмы.

Добры дзень, толькі не панове, а таварышы. Гаспада адпачываюць у Петрапаўлаўскай крэпасці,—адказаўшы, пажартаваў матрос Лобаў.

Выбачайце, таварышы, усё забываюся, стары парадак вельмі прывучыў да гэтага слова,—адказаў незнаёмы і, нібы нездаволены сваім промахам, як вінаваты, стаў пільна глядзець у твар матросу. Лобаў усміхнуўся, змераў незнаёмага вачыма, падбадзёрыў.

— Ну, нічога. Цяпер трэба адвыкаць,—і спытаўся:—Адкуль ты? Чаго прышоў?

— Я з Каменкі. Якім Пакутоў. Хачу ісці ў партызаны. Казалі, марак Віхроў, што надоечы прыехаў з Петраграда, прымае.

— Ты-ж ужо стары, таварыш,— пажартаваў Лобаў.

— Нічога. Гады мае не старыя. Гэта жыццё звяло на старасць. Я яшчэ змагу не горш маладога. Калісці з Пуцілава папаў у флот. Стралок не дрэнны.

— Што? Ты, таварыш, быў рабочым? Мараком?—сур'ёзна і без жартаў зноў спытаў Лобаў.

— Так. Я ў вёсцы быў батраком. Пятнаццацігадовым хлапчуком паехаў у горад. Пяць год працаваў на Пуцілавым, а потым забралі ў флот. Сем год плаваў, служыў цару-крывасмоку. З голаду бацька ў вёсцы памёр. Пасля службы маці папрасіла пабачыцца. Прыехаў. Ажаніўся. Ну і застаўся ў гэтай цемры. Куды-ж было дзецца? Вось і валасы пасівелі.

Партызаны слухалі ўважліва і спачувалі перажытаму гору і пакутам Якіма.

Лобаў скруціў сабачую ножку. Закурыў. Потым, зацягнуўшыся дымам, трымаючы з тытуном партабак, сказаў:

— Ну, добра, таварыш Якім. Заставайся партызанам. Я памочнік Віхрова,—запішу цябе ў атрад. Зброю, боты і шынель пазней дастанем.

Якім усхваляваўся. Тупаючы дробненька нагамі на месцы, ён паправіў лахматую шапку, па-вайсковаму выпрастаўся і, хутка прылажыўшы руку да шапкі, гукнуў:

— Ёсць, таварыш камандзір. Рад старацца ваяваць за свабоду.

Партызаны пакаціліся з рогату. Матрос Лобаў, не ўседзеўшы, хутка падышоў да Якіма і з вясёлай ухмылкай ляпнуў яго па плячы, падбадзёрыў:

— Малайчына, таварыш Якім. Сапраўды ты яшчэ не кісель. Вось адваюем ад усякай палундры свабоду, тады, брат, зажывём.

— Так. Няўжо-ж, зажывём. А калісці жылі,—прападзі яно пропадам,—падтрымаў Якім і, выняўшы з кішэні выраваную з нейкай малітоўнай кніжкі паперу, пачаў яе адрываць на цыгарку.

— Закуры, таварыш Якім, майго,—запрапанаваў Лобаў,—а то, як відаць, гэта папера ад самого святога архангела. Яна будзе непрыемна пахнуць.

Якім узяў у Лобава з тонкай паперай тытун і сеў побач з матросам.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Каля павятовага горада на бліжэйшым хутары Сошкі Віхроў спыніў потнага каня. Гаспадар хутара, высокі, худы, нібы шкілет, з падобнай на падкову рыжай бародкай, прывітаўся з Віхровым. Узяў за повад каня, увёў яго ў „сенцы“-будан, зложаны з яловых лапак.

Як толькі сонца паднялося на поўдзень, з хутара Сошкі ў сялянскай вопратцы вышаў Віхроў. У руцэ, на вяроўцы, ён нёс два старых тапары, а пад пахай трымаў шчарбатую касу.

Польскі конны раз'езд ужо ўступіў у павятовы горад. Чорная сотня сустрэла яго з царкоўным і касцельным звонам. На сытых конях, з клуначным кулямётам уехалі ў горад сорак легіянераў і пачалі сваю справу. У павятовую турму і падвалы адводзяць падазроных у большэвізме людзей. Свішча польскі бізун. Арудуюць чорнасоценцы.

Віхроў прайшоў па вузкай вулачцы горада і на краі прыпыніўся, азірнуўся вакол, паглядзеў на сонца—было з поўдня. Па краёх стрэх невялічкіх хат, нібы цвікі, тарчаць ледашы. Па ледашах сцякаюць кропелькі вады. На вуліцах горада ўжо з'явіліся брудныя лужыны.

— Гэх! Хутка прыдзе вясна, растане чэрствы снег, вада сцячэ ў рэчкі, вазёры, у моры. А па моры паплывуць совецкія караблі,—падумаў Віхроў і ўбачыў: насустрач яму з двума коннымі легіянерамі верхам ехаў па вулачцы белапольскі афіцэр. Віхроў, не спяшаючыся абышоў брудную лужыну, зайшоў у хату, што стаяла побач з невялічкай кузняй. Афіцэр з конным праехаў міма хаты, павярнуў пад гару, на другую вуліцу, рухавага каня і хутка знік.

Толькі што прышоўшы з кузні на абед, каваль Міхан сядзеў за сталом, абапёршыся локцямі на стол; шурпатымі рукамі ён трымаў кудлатую галаву і штосці думаў.

Увайшоўшы ў хату, Віхроў кінуў на падлогу са звоном свае рэчы, сказаў:

— Здароў, Міхан, чаго зажурыўся?

Пазнаўшы знаёмы голас, з нейкай таемнай радасцю Міхан хутка ўстаў і, падаючы цвёрдую руку, загаварыў:

— Здароў, здароў. Я, брат, цябе не пазнаў. Ёмка-ж ты прыбраўся, не пазнаць.

— Так, ужо не пазналі. Кажы, брат Міхан, хутчэй, што робіцца і што чуваць у горадзе?—сеўшы на тапчан, запытаў Віхроў.

— Арудуюць, гады. Белых сорак чалавек прыехала, ім дапамагае чорная сотня. Ёсць чуткі, што праз тры дні рэгулярнае войска з чакенцамі прыбудзе. А на складзе земскай управы тысяча стрэльбаў. Кулямёт палякі ўзялі і стрэльбы збіраюцца ўзяць. Трэба, як мага хутчэй, уздзейнічаць,—упэўнена растлумачыў Міхан.

— Колькі каля складу стаіць вартавых?

— Удзень адзін чорнасоценец, а ў ночы два:-чорнасоценец і бела-польскі легіянер.

— Добра. Сёння ноччу зброю захопім,—працягваў Віхроў,— толькі як ты лічыш, лепш з Дваранскай зайсці, ці з другой?

— Я лічу, лепш з Дваранскай, і трэба, каб у гадзіну ночы, бо вартавыя зменьваюцца праз дзве гадзіны, а за гэтыя дзве гадзіны можна шмат чаго зрабіць. Наконт трывогі ў гэту ноч не такая небяспека, бо частка легіянераў з кулямётам паехала ў вёску Бабры па кантрыбуцыю.

— Вось добра. Роўна у гадзіну ночы чакай на канцы Дваранскай, буду з надзейным дзесяткам,—упэўніў Міхана Віхроў і, устаўшы з тапчана, запытаў:

— Многа арыштаваных?

— Каля ста чалавек, двух расстралялі, прызначылі і яшчэ.

— Мы ім, гадам, прызначым. Так паставім кропку, што і шапак не справяцца захапіць. Будзь здароў, брат Міхан, трэба спяшацца. Міханова рука, нібы абцугамі, моцна paціснула яго руку.

Віхроў вышаў з тымі-ж тапарамі і шчарбатай касой.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

З хутара Сошкі, на потным кані, у флоцкай форме, нагнуўшыся наперад, імчаўся Віхроў. Металічна-бліскучыя граматы, нібы дзве белыя рыбкі ля пояса, матляліся ў бакі. Карабін за плячыма блішчэў ад сонца. Праз плечы, накрыж—з баявымі патронамі кулямётная істужка. Казацкая шабля ў срэбнай, аправе то павольна металася і злёгку біла похвай жывот баявога каня, то падскоквала ўгору, стукаючы ручкай у локаць Віхрову. Жоўтыя канцы істужкі бесказыркі з „Гангута“ шалясцелі ў паветры над спіною і павольна прылягалі бліскучымі якарчыкамі на шыю матроса.

Прымчаўся на Прывольшчыну і не паспеў злезці, як да Віхрова падбеглі памочнік і некалькі партызанаў.

— Дзе быў так доўга? Як справа? Кажы хутчэй.

Тысячу вінтовак сёння ноччу захопім і кропка. Інакш забяруць белапалякі,—адказаў Віхроў і запытаўся:

Папаўненне ў атрад ёсць?

— Ёсць. Сорак. З іх пятнаццаць узброеных, дваццаць пяць без зброі. Не прыняў пятнаццаць, бо людзі не надзейныя.

— Добра. А колькі бомбаў?

— На ўвесь атрад дзесяць.

— Ну, дык Навума пасылай з бяззбройнымі ў сяло Клетка Дваццаць пяць узброеных накіроўвай з Лёвам пад самы горад к лесу, да хутара Сошкі, на выпадак чаго гэта будзе нам падмацаванне. Лёву дай умоўны знак. А ты і дзесяць партызан з бомбамі—гайда за мной!—загадаў Віхроў.

З хаты паромшчыка выбеглі на двор партызаны. Яны пастроіліся ў адну шарэнгу, потым разбіліся на тры калонкі, пашлі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Марозная ноч... Цёмна блакітная неба ўсеяна зорамі. Моцна спіць павятовы горад. Не спіцца толькі Міхану. Тры вакны яго хаты шчыльчна завешаны коўдрамі. У хаце гарыць маленькая газоўка. Свет газоўкі сумны. Ціха такаюць на сцене ходзікі. За невялічкай дашчатай перагародкай, аклеенай шпалерамі, у каморцы спіць Міханава сям'я: жонка, двое малых дзяцей і старая маці. Міхан паглядвае на ходзікі,—час цягнецца несцярпіма доўга. Ён нервуецца і, каб не разбудзіць сям'ю, ціхачом ходзіць па хаце. З таго часу, як пайшоў Віхроў, не пакідаюць Міхана трывожныя думкі: як лепш узяць ад чорных крумкачоў зброю, выратаваць ад смерці таварышоў, што кінуты белымі за краты, як лепш і з гонарам выканаць свой абавязак комуніста, не шкадуючы, калі трэба будзе, і жыцця.

Усё, што змог, Міхан зрабіў і зрабіў больш, чым ад яго залежала.

Ужо набліжаецца час. Было дванаццаць ночы. Міхан хутка апрануў з'едзены іскрамі ля горна кузні стары кажух, праверыў „наган“, заткнуў яго за пазуху, хацеў ісці, як пачуў:

— Міханка, ты куды?—падхапіўшыся з ложка, ціха спытала жонка. Яна гэта рабіла так заўсёды, калі бачыла Міхана узбуджаным. Сёння яна нібы сэрцам адчула, што Міхан ідзе ў небяспеку.

— Я, Сара, зараз, зараз прыду,—быццам спужаўшыся ад нечаканага голасу жонкі, пачаў Міхан.—У нас паседжанне... Усё будзе ў парадку, не клапаціся. Гэта ж не ўпяршыню, спі, будзь спакойна.

— Не ідзі, Міханка, не ідзі, чуе мае сэрца бяду. Не ідзі, схопяць... Расстраляюць.

— Кінь, Сара, дурыцца. Ты мне час марнуеш. Трэба працаваць, скора чырвоныя партызаны ўступяць у горад. Трэба-ж абгаварыць сустрэчу сваіх таварышоў,—схлусіў жонцы Міхан і, супакоіўшы яе, ціха адчыніў дзверы і вышаў.

Ідучы па цёмных, глухіх завулках горада, Міхан пачуў, як у боку вёскі Бабры за горадам скрыпелі ад мароза сані.

— Так, гэта мабыць Віхроў з партызанымі едзе, альбо у горад вяртаюцца белыя,—падумаў Міхан.

Ён стаў трывожыцца за Віхрова. Думка аб захопе зброі не пакідала Міхана. Яна гарыць вялікім натхненнем, і мацней стукае сэрца. Міхан, не трацячы надзеі, хутчэй затупаў да ўмоўнага месца.

У канцы Дваранскай вуліцы, за цёмным завулкам, Міхан заўважыў нерухомую чорную постаць чалавека.

— Няўжо гэта не Віхроў,—зноў падумаў ён і схапіўся за халодную ручку нагана, а потым з боку вуліцы з асцярогай стаў падыходзіць да постаці.

Зоркія вочы даўно заўважылі Міхана, і ён пачуў ціхі знаёмы голас Віхрова:

— Міхан, ты?

— Так, я,—перавёўшы дух, адказаў Міхан і хутка падбег да Віхрова.

— Вось, брат Міхан,—шэптам працягваў Віхроў,—ты як раз у час прыспеў. Я толькі што з-за таго вугла бачыў, як ля склада змянілася варта. Трэба хутчэй дзейнічаць.

— Так, будзем дзейнічаць,—падтрымаў Міхан, я ўчора, як ты пашоў, дастаў у земскай управе праз свайго чалавека пароль да склада.

— Ну, вось добра,—усхваляваўся Віхроў, паправіў бесказырку і дадаў:

— Хадзем да хлапцоў, пакажам белякам кузькіну матку і кропка.

Пашлі...

Віхроў хутка прывёў Міхана ў цёмны завулак, што упіраўся ў Дваранскую вуліцу.

Па завулку адна за аднэй ланцугом у два рады стаялі падводы. Падводчыкі сяляне, нібы прывязаныя, стаялі і трымалі за павады запрэжаных у сані коняй. Уперадзе падводчыкаў ля глухой сцяны нежылога будынка—дзесяць узброеных партызанаў.

Віхроў падышоў да партызан і штосці ім растлумачыў. З пяцьма узброенымі памочнік Віхрова Лобаў хутка адышоў ад сцяны на сярэдзіну завулка і разам з Віхровым і Міханам яны пайшлі ланцужком. Узышоўшы на Дваранскую, смельчакі адзін за адным, прытаіўшы дыханне, ціха ішлі ля дашчатага плота, да вялікага дома, што стаяў у канцы вуліцы. За дзесяць крокаў за паваротам быў склад. Ля адчыненай форткі ў доўгай чорнай шубе стаіць чарнасоценец-вартавы. А за форткай, на двары, за некалькі крокаў ад дзвярэй склада, то ўзад, то ўперад ходзіць другі вартаўнік—польскі легіянер.

Падышоўшы да павароту, Віхроў і Міхан пакінулі за вуглом дома з партызанамі Лобава, а самі хутка пашлі да чорнасоценца, нібы прахожыя.

— Стой! Хто ідзе?—крыкнуў вартавы.
— Свае!—устрывожана адказаў Віхроў.
— Хто свае? Пароль?
— „Штых-Шанхай",—смялей, не спыняючы хады, зноў адказаў Віхроў.
— Ну, гэта іншая справа,—сплюнуў чорнасоценец.

Белапольскі легіянер, што хадзіў у двары, хутка падышоў да форткі і праз адчыненыя дзверы запытаў:

— А цо там такего?

У гэту хвіліну Віхроў і Міхан кінуліся на варту. Моцнай рукой Міхан вырваў з рук чорнасоценца вінтоўку і, наставіўшы рулю нагана яму ў твар, сказаў:

— Ні пікні, гадзіна, а то застрэлю.

А Віхроў наскочыў на легіянера, які ў гэты час спрабаваў адбегчыся ў двор, каб пачаць страляніну, ухапіў яго за каўнер. Легіянер хістануўся, выцягнуў у бок правую руку з вінтоўкай. Трымаючы за шыйку прыклада стрэльбу, ён намагаўся даць сігнальны стрэл. Але хутка з партызанамі падбег Лобаў і лоўкім ударам прыклада выбіў у лігіянера з рукі стрэльбу...

На двары забегалі партызаны. Хутка пад'ехалі падводы. Сарваны замкі. Ляскае зброя. Чуцён храп коняй. Нарэшце крануліся з двара нагружаныя зброяй вазы. З вуліц зняты тры партызанскія дазоры.

— Вартавых забярэм, ад іх ты, што трэба, даведайся,—сказаў Міхан і, удыхнуўшы марознае паветра, выцер рукавом кажуха потны лоб.

— Так і я думаю,—падтрымаў Віхроў і, трымаючы на перавес карабін, сказаў Лобаву:

— Крой, брацішка, да рэчкі, што за горадам. Там сігналам вызаві рэзерв Лёвы, дай тры стрэлы. Мы з Міханам хутка дагонім. Глядзі не выпусці гэтых паноў і кропка.

— Ёсць, не выпускай паноў,—адказаў задаволены Лобаў і, па-вайсковаму павярнуўшыся, пашоў.

Калі партызаны даехалі да ўмоўленага месца, Лобаў спыніў падводы са зброяй, падняў угару карабін і тры разы стрэліў у паветра. Запрэжаныя коні, што стаялі бліжэй да Лобава, ад стрэлаў закруцілі галовамі. З хутара Сошкі напрост беглі па цвёрдым снезе ланцугі рэзерва Лёвы...

Праз цёмныя завулкі, з вялікай асцярогай Віхроў і Міхан падышлі да каменнага двухпавярховага дома. Гэта быў штаб і казарма белых з чорнасоценцамі. З працілеглага боку, ля параднага пад'езда, на вуліцы стаяў польскі вартавы.

Віхроў і Міхан прытуліліся за вуглом дома з другога боку. На невялікую вуліцу з дома глядзела некалькі пар сумных вакон.

Як толькі Віхроў пачуў тры стрэлы Лобава, ён ціха сказаў:

— Вось, чуў? Гатова. Кінем па адной і, пакуль што, хопіць гадам. Толькі не прамахнем і кропка.

Міхан нешта хацеў адказаць, але не паспеў, толькі ў знак згоды матнуў галавой. З-за вугла дома пачуліся крокі вартавога, які ішоў проста на іх. Віхроў і Міхан шарахнуліся на другі бок, на невялікую вулачку. Прыпалі да сцяны дома. У грудзях Міхана моцна стукала сэрца. Станавіўся цесным каўнер. Віхроў, сціснуўшы зубы, настаражыўся, твар стаў бледны. Віхроў моцна трымаў у руках сваю карабінку, пазіраючы за вугал.

Вартавы, пастаяўшы крыху каля вугла, дзе раней былі Віхроў і Міхан, зноў пашоў на сваё месца.

— Кінем, брацішка, не прамахнём,—прашаптаў Віхроў.

— Не прамахнём,—кіўнуў у згоду Міхан.

Узмахнулі бомбамі ў паветры і разам, нібы па камандзе, паляцелі ў сумныя вокны дзве бутэлечныя гранаты. Зазвінела шкло. Уздрыганулася зямля.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Па цёмных завулках Міхан і Віхроў выбеглі на край горада.

— Ну, бывай здароў, брат Міхан. Удала ўсё зрабілі, цяпер мы пераможам. Заўтра чакай у горад чырвоных. Горад будзе савецкім. Усіх арыштаваных выпусцім на свабоду,—сказаў Віхроў, паціскаючы руку Міхану. Ад радасці ў Віхрова і Міхана выступілі слёзы.

— Буду чакаць, брацішка. Сустрэнем з чырвонымі сцягамі,—адказаў Міхан. І яны моцна пацалаваліся. Міхан пашоў па вузкай цёмнай вуліцы. Услед яму, абапёршыся на карабінку, глядзеў Віхроў, пакуль постаць Міхана не схавалася ў завулку.

У горадзе былі чутны крык, гоман. Перапалох не сціхаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшла марозная ноч. Чырвоным полымем пакрыўся ўсход... Узышло сонца. Рухаюцца адна за аднэй падводы са зброяй. Стрэльбы, цятнаццаць скрынак патронаў і скрынка гранат у надзейных руках.

Сярод двух конных матросаў ідуць сумныя белапольскі легіянер і чорнасоценец. У партызанскай калоне чутны жарты і смех.

Каля будынка школы ў сяле партызаны прыпыніліся. Выбеглі з Навумам бяззбройныя.

— Вінтоўкі! Вінтоўкі! Урр-ра! Урр-ра! Урр-ра!

Ад крыку і хвалявання скалануліся на шляху старыя бярозы. Партызаны святкавалі сваю перамогу.

---

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ

# АД МЯДЗВЕДЖАЎ ГАРЫ ДА БЕЛАГА МОРА

**(З запісной кніжкі)**

„Нам чужда изысканная фраза,
Ложь и фальш безмерно далека.
Голубым осколком диабаза
Наше слово падает в века.
Мы расколем каждый лишний камень,
Повернем к победе русла рек!
И досрочно— нашими руками—
Будет создан новый человек."

*(„Поэма завершения" Сергея Кремкова, газета „Перековка" № 75 от 20/VII 1933 г.)*

Кастрычніцкія дні 1917 года ў былой Расіі зрабілі вельмі істотную папраўку да гісторыі грамадства. Чалавецтва скінула са сваіх плеч велізарны і непатрэбны груз, які яно несла на працягу цэлых стагоддзяў. І найвялікшыя змены ў грамадскім ладзе, зробленыя расійскай пралетарскай рэвалюцыяй, сталі пачаткам найвялікшых змен ува ўсіх галінах разумнай дзейнасці чалавека, пры гэтым, што вельмі важна, самі змены былі і ёсць вынікам гэнае дзейнасці.

Мяняецца ўсё, пачынаючы ад вопраткі на чалавеку да змен у прыродзе.

Знікаюць лахманы і рыззё, у якіх хадзіла значная частка насельніцтва былой расійскай імперыі. Знікаюць лапці, як традыцыйнае ўбранне беларускага ды ў значнай долі і расейскага селяніна. Змяняюцца разуменні. Знікае індывідуалізм. На месца „я"—індывідуалізму прыходзіць „мы", і ў гэтым „мы", у калектыве максімальнай свабоды і вышыні ўсебаковага свайго развіцця дасягае „я"—індывідуальнасць. Сціраюцца, знікаюць грані паміж разуменнямі „мае" і „наша". Найвышэйшым прынцыпам у жыцці чалавека, у псіхіцы селяніна, каму найбольш уласцівым быў дробна-буржуазны індывідуалізм, становіцца не „маё" а „наша".

Разуменне „карная палітыка" ў нашых умовах нават у адносінах да самых рэакцыйных, самых злачынных, самых соцыяльна-небяспечных людзей, усім сваім зместам мае за мэту перавыхаванне так званага злачынцы, дапамогу яму ў справе вызвалення ад атрутнай спадчыны капіталістычнага ладу.

Целы рад разуменняў ужо сёння робіцца ў нашых умовах адцягненымі. Гэткія: голад, жабрацтва, беспрацоўе і бяспрытульнасць ды рад іншых. Пакаленне людзей, што ідзе за намі, будзе ведаць пра змест гэтых разуменняў толькі з кніжок. Так дзейнічае разумная воля чалавека, арганізаваная ленінскай большэвіцкай партыяй, ператвараючы ў рэчаіснасць адвечную мару лепшых прадстаўнікоў чалавецтва. Так ідзе працэс вялікага абнаўлення краіны і людзей. А ў вынік.

Непраходныя дрыгвістыя балоты беларускага Палесся ператвараюцца ў багатыя ўраджаямі палі, у крыніцы электраэнергіі і сыравіны для хімічнай прамысловасці...

Дняпро, праслаўлены сваімі парогамі, праз якія небяспечна было плыць і ў чоўне, стаў судаходным на ўсім працягу, а дрымотныя да гэтага сілы дняпроўскай вады сталі крыніцай электраэнергіі, якой харчуюцца дзесяткі гарадоў, сотні заводаў і фабрык, тысячы калгасаў Украіны...

На вялікіх прасторах Саюзу рэспублік паўсталі дзесяткі гігантаў соцыялістычнае прамысловасці, як Кузбас, Магнітабуд, Ніжагародскі аўтамабільны, Харкаўскі, Сталінградскі і Чалябінскі трактарныя ды іншыя.

Дзікія пустэльныя раўніны ператвараюцца ва ўрадлівыя землі, атрымаўшы ваду, накіраваную да іх рукой чалавека.

Так змяняецца геаграфія пад дзеяннем разумнае волі чалавека.

Так нараджаецца далёкі Карэльскі край, злучыўшы каналам сістэму сваіх рэк і вазёр і злучыўшы праз гэта два моры; і разам з гэтым дзесяткі тысяч былых зладзеяў, бандытаў, кулакоў і шкоднікаў, прайшоўшы пад кіраўніцтвам чэкістаў вялікую і суровую школу гераічнае працы, сталі поўнацэннымі грамадзянамі нашай соцыялістычнай краіны, збудаваўшы для яе Беламорска-Балтыцкі водны шлях.

Калі я думаю пра гэта, у памяці маёй паўстаюць вобразы інжынераў Зубрыка, Вяземскага і Ананнева і вобразы большэвікоў чэкістаў тав. Успенскага і Фірына, выдатнага арганізатара і педагога.

* * *

Гэта было ўвечары 17 жніўня 1933 года ў залі пасяджэнняў Аргкамітэта саюза совецкіх пісьменнікаў СССР па вуліцы Вароўскага ў Маскве. Заля была напоўнена таварышамі, што збіраліся ехаць на Беламорска-Балтыцкі канал. Перад таварышамі блок-ноты, запісныя кніжкі. На сцяне, што за прэзыдыумам, даўгая паска калькі — карта ББВШ Побач тав. Фірын начальнік Белбалтлагера. Сцісла, але жыва, глыбока праўдзіва, як сапраўдны мастак, ён апавядае пра канал і людзей, якія яго будавалі. Час-ад-часу называе лічбы, мясцовасці і тады звяртаецца да карты. У залі цішыня. Ува ўсіх сваясаблівая прыўзнятасць. Кожны з нас узхваляваны напружаным чаканнем хутчэй пабачыць на ўласныя вочы тое, пра што чуе з вуснаў тав. Фірына.

Прарылі велізарныя дыабазавыя скалы.

Паглыбілі рэчкі і на багата паднялі ўзровень вады ў вазёрах.

Змянілі кірункі рэк.

І дзесяткі тысяч былых зладзеяў і бандытаў, кулакоў і шкоднікаў перакавалі, зрабілі людзьмі.

Каго не хвалявала гэтае кароткае апавяданне тав. Фірына?

А праз пару гадзін—вагон, лёгкае зыбанне і доўгі час абапал вагона, агні Масквы. Гэта цягнецца доўга. Усё хутчэй і хутчэй імчыцца цягнік, і ўжо раўней зыбанне і радзей агні. Цяпер яны ўжо не паўстаюць перад вагонным вакном радамі вокан шматпавярховых дамоў, а адзінкамі туляцца нізка да зямлі за насыпам чыгункі і таропка адбягаюць назад, каб знікнуць за бліжэйшым узгоркам. Тады за вагонным вакном—халаднаваты вецер і густая, ліпкая ад вільгаці, цемра начы ды зласлівы і задзірысты лязгат жалеза. І мы адыходзім ад вакна, ідзем у купэ і ўспамінамі гартаем жывыя і яркія незабытныя старонкі з кнігі пра нашу краіну.

* * *

У вагонным калідоры інжынер Магілка, які едзе з намі, апавядае Веры Міхайлаўне Інбер пра кліматычныя і геалагічныя асаблівасці Карэліі. Вакол іх адразу-ж збіраецца група таварышоў, і ўжо зусім нельга перайсці з аднаго канца вагона ў другі. Ды і той, хто меркаваў ісці, спыняецца і слухае майстэрскае, жывое інжынерава апавяданне, запамятаўшы, што збіраўся пайсці ў суседняе купэ. Хочацца бясконца слухаць, але за вагонам ужо даўно ноч, на гадзінніку палова на другую, а кожны хоча раней падняцца раніцою, каб пабачыць прыроду Карэліі. Да ўсяго адчуваецце цяжкая стомленасць ад вялізарнай масы ўражанняў, што пакінулі гутаркі таварышоў і бачанае ў Ленінградзе і Пецяргофе. Ідзем спаць. Але жаданне як мага хутчэй пабачыць канал настолькі моцнае, што сон не ідзе, і як ледзь-ледзь задрэмлеш, вочы зноў здзіўлена ўглядаюцца ў цемру, дзе вакно, ці не развіднела. Так праходзіць уся ноч.

А ў Петразаводску, а восьмай гадзіне ранку, ўсе на нагах. хоць хмарна і дзме халодны вецер,—усе каля адчыненых вагонных вокан.

Яшчэ колькі хвілін, і цягнік ідзе далей. Нейкі час за ўзгоркамі, за лесам мільгае роўная гладзь Анежскага возера, але хутка яно знікае за лесам, і перад вачыма—нізкарослы хвойнік, алешнік, ды каля чыгункі нізкія кусты рабінніка з яшчэ недаспелымі ягадамі. Мясцовасць няроўная: узгоркі, нізіны, раўчакі. Лапекі поля і сенажацяй густа ўсеяны каменнем. Рэдкія драўляныя вёскі. Чым далей едзем, тым радзей палянкі і тым больш камення. Вялізнымі глыбамі вылазіць яно з-пад імха і рэдкай травы. Гладкія,—сляды ляднікоў,—з нахілам у бок да чыгункі, нярухома

ляжаць шэрыя каменныя глыбы. Мясцінамі яны абраслі бурым мохам, а вакол іх рэдкія, напалову ссохлыя стваль нізкарослых сосен і бяроз.

Пасля зусім нечакана, гэта ў сорак пяць хвілін на трынаццатую гадзіну 13 жніўня, станцыя Мядзведжая Гара. Тут цэлы гарадок. Гэта цэнтр кіраўніцтва Беламорбуда. Ён вырас у працягу двух год. Аўтабусамі едзем да дома начальніка будаўніцтва і там ідзем уніз да рэчкі. Рэчка невялікая, але, як і ўсе рэчкі гарыстых мясцовасцяй, з хуткім цячэннем. Каля рэчкі— густы лес. Амаль уся паверхня ракі пакрыта бярвеннямі. Бярвенне плыве за цячэннем ракі. На завапатах яно ўпіраецца ў берагі і тады нейкі час нярухома стаіць ля берагоў, покі новае бервяно ці рабочыя сплаўшчыкі скрануць яго з месца. Тады яно зноўку плыве за цячэннем ракі. Гэта так званы сплаў россыпам.

Каля рэчкі зачароўвае цішыня. Пра яе многа апавядаў т. Магілка. Я прыпамінаю Палессе з яго нястомным гоманам птушак. А тут хоць бы адзін гук, толькі чуюцца звонкія ўсплескі вады,—гэта палезлі ў ваду таварышы, якія парашылі купацца. Але рэчка мелкая, і яны ходзяць па вадзе, бо няма як кінуцца і плысці. І яшчэ чуваць звонкі дзіцячы смех. Супроць нас, крыху ўлева, высокі пясчаны бераг. З самай гары дзеці кідаюць уніз на пясок сабаку. Бераг такі круты, што сабака не можа затрымацца на пяску і, куляючыся, неяк бокам бяжыць уніз аж да самай ракі, а за ім, забіраючы бераг наўскасяк, каб не такі круты быў спуск, пакідаючы ў вільготным пяску сляды, бягуць з рогатам уніз і дзеці.

Праз нейкі час мы зноўку ідзем угару і там знаёмімся з інжынерам Ананневым. Пра яго нам гаварыў тав. Фірын. У мінулым Ананнеў дваранін, буйны ваенны інжынер. Да рэволюцыі ён, па яго словах, „обладал состоянием в два миллиона рублей". Меў у Персіі канцэсію на 72 тысячы дзесяцін. Па даручэнню міністэрства замежных спраў вёў, у піку Англіі, такую-сякую працу пры двары Зелім-султана. Керэнскім быў прызначаны начальнікам абароны Зімняга палаца. Пасля рэвалюцыі працаваў ва Узбекістане, з якім раней былі звязаны ягоныя матэрыяльныя інтарэсы. Ананнеў папаў у Белбалтлагер за контррэволюцыю. На допыце ён без замінкі заявіў следчаму, што „калі-б інтэрвенты з'явіліся на совецкай тэрыторыі, ён неадкладна далучыўся-б да іх".

А сёння Ананнеў совецкі інжынер, ён адзін з тых, каго, як прынята гаварыць на Белморбудзе, перакавала соцыялістычная практыка. „У мінулым я міліянер,—кажа Ананнеў,—жыў у раскошы і толькі на канале зразумеў, што такое сапраўдная праца. Тэмпы, якімі збудаваны канал, вельмі значныя нават для новабудоў Совецкага саюза. Напрыклад: на нашым вучастку, зняўшы ўсіх рабочых з кубатурных работ, мы правялі 2,5 кілометры аўтамабільнай дарогі за адны суткі. Я сустракаў тут людзей, якіх нельга было нават сілай прымусіць працаваць. Але і яны, заці-

каўленыя грандыёзнай працай, рабілі ўдвое, утрое больш таго, што ад іх патрабавалі. Я ведаю, што толькі адзін наш вучастак падрыхтаваў тысячу дзесятнікаў, тэхнікаў, воднікаў, слесароў, падрыўнікоў, бетоншчыкаў. Я бачыў людзей, якія ў хвіліну небяспекі, калі на перамычку наступала вада, загараджвалі грудзмі прамыіну, пакуль таварышы падносілі мяшкі з пяском. Гэтыя людзі зусім шчыра, не з жадання выслужыцца, а імкнучыся дапамагчы будоўлі, далі некалькі сот тэхнічных прапаноў.

...Я асабліва выразна бачыў, што людзі крочылі наперад, не жадаючы азірацца на сваё цяжкае мінулае. Нельга было без хвалявання бачыць учарашняга злодзея, які, прайшоўшы ўсе этапы і турмы, вырысоўваў на дошцы прызму і ведаў, што такое чысло „пі“.

... Канал навучыў мяне большаму, чым у свой час акадэмія. Мне гаварылі, што нельга рабіць зямельныя насыпы зімой, што бетонныя працы магчымы толькі ўлетку. Усё гэта аказалася ерундой“.

Гэта сам пра сабе разказваў інжынер Ананнеў аднаму з журналістаў.

„Упяршыню за трыццаць чатыры гады працы,—кажа ён,— я сустрэў выключную чоткасць і правільную арганізацыю працы. На якім другім будаўніцтве ўлік наладжаны настолькі, што кожны дзень да вечара можна бачыць карціну ўсяго зробленага? Ідэя перавыхаваць людзей у лагерах працай надзвычай здаровая і прыгожая“.

Выказванні Ананнева настолькі цікавыя, што чытачы, я спадзяюся, даруюць мне за такую вялікую вытрымку, тым больш, што каментарыяў гэтая вытрымка не патрабуе. Практыка соцыялістычнага будаўніцтва настолькі пераканальная, валодае настолькі вялікай выхаваўчай сілай, што перакоўвае, вызваляе ад цяжкага мінулага не толькі былых зладзеяў і бандытаў, але і былых свядомых перакаваных контррэволюцыянераў. Ананнеў адзін з перакаваных. Стары, яму 60 год, але бадзёры, моцны яшчэ, са значком ударніка Беламорбуда, ён стаіць сярод нас і апавядае асобныя эпізоды з жыцця на канале, адказвае на запытанні, якім, здаецца, не будзе канца.

* * *

У радзе гігантаў соцыялістычнай будоўлі Беламорска-Балтыцкі водны шлях займае своеасаблівае месца, як па свайму культурна-гаспадарчаму значэнню, так і па гісторыі будаўніцтва. Таму зусім не дзіва, што кожнаму з нас не толькі хочацца наогул як мага больш пачуць пра яго, але хочацца пачуць нешта сістэматызаванае, цэльнае. Кіраўнікі, арганізатары нашай паездкі ведаюць гэта, разумеюць нашае жаданне, і праз які час мы на двары, побач з будынкам мосцімся хто на лавачках, хто на траве, каб слухаць даклад інжынера Магілкі, аднаго з тых, хто ў працы на Беламорбудзе па сапраўднаму знайшоў сябе і як грамадзяніна Совецкага саюза і як спецыяліста.

Вось ён, Магілка, Мікола Васіллевіч, намеснік галоўнага інжынера будаўніцтва, адзін з сааўтараў праекта Беламорбуда, узнагароджаны ордэнам „Красная Звезда". Цяпер з шэрагам другіх таварышоў Магілка працуе па напісанню манаграфіі пра ББВШ.

Высокі, ладна складзены ён стаіць за невялічкім столікам, абапёршыся на яго сціснутымі ў кулакі рукамі, штосьці маркуе. Пасля бярэ са століка і перадае нам паглядзець схему канала, начэрчаную на невялічкай, памера паштоўкі, картцы і раіць зірнуць на карты, якія ляжаць тут-жа на зямлі побач з намі. Гэта карты аўтаномнай Карэльскай ССР, на тэрыторыі якой збудаваны канал. Пакуль мы разглядаем карту і схему канала, ён дае патрэбныя даведкі і пачынае лекцыю.

Зірніце, таварыш чытач, на карту поўначы СССР, на прасторы, што паміж Ленінградам і Архангельскам. Перад вамі, напэўна, як і перада мною, карты, на якіх Б. Б. В. Ш. яшчэ няма. Але я выразна бачу гэты шлях, якім плывуць совецкія караблі.

З партоў Ленінграда плывуць яны па Няве ў Ладажскае возера, далей па рацэ Свір да Анежскага і там на Анежскім возеры, дзе Павянец, уваходзяць у першыя вароты Павянчанскіх шлюзаў і ўжо каналам плывуць у Белае мора, каб праплыць па ім нейкі час і прычаліць у Архангельску.

Гэта цяпер. А раней трэба было совецкаму караблю, які хацеў папасці ў Архангельск, плысці па Фінскаму заліву у Балтыцкае мора, плыць каля берагоў фінляндыі, Швецыі і Нарвегіі, каб выйсці з Балтыцкага мора ў Атлантычны акеан, абагнуць па акеану ўсю Нарвегію, каб зноў патрапіць у Белае мора і тады ўжо прычаліць у Архангельску.

Сёнешні шлях ад Ленінграда да Архангельска створаны будаўніцтвам Б. Б. В. Ш., карацей старога ў тры з паловаю разы, карацей на чатыры тысячы кілометраў. Ужо з гэтай лічбы становіцца зразумелым вялізарнае эканамічнае значэнне канала. Але яно не толькі ў гэтым.

Нязмерна вялікую ролю адыграе канал у эканамічным і культурным развіцці Совецкай Карэліі і наогул совецкае поўначы.

З усіх частак былой царскай Расіі Карэлія была краінай самага павольнага эканамічнага развіцця, не гледзячы на вялізарныя прыродныя багацці. Побач з Карэліяй, непадалёку ад гэтай вялікай прасторамі краіны, „дзікае поле" ператваралася ў густа заселеную земляробскую краіну. Там выраслі вялікія гарады і прамысловыя цэнтры, а на прасторах Карэліі, на невялічкіх кавалках зямлі, даўно адваяваных ад леса, балота і каменняў, мясціліся ўсё тыя-ж старыя вёскі, якія нават у пачатку дваццатага стагоддзя мелі 2-3 двары, якія налічвалі гісторыю існавання да чатырохсот год.

Было-б непраўдай гаварыць, што ў мінулым нікога не цікавіла праблема воднага шляха з Белага мора ў Балтыцкае праз Анежскае возера. Гісторыя гэтай праблемы налічвае не адно стагоддзе. Гісторыя памятае доўгі гандлёвы шлях Сарока—

Павянец—Ноўгарад Вялікі. У часы свайго фармавання гандлёвы капітал імкнуўся ўмацавацца на Белым моры. Выходзячы з гэтых імкненняў, прадстаўнікі гандлёвага капітала ставілі перад сабой за мэту пашырэнне гэтага воднага шляха. З часам, калі Расія пачынала гандляваць с замежнымі дзяржавамі, у прыватнасці ў 1566 годзе рабілі спробы выкарыстаць водны шлях Сарока—Павянец—Ноўгарад для гандлёвых мэт і англічане. Выкарыстоўваў гэты шлях і Пётр I у часе вайны са шведамі. І яшчэ не раз паўставала перад дзелавымі, найбольш прадпрыемлівымі коламі грамадства Расіі праблема воднага шляха, які злучыў-бы Белае мора з Балтыцкім. Але справа далей праектаў не рухалася, бо царскі ўрад зусім не быў зацікаўлены ў развіцці Поўначы. Урадавы цэнтр (Пецярбург) ігнараваў шматлікія хадайнічанні насельніцтва Поўначы пра тое, каб пакласці водны шлях Сарока—Анежскае возера. Урадавыя колы вялі палітыку ізаляцыі Поўначы, палітыку консервацыі яе багаццеў, ператварыўшы Анежскае возера ў паўночны тупік унутранай сеткі водных шляхоў. І нават зусім ўжо напярэдадні Кастрычніцкай рэволюцыі, пры часовым урадзе, калі зноў паўстала праблема воднага шляха, які злучыў-бы два моры, на паседжанні асобай камісіі цэнтральнага прамысловага камітэта ўсе ўдзельнікі чыноўнікі, прамыслоўцы і інжынеры выказаліся супроць пабудовы такога шляха, з тэй прычыны, што на іх думку ён не зможа апраўдаць сябе эканамічна.

І краіна, поўная прыроднымі багаццямі, заставалася тыповым закінутым, глухім кутом, якімі так багата была расійская імперыя. Так было да Кастрычніка.

З Кастрычніцкай рэвалюцыяй прышлі новыя, поўныя творчай энергіі і ініцыятывы людзі. Яны прынеслі ў свет ідэю перабудовы соцыяльнага ладу. І разам прынеслі і ідэю больш разумнай і больш мэтазгоднай для чалавека перабудовы прыроды свае вялікае краіны. Тады пачалося сістэматычнае вывучэнне багаццяў і поўначы.

Гэта праца, якую вяла Акадэмія навук, дала багацейшыя матарыялы і ўжо на VI Усесаюзным з'ездзе советаў у 1931 годзе тав. Молатаў у сваім дакладзе гаварыў і пра вялікае значэнне будаўніцтва Беламорска-Балтыцкага канала, якое тады пачынала толькі што разгортвацца.

У лістападзе 1931 года пастановай ураду СССР на АДПУ было ўскладзена будаўніцтва Беламорска-Балтыцкага канала, і тады-ж пачалася рэалізацыя пастановы. У лістападзе 1931 года першыя ўзрывы дынаміта парушылі адвечную зімнюю цішыню карэльскіх вазёр. Так пачалася рэалізацыя мыслі правадыра партыі тав. Сталіна, якому належыць ініцыятыва будаўніцтва Б. Б. В. Ш., так пачалося ператварэнне ідэі ў рэчаіснасць.

А ў чэрвені 1933 года АДПУ рапартавала правадыру партыі тав. Сталіну, сакратару ЦК УсеКП(б) тав. Кагановічу і старшыні

СНК СССР тав. Молатаву пра сканчэнне працы па будаўніцтву канала. За час аднаго года і дзевяці месяцаў канал быў збудаваны.

Гэтым пачынаецца новая эпоха ў жыцці совецкае поўначы, Совецкай Карэліі і новая славутая старонка ў гісторыі развіцця водных шляхоў СССР.

Злучаючы праз Марыінскую водную сістэму Волгу, Няву, Каспійскае, Белае і Балтыцкае мора, Беламорска-Балтыцкі водны шлях кладзе пачатак ажыццяўленню адзінае воднае сістэмы СССР.

Марыінская водная сістэма, пабудаваная 140 год таму назад, злучаючы Павалоўжжа з Ленінградам, упіралася ў Анежскае возера, не мела выйсця на поўнач да Белага мора. Беламорскі канал разбурыў Анежскі тупік, і ад гэтага часу гружаныя багаццямі прамысловасці поўначы і сырцом пойдуць совецкія караблі ў цэнтр. Пячорскі вугаль, кольскае жалеза, чыгун, медзь, Хібінагорскія апатыты, нефеліны пойдуць морам да Сарок і адтуль новым водным шляхам у Ленінград і Паваложжа, а з часам, калі будзе збудаваны канал Волга-Масква, і ў Маскву. Пойдуць у цэнтр і на поўдзень караблі, гружаныя дзінасам і шамотам, патрэбным для домен і вагранак; будаўнічым каменем, гранітам і мармурам, рыбай і лесам.

Раёны, якія звязаны з ББВШ, і наогул увесь Карэла-Мурманскі край нязмерна багаты каштоўнымі для тэхніка матэрыяламі. Ёсць тут базальт, дыабаз, дыорыт, мармурападобны далаліт, аланецкі мармур, сігніт, палявы шпат, кварцы, кварцыты, агнетрывалая і іольдыевая гліны, слюда, кварцавы сланец, барыт, самацветы, беламорскі лунны камень (лабрадор). Каля возера Лоухе знойдзена ўранавая смаляная руда. У раёне Павянца каля паселішча Шуньга, антрацытападобныя сланцы, так званы, шунгіт. Пасля згарання шунгіт дае 40 процантаў высокаякаснага попелу, які служыць сырцом для ванадзія, неабходнага пры вырабе высока-гатунковай сталі і розных сплаваў.

У вазёрах, рэчках і балотах гэтых месц ляжаць мільёны тон жалезнай руды. У нетрах Карэліі таяцца вялізарныя запасы медзі, цынка, свінца.

Па ўсяму краю сустракаюцца залежы торфа. Па прыблізных падліках торфа-сырца ёсць каля 34 мільярдаў кубаметраў. Багата Карэлія і белым вугалем. Горныя рэчкі, вадаспады, плаціны, збудаваныя на канале, валодаюць магутнасцю па падліках Інстытута энергетыкі ў 1.332 тыс. кіловат-гадзін. Праз нейкі час у Павянцы, Надвойцах, Шавані, Пало-Карге і Маткожні будуць збудаваны гідра-электрастанцыі, агульнай магутнасцю ў 162 тыс. кіловат, што прыблізна ў тры разы перавышае магутнасць Волхаўскай станцыі. Пабудова гэтых станцый ператворыць у далейшым Б.Б.В.Ш. у электратранспартны камбінат. Станцыі дадуць энергію дзесяткам фабрык і заводаў, гарадам і калгасам Карэліі.

У другой пяцігодцы вызначаецца пуск у раёнах Беламорскага канала 29 буйных прадпрыемстваў лесапільнай, папяровай цэлю-

лёзнай, дрэваапрацоўчай, горназдабываючай, горнахімічнай, металургічнай, рыбнай і суднабудаўнічай прамысловасці.

Прадукцыя гэтай прамысловасці пойдзе на рынкі Совецкага саюза і на рынкі замежныя. А насустрач караблям з багаццямі Поўначы, пойдуць караблі з прадукцыяй цэнтральных і паўднёвых вобласцяй Саюза, пойдуць па вялікаму паўночнаму морскаму шляху да вусцяў уральскіх і сібірскіх рэк, да высп Совецкае Акеаніі—на Далёкі Усход і на замежныя рынкі, з аднаго боку, Паўночнай Амерыкі, Японіі і Кітая, а з другога боку, на рынкі Скандынавіі, Англіі, ды іншыя рынкі Эўропы.

Нельга не сказаць пра значэнне канала, якое ён будзе мець і ў справе вольнага манеўравання гандлёвым і прамысловым флотам, шляхам перакідкі яго ў патрэбныя моманты сезона з Балтыцкага і Каспійскага, а з ажыццяўленнем праекта Вялікага Дняпра і з Чорнага мора—у Белае мора і наадварот.

* * *

19/VIII—33. А палове семнаццатай гадзіны пасля гутаркі з інжынерам Магілка мы—на параходзе „Анохін“. Параход гатовы каб адплыць. На прыстані людзі. Грае аркестр. Арганізатары нашай паездкі размяркоўваюць нас па каютах. Спяшаючыся глядзім свае месцы ў каютах і зноўку на палубу. На палубе халаднавата. Мы выехалі, шмат хто, па-летняму, па свайму дамашняму надвор'ю, а тут восень і халодны вецер. Хутаемся ў плашчы. Арганізатары паездкі прадбачылі і гэта. Каму халодна—далі на час паездкі душагрэйкі. Тут-жа на палубе мы апранаем іх і тады ўжо смялей стаім пад ветрам.

Няспынна грае аркестр. Прыбіраюць з берага на параход перакідны мосцік і параход адыходзіць. Тады мы бачым шырокай паласой за намі след парахода, чуем усплёскі вады за бортам і ўнізе роўны гул машын. Аркестра не чуваць, гукі аркестравай музыкі, перанятыя ветрам, знікаюць дзесці далёка ад нас.

Пакідаючы далёка за сабою прыстань, параход ідзе насустрач шырокаму прастору возера, над далёкімі берагамі якога ледзь бачныя сінеюць лясы. А наперадзе, далёка яшчэ, паміж лесам прасвет. Дзесці там Павянецкі порт, дзесці там параход „Анохін“ пройдзе за першыя вароты шлюзнае камеры, каб пачаць свой ўздым на Павянчанскую лесвіцу, і мы дапытліва ўзіраемся ў захмараную далячынь.

Параход ледзь-ледзь гойдаецца. Тады хочацца на нейкі час адзіноты, каб прадумаць і сабраць у адно, у нейкую сістэму ўражанні і чутае. Купкамі і па аднаму разыходзімся па палубе, а хто-ні-хто сыходзіць у каюту, каб пасядзець там і што-кольвечы запісаць у блок-нот. Яшчэ праз нейкі час цішыню парушае сумятлівы Кулык, старшыня Аргкамітэта ССП Украіны. Маленькі, шчуплы, з невялічкай гострай барадой, ён энергічна махае рукамі,

заклікаючы „білоруськиx та украïньскиx товаришів до купи“, каб пагутарыць з інжынерам Вяземскім. Сам Вяземскі, Арэст Валер‘янавіч, зусім малады яшчэ, стаіць на палубе і разгублена шукае месца, дзе-б сесці, каб было зацішней ад ветру, каб лепш было праводзіць гутарку. Пакуль ён стаіць выглядаючы месца, мы з крэсламі абступаем яго, і, апынуўшыся сярод нас, ён садзіцца і пытае пра што казаць, бо так багата цікавейшых тэм.

Вяземскі—інжынер, які вучыўся ў совецкай ВНУ. Папаў у палон контррэволюцыі і быў асуджаны за шкодніцтва па арт. 58-7. Але ў 1932 годзе Вяземскі быў датэрмінова вызвалены. Ён аўтар праектаў арыгінальных плацін, пабудаваных на Маткожні. Ён працаваў выключна добрасумленна. Ён крайне ўважліва выконваў складанейшыя працы. Гэта адзначана ў пастанове ЦВК СССР пра ўзнагароду ордэнамі СССР працаўнікоў, інжынераў і кіраўнікоў будаўніцтва Беламорскага канала імя тав. Сталіна. Гэтай-жа пастановай тав. Вяземскі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Нашая гутарка з тав. Вяземскім—гэта пытанні і адказы. Першым было пытанне пра ўцекачоў. Ці былі факты ўцякання, дызертырства з будаўніцтва? Якая ахова была?

Яшчэ ў Маскве тав. Фірын гаварыў з намі пра гэтыя-ж пытанні. Тое-ж гаворыць цяпер і тав. Вяземскі, і мы з захапленнем слухаем.

На будаўніцтве канала працавала некалькі дзесяткаў тысяч чалавек былых зладзеяў, бандытаў, кулакоў, шкоднікаў і да т. п. Палова з іх гэта былі людзі, асуджаныя за контррэволюцыйныя ўчынкі. Будаўніцтва адбывалася ў непасрэднай блізасці мяжы з фашыстоўскай Фінляндыяй. І пры гэтых умовах была абсалютна нязначная ахова, ахова), якая на 50 проц. складалася з саміх зняволеных.

— Фактаў дызертырства было так мала, што ім,—кажа тав. Вяземскі пра кіраўнікоў будаўніцтва,—бескарысна было трымаць вялікую ахову, і ахова ўрэшце была зведзена да зусім нязначнае колькасці. Акрамя ўсяго, людзі з аховы штодзень выходзілі на працу, склаўшы свае брыгады, бо ім не было чаго рабіць па свайму непасрэднаму прызначэнню.

Мы думаем пра тое нязломна вялікае, што трымала людзей на будаўніцтве. Імя гэтаму—праца. Разумная, арганізаваная праца. Праца не на капіталіста-эксплоататара, а на саміх сябе, на ўсю краіну. І давер‘е. Давер‘е, якое праявіла ў адносінах да іх краіна, даручыўшы выкананне такой грандыёзнай задачы.

— Нас усіх аглушыла давер‘е—кажа Вяземскі.—Ды чаго таіць. Усе мы прышлі на будаўніцтва з некаторай насцярожанасцю, з некаторым недавер‘ем, і калі-б над намі стаяў чалавек з аховы, нас, інтэлегентаў, гэта прыгнечвала-б маральна, і мы, калі-б і працавалі, дык працавал-б дужа дрэнна, павольна, а крымінальнікі пры такіх ўмовах зусім-бы не пашлі на працу.

Тав. Вяземскі апавядае, як спачатку быў са старымі салаўчанамі прывезены ў лагер і стары салавецкі дух. Тых, хто заклікаў на працу, салаўчане сустракалі ў штыхі, не хацелі пра будаўніцтва і слухаць, гаварылі, што будаўніцтва можна правесці толькі на чалавечых касцях. А праз які час ад гэтага „салавецкага духа"—і духу не засталося.

Справа ў тым, што людзі, выбітыя ў мінулым з жыццёвае каляіны, людзі, над якімі вісела старое, якія шмат год не адчувалі пад сабою цвёрдае глебы, якія, у прыватнасці крымінальнікі, большую частку жыцця правялі ў турмах ніж на волі, якія ўсё жыццё пражылі „па ліпе", якія рызкавалі ў дзень выйсці на вуліцу,—гэтыя людзі на канале менавіта адчулі ў сябе пад нагамі вельмі цвёрдую глебу, а ў руках працу, сапраўдную працу.

Нам расказалі пра маладога хлапца-рэцыдывіста. Калі ён апынуўся ў лагеры, дык адразу надумаўся ўцячы і пачаў рыхтавацца ў дарогу. Гэта заўважылі. Але яму нічога не сказалі, не дакаралі яго, а ведаючы, што ён добра малюе, даручылі яму справу ілюстрацыі насцен-газэты. Ён захапіўся працаю і не ўцёк, а пасля паехаў у Ленінград на вучобу.

А вось другі выпадак. У лагеры быў мастак. Да лагера займаўся тым, што краў з музеяў рэдкія экземпляры каштоўнейшых карцін, замалёўваў іх такім-сякім пейзажам, каб не заўважылі і прадаваў карціны замежным дзяржавам. За гэта і папаў у лагер. „А ў лагеры,—піша пра мастака адзін з журналістаў,—надумаўся мастак на волю бегчы. Дастаў „ліпу", падбіў хлопцаў, выбраў тэрмін. Але калі прышоў тэрмін, мастак маляваў для клуба дэкарацыі да пастаноўкі „Яўгені Анегін". Сабраў ён падарожнікаў сваіх і просіць, каб пачакалі, пакуль другі акт дамалюе. Захапіўся, маўляў. А як дамаляваў другі акт, тады зусім зацікавіўся, захацелася паглядзець і самую пастаноўку. Сябры ўцяклі, а мастак так і застаўся, а пазней яго вызвалілі зусім".

* * *

Горад Павянец. Вось ён наперадзе, крыху ў лева ад нас.

Спяшаючыся, мы пераходзім на пэрэднюю частку палубы, і следам за намі, канчаючы тлумачэнні на пытанні неўгамоннага Гільдзіна, спяшаецца і тав. Вяземскі. Як і мы, ён усхваляваны, бо яшчэ колькі хвілін, і мы пад'едзем да першага шлюза Павянчанскае лесвіцы. А пакуль што ўглядаемся ў далёкія будынкі горада, гэтага даўняга пасялення так званых раскольнікаў. Хто з нас ведаў пра гэты горад? „Павянец—усяму свету канец", існавала такая прыказка. Узнікла гэтая прыказка з тае прычыны, што Павянецкі порт, даўні стары порт да часу пабудовы канала, быў крайнім паўночным пунктам, у які ўпіралася Марынская водная сістэма. Гэта і быў так званы Анежскі тупік.

Вызначаўся горад Павянец тым, што была тут даўняя, яшчэ з часоў цара Пятра 1, плавільня, у якой плавілі медзь, у якой, да слова, цар Пётр пераплаўляў у часы вайны са шведамі на гар-

маты званы з царковак, збудаваных стараверамі. Ды яшчэ тым быў славуты горад Павянец, што быў ён месцам высылкі палітычных зняволеных. Быў тут у свой час у высылцы Міхаіл Іванавіч Калінін. І мы думаем пра тое, якой багатай была царская Расія на такія вось месцы, месцы высыльныя.

Паступова горад застаецца ў баку ад нас, а наперадзе перад намі замкнуты берагавы круг. У напрамку, куды кіруецца параход мы бачым дзве светлыя пірамідальныя вежы, а паміж імі знаходзім чорную, квадратовую пляміну шлюзавых варот. Там пачынаецца Павянчанская лесвіца. Углядаемся, і бачым як па простай лініі перад намі, сапраўды ступенямі лесвіцы адзін над другім чарнеюць чатырохкутнікі шлюзавых варот. Адзін, другі, трэці. Яшчэ і яшчэ. Апошні высока перад намі і ледзь бачны.

Аднекуль паўстаюць над берагам з левага боку новыя, з жоўтага сасновага бярвення, будынкі. Прыгожа, уважліва збудаваныя катэджы, гэта эксплаатацыйныя будынкі і будынкі-кватэры для тых, хто працуе на канале цяпер. Ледзь прыкметна, як мітусяцца над берагам вялікім натоўпам людзі. Параход падае сігнал. І ў звычайным сігнале параходнага гудка кожны з нас чуе нешта большае, чуе і свой нявыказаны радасны голас вітання да людзей, якія збудавалі канал, якія на многа ўзбагацілі нашу краіну. Вачыма шукаем чэкіста тов. Фірына. Ён, усхваляваны і радасны, стаіць над самым краем барта і, узіраючыся ў далёкі яшчэ бераг, туды, дзе чарнее першая шлюзавая брама, хавае рукі ў няглыбокія кішэні свае жоўтае скуранкі. І мімаволі пазіраем туды і мы і бачым, як паступова адчыняюцца на дзве паловы цяжкія высокія вароты. На беразе над шлюзам аркестар грае „Інтэрнацыянал". Параход сцішае хаду і асцярожна ўваходзіць у шлюз, і тады аркестр і людзі, бачым мы, апынуліся высока над намі, а мы з параходам унізе, на самым дне вялікай глыбокай студні. Абапал высокія масіўныя, гладкія драўляныя сцены, падзеленыя прасмаленымі чорнымі брускамі бярвён на квадратовыя клеткі. Кожная клетка прыблізна метр шырынёй і больш за метр вышыні. Над узроўнем вады такіх клетак дзевяць. Мы азіраемся назад і бачым, як павольна зачыняюцца за параходам высокія цяжкія вароты, і тады ў шлюзавай камеры, дзе знаходзіцца параход, робіцца цямней. Але разам з тым, як зачыніліся вароты за параходам, мы заўважаем, як непадалёку ад пярэдніх варот пачынае бурліць і кружыцца вада, усхваляваная сілаю, што напірае аднекуль з-пад нізу. І параход ледзь-ледзь хіснуўшыся, бо занепакоілася паверхня вады ў камеры, пачынае падымацца ўгору.

Перад намі за варотамі другая камера, у якой узровень вады на 5 метраў вышэй, чым у камеры, дзе знаходзіліся мы. Каб параход мог зайсці туды, трэба ўзровень вады ў першай камеры ўзняць да ўзроўню вады ў другой. Тады адчыняцца пярэднія, што перад намі, вароты, і параход спакойна, гэтак-жа асцярожна, не кранаючыся адбойных брускоў, увойдзе ў другую камеру.

Мы бачым, як пушчанае ў нашу камеру праз трубы, выйсце з якіх унізе пад вадой непадалёку ад пярэдніх варот, вада запаўняе першую камеру, паглынаючы клеткамі, адну за другой высокія сцены. І разам, злёгку гойдаючыся то ў адзін, то ў другі бок, уздымаецца ўгору параход. Ужо аркестр грае на адным узроўні з намі і мы зусім блізка бачым твары людзей, што сабраліся каб спаткаць экскурсію пісьменнікаў Савецкага саюза. Мы крычым ім, людзям, якія былі актыўнымі будаўнікамі канала, прывітанне і прагна ўглядаемся ў іхнія твары. На іхніх тварах узбуджанасць. Яна нарастае з тым, як аркестр зноўку грае „Інтэрнацыянал“. Не, гэта зусім не тыя людзі, уяўленне пра якіх склалася у многіх з нас у час дарогі, якіх мы чакалі спаткаць. Гэта... гэта людзі, якія сёння нічым, калі-б не ведаць іхняга зусім яшчэ нядаўняга мінулага, не адрозніваюцца ад людзей свае сучаснае прафесіі на любым другім участку вялікай соцыялістычнай будоўлі. Людзі разумеюць нашыя думкі і яшчэ радасней, радасцю атрыманага права на роўны ўдзел з намі ў будаўніцтве новага жыцця, і яшчэ ветлівей усміхаюцца насустрач нам.

Параход усё яшчэ уздымаецца ўгору. А калі ён спыніўся, мы сходзім уніз і адтуль па мастку, перакінутаму на бераг, ідзем на ўтаптаны чысты светлы пясок, каб змяшацца з натоўпам і пагаварыць з жывымі будаўнікамі канала, пра якіх чулі з газет і вуснаў інжынераў і тав. Фірына.

Параход ідзе ў наступную камеру, а мы ідзем берагам, паступова ўздымаемся вышэй. Мы ідзем разам, поплеч з людзьмі, якія папалі сюды, як злачынцы і соцыяльна-шкодныя. Поплеч з намі людзі, чыё жыццё ў мінулым было скрэмзана, скалечана старым соцыяльным ладам, ладам, які параднніў жорсткую эксплаатацыю і жабрацтва. Капіталізм краў у пролетарыяў не толькі сілу мускулаў ды ільвіную долю заробленага, але і самыя прыгожыя гады жыцця. Капіталізм калечыў чалавека і маральна, штурхаючы яго на злачынствы, бо сам, агаляючы сваю рабаўнічую сутнасць, выхоўваў у чалавека інстынкт рабаўніка.

Параджаючы злачынцаў, капіталізм, пакалечыўшы іх маральна, вылоўлівае і кідае іх на катаржныя працы, каб там калечыць злачынца і фізычна, лічачы яго непапраўным. Капіталізм, караючы, помсціцца.

„Для пролетарскага суда злачынцы—стварэнне буржуазіі, і ў большасці ворагі рабочага класа з прычыны адсталасці і па неразуменню“.

Пролетарыят знішчае ворага, злачынцу толькі тады, калі ён сапраўды непапраўны, тады, калі класавы інстынкт злачынцы выражаны асабліва яскрава і бесчалавечна. „Масу-ж соцыяльна небяспечных пролетарыят паспяхова перавыхоўвае, выяўляючы і развіваючы ў людзей, былых злачынцаў, соцыяльна каштоўныя здольнасці, ствараючы з іх высокакваліфікаваных рабочых і спецыялістаў“ (М. Горкі).

На Беламорбудзе было сабрана некалькі дзесяткаў тысяч былых злачынцаў розных катэгорый. Да іх у лагеры АДПУ аднесліся як да людзей, паказалі мэту, вартую вялікай адвагі і геройства, ім сказалі, што неабхода злучыць каналам два моры, не схаваўшы ад іх цяжкасцяй, папярэдзіўшы, што давядзецца працаваць у лесе, у балотах, што давядзецца ўзрываць гранітныя скалы. Іх забяспечылі вопраткай, харчамі, вучобай і навучылі працаваць. І ў людзей, учарашніх „соцвредов“ разам з удзячнасцю радзілася нечуваная энергія, нябачная творчая ініцыатыва, гераізм.

„Праз малы час людзі, якіх не страшыла вышэйшая мера кары—смерць, сталі баяцца папасці на чорную дошку, баяцца, што ў газеце „Пераковка“ іх намалююць у выглядзе „мокрых курыц“ (М. Горкі).

Гэтыя людзі праз малы час, як пабылі ў лягеры, лічылі за ганьбу стаяць у чарзе каля вакна, з якога выдаваўся хлеб філонам (гультаям), якія адмаўляюцца ісці на працу.

Перамагла праўда, якую расказалі гэтым людзям кіраўнікі будаўніцтва, „страшныя“ чэкісты, пра якіх усе тут гавораць з пачуццём велікае любові. Толькі разумеючы гэтую вельмі простую ісціну, можна зразумець тое, што расказаў пра сябе аднаму з журналістаў Н.М. Кавалёў на будаўніцтве лабарант-бетоншчык і старшыня штаба фалангі з 540 чалавек, а ў мінулым злодзей-рэцыдывіст з дваццацігадовым стажам, чалавек, які меў пяць прозвішч. „Некалькі тысяч такіх як я „теплых ребят“,—кажа журналісту Кавалёў,—прывезлі і высадзілі ў такім месцы, адкуль і бязногі пабег-бы. І ніякай аховы, ніякіх сцен. Толькі „РУР“ (рота пасіленага рэжыма)—пад канвоем ходзіць. Бывала спачатку, прыдуць, шмат хто з працы, узлезуць на палаці і паціхеньку развражаюць: „Хочуць нас падходам падкупіць, трымайцеся, філоны.“ А другія: „Што значыць купіць? Да сівых валасоў ці што ў чужыя кішэні заглядаць будзем? Нам па сумленнаму руку прапануюць“. А пасля пачалі хлопцы ад старога жыцця глыбамі адвальвацца... Адвалілася першая глыба з 64 чалавек. Пашлі на працу, каб давесці на што здольны „рураўцы“. Першы дзень з няпрывычкі і да ста процантаў не дацягнулі. Некаторыя ў лес да агнёў уцяклі. Але другіх заела: вышлі другі дзень. Лепш пашло. На пяты дзень, глядзім, пасіленная порцыя хлеба. На шосты дзень у поўдзень пад'яжджае фурманка, на ёй скрынкі ручнікамі накрытыя. Пар ідзе. Злазіць з фурманкі чалавек у белым фартуху і крычыць, каб брыгадзір ішоў забраць для ўдарнікаў пірагі. Пірог—чорт з ім!—Мы і пірожнае елі. Важна не гэта, а ўвага... Пасля гаварылі, што „уркі“ цуды робяць. А ўся справа ў тым, што падалі нам моцную руку, каб выцягнуць нас з гразі... І тыя, хто ўзяўся за гэтую руку, назад ужо не азіраюцца.“

Праўда перамагла. Не разумеючы гэтага, нельга зразумець і таго, жто сталася з інжынерамі былымі шкоднікамі, з дзесяткамі тысяч былых зладзеяў, бандытаў, кулакоў, таго, што сталася з Гарочкіным і тысячамі такіх, як ён, таго што было на Хіжвозеры.

„Як толькі мне сказалі,—піша пра сябе ў газэце „Праўда“ ад 5/VIII-33 г. П.А. Гарочкін,—што паеду ў Карэлію будаваць нейкі канал, я зразу парашыў: уцяку. Наконт уцёкаў я быў спецыялістам. Уцякаў з працоўных калоній, допраў, домзакаў. Уцячэш, схаваеш сапраўднае прозвішча, дастанеш „ліпу“— і жывеш да новага арышта. А там зноў уцячэш і зноў новае прозвішча. Справа прывычная.

Ехаць з гэтай прычыны было весела. Вязіце, думаю, ўсёроўна ўцяку.

Прыехаў. Агледзеўся. Уцякаць адсюль не так проста. Далёка.

Парашыў я з уцяканнем трошку пачакаць. Працаваць, ведама, не думаў. Я—ды каб тачкі вазіць? Ні за што!

Зразу-ж мяне ў РУР „определили“. Ну, РУР, дык РУР, мне гэта нішто, нават яшчэ лепш: тут свая „бражка“.

Раз прыходзіць да нас у РУР выхавацель Веташкін. Пачынае ўгаварваць, каб мы калектыў арганізавалі і ўдарнікамі сябе абвясцілі. Вядома, яго зразу-ж на смех паднялі. Аблаялі так, што далей няма куды. Другі адразу-б уцёк,—а ён не ідзе, усё сваё:

— Не хочаце,—кажа,—калектыў арганізоўваць, не трэба. Тады ўступайце ў які-небудзь калектыў.

Нібы не ўсё роўна!

— Ударнікам і тое даюць, і гэта,—кажа Веташкін.—Ім і ільготы, і залік, і ўдарнае харчаванне, і пашана...

Слухаю я ды думаю: хлусіць напэўна. Завабіць хоча, каб прымусіць працаваць. А потым парашыў: а ну праверу! Пагляджу, як другія ў лагеры жывуць. Не ўсе-ж з намі ў РУР“ы сядзяць.

Падходжу да Веташкіна і кажу:

— Ладна, запішы мяне ў калектыў. Але глядзі, калі хлусіш...

Уступіў у калектыў. Абступілі мяне, распытваюць, папракаюць. Давялося даць слова, што буду разам з імі працаваць.

Пачаў я працаваць. Мне далі новенькую вопратку. Харч— лепш не трэба. Я ў адказ націскаю на выпрацоўку, а мне—паёк рэкардыста. Да двухсот процантаў рабіў!

Сам не магу сказаць, што са мной сталася ў гэтым калектыве. Нібы падмянілі мяне. Азарт такі да працы з'явіўся, да канала, што на ўсё запамятаваў. Калі ў нас сталі набіраць брыгаду на штурм прарыва (на Водападзельны канал), я папрасіўся, каб мяне туды паслалі. Назад вярнуўся са значком ударніка. Гэта канчаткова адрэзала дарожку назад: значком я вельмі ганарыўся і цяпер ганаруся і ні за што з ім не разлучуся. А значок патрабуе, каб заўжды быць ўдарнікам!

Цяпер я вольны грамадзянін. Вельмі рад, што не ўцёк тады адсюль. Таму што тут на Белморбудзе я знайшоў „свою точку в жизни“!

Значок ударніка здабываўся ўпартай гераічнай працай. Гэтая праца і адсякала назаўжды мінулае.

Пазней нам расказалі пра такі выпадак:

У сярэдзіне снежня 1932 года аварыя з перамычкай прывяла да таго, што была размыта ў самым адказным месцы дамба. Гэта стварала пагрозу не толькі цэльнасці вадаспуска, але і Вадападзельнага канала і нават Павянчанскай лесвіцы. Аварыя адбылася ўвечары, калі праца канчалася. Па закліку прараба, усе, хто быў у лагеры, кінуліся на змаганне з азвярэлай стыхіяй, якую перамагчы было не так лёгка.

Прамыіна ўяўляла сабою струмень, які кідаўся ўніз з вышыні пяці метраў і размываў на сваім шляху дамбу. Трэба было ўвайсці па пояс у ваду і, працуючы так, закласці прамыіну мяшкамі з грунтам. Аднак ні ў каго не хапала адвагі ўвайсці ў аледзянелую ваду. І першым пайшоў нехта Перапёлкін, радавы каналаармеец, у мінулым „трыццаціпятнік“ [1]), які нічым асаблівым не вызначаўся, які ўжо з канала спрабаваў уцякаць. Ягоны прыклад захапіў і другіх.

Стрымліваючы мяшкі, якім пагражала вада, людзі некалькі гадзін працавалі ў ледзяной вадзе, непатрабуючы і не чакаючы змены. Пазней падрабязна пра гэты факт мы даведаліся з надзвычай цікавага артыкула інжынера Кабылінай, які быў змешчаны ў газеце „Пероковка“, у нумары, прысвячаным пуску канала

* * *

Адну за другой праходзіць параход шлюзавыя камеры, уздымаючыся вышэй, а мы разам з людзьмі, якія прышлі сустрэць нас ідзем берагам у скрай канала. Побач з намі ідзе Куцянкоў, Рыгор Сяргеевіч, мужчына гадоў пад сорак. Ён з Кубані. Узялі мяне,— кажа ён,—у 1931 годзе за актыўную агітацыю супроць калгасаў. Як пачалі ў нас арганізоўваць калгасы, дык мы пяцёрку стварылі і павялі працу насупроць. А сам я быў серадняком, але-ж папаўся на чужую вудачку, дагадзіў кулаку-чорту, а цяпер вось тут.

Ён ахвотна апавядае пра канал, пра сваю працу на канале, пра харчаванне, пра вопратку і паказвае на свае боты і падзёўку. „Калі ў брыгадзе,—кажа ён,—былі абарваныя ці ў парваных ботах, дык начальнік работ, працаўнік ДПУ прыцягваў да адказнасці брыгадзіра за тое, што не клапоціцца пра сваю брыгаду.“

Пытаю, ці служыў ён у нашай арміі, і Куцянкоў механічна адказвае:

— У вашай не служыў, служыў у Врангеля, радавым.

Перад развітаннем хоча яшчэ сказаць пра сябе.

— Жыву цяпер лепш, чым у мінулым.—І тлумачыць:—Раней я тапара не ўмеў у руках трымаць, а цяпер высокакваліфікаваны плотнік, брыгадзір. Вясной 1934 года буду зусім вольным, атрымаў палавінную скідку, паеду тады на Кубань і калі прымуць у калгас, многаму сваіх землякоў навучу, пра канал раскажу, буду працаваць па кваліфікацыі.

---

[1]) Асуджаны па 35-м артыкуле Крымінальнага Кодэкса

Ён згінаецца над цыгаркай, і з нейкай саромлівасцю, каб не вельмі гэта кінулася нам у вочы, кажа:

— Галоўнае, што тут зусім нейкім другім робішся. Якім я быў? Хто яго ведае, куды зайшоў-бы па той дарожцы, мо' і зусім прапаў-бы, а тут з мяне чалавекам зрабілі, і вось мне не сорамна ўжо з людзмі пагаварыць, паказаць ім, якім я стаў. А ўсё канал нарабіў. На тым бывайце, мне на працу... І, закурваючы, ён застаецца, а мы ідзем далей

Пакуль мы ідзем берагам, параход даходзіць да восьмае камеры—другая камера шлюза № 3 і там спыняецца, падняўшыся да належнага ўзроўня, а мы збіраемся на палубе, каб праслухаць выступленне мясцовай агіт-брыгады.

Брыгада на беразе. Шэсць мужчын у белых гарнітурах і тры жанчыны. Побач аркестр: тры скрыпкі і віаланчэль. Пад акампанімент аркестра мы слухаем спевы, дэкламацыю і ўрэшце кароценькую інсцэніроўку „Галасы ўдарнікаў Беламорбуда".

З вялікім захапленнем і ўвагаю глядзім інсцэніроку не толькі мы, але і ўсе тыя, што сабраліся на беразе. Для нас гэтая інсцэніроўка—жывая ілюстрацыя таго, што адбывалася на канале, а для тых, што з трох бакоў шчыльна абступілі агітбрыгаду, для тых гэта нешта большае, бо вобразы з інсцэніроўкі—гэта жывыя людзі, якія дзейнічалі сярод іх, гэта ўрэшце яны самі.

А палове на дваццаць першую параход ідзе далей. Нейкі час яшчэ людзі, што былі сабраліся на беразе, ідуць побач з намі, а потым застаюцца на месцы, махаюць рукамі і шапкамі, крычаць: „Да пабачэння".

Так, да пабачэння там у новым жыцці, куды вернуцца яны новымі, перакаванымі, нашымі.

Дзевятая брама зачыняецца ўслед за параходам, і мы плывем б'ефам, так завецца паміжшлюзавы прастор.

Яшчэ зусім недалёка за намі гладкая роўнядзь Анежскага возера. Але яна на многа ніжэй нас. На цэлых трыццаць метраў ніжэй цяпер узровень вады Анежскага возера, чым узровень вады, б'ефа, якім ідзем мы.

Яшчэ пры глядзеўшыся можна змеціць цёмную рысу лясоў, што над берагамі Анежскага возера, але з кожнай хвілінай гэтая рыса робіцца ўсё менш прыкметнай і хутка губіцца ў затуманенай далечыні, а над возерам навісае лахмоцце цёмна-шэрых восенскіх хмар. Тады мы заўважаем, як паступова гусцеюць вакол нас змрокі і ўсталёўваецца непарушная цішыня. Пакуль зусім сцямнее праходзім яшчэ чацверты шлюз, а ў пятым спыняемся нанач

* * *

Ноч. Цішыня. Ані воднага гука. А ў часе будаўніцтва ўсё наўкола грымела ўзрывамі дынаміта і аманала. У лістападзе 1931 года прагрымелі першыя ўзрывы, а да канца будаўніцтва,

да ліпеня 1933 года было зроблена 4 міліёны 300 тыс. узрываў, з дапамогай якіх было вырыта 2 міліёны 514 тысяч кубаметраў скалы.

Цяжка ўявіць грандыёзнасць працы, зробленай арміяй канаўармейцаў на Беломорбудзе. Старонкі нашых запісных кніжок пярэстыя ад лічб, паказчыкаў таго, колькі было вырыта скалы, грунта, колькі было зроблена насыпаў, колькі ўкладзена бетона. Лічбы вялікія, але значэнне гэтых лічб робіцца больш адчувальным, зразумелым, калі я параўноўваю іх з другімі.

На Беламорбудзе ўкладзена 390 тыс. кубаметуаў бетона. Гэта ў адзінаццаць разоў больш таго, што спатрэбілася на пабудову Волхаўбуда.

За дзесяць месяцаў працы на Беломорбудзе ўкладзена бетона столькі, скольки за той-жа час на Днепрабудзе. Трэба ўлічыць што працы на Днепрабудзе праводзілася ў адным месцы, згрупавана, пры наяўнасці механізацыі, а на Беламорбудзе гэтыя-ж працы праводзіліся на вялікай працягласці, ва ўмовах далёка недастатковай механізацыі.

Рэкордная дзённая выпрацоўка па бетону на Днепрабудзе не перавышала 2. 300 кубаметраў,—а на Беламорбудзе былі дні, калі выпрацоўка дасягала 4. 300 кубаметраў.

На Днепрабудзе найбольшая выпрацоўка па скале была 34 тыс. кубаметраў у месяц. На Беламорбудзе выпрацоўка па скале дасягала 320 тыс. кубаметраў у месяц, пры гэтым нельга не памятаць таго, што свідраванне на Беламорбудзе на 85 проц. вялося рукамі.

На Днепрабудзе кожны свідроўшчык выпрацоўваў у сярэднім 90-130 сантыметраў у суткі, а на Беламорбудзе—150-300 сантыметраў.

Няхай чытач не наракае за вялікую колькасць лічбаў, бо гэтыя лічбы не толькі просты паказчык памераў зробленага, яны яшчэ і надзвычай яскравае сведчанне сапраўды гіганцкіх тэмпаў. Карціна будзе далёка не поўная, калі не падаць яшчэ некаторых лічбаў, найбольш важных і цікавых.

За час будаўніцтва канала выкапана звыш 7 міліёнаў кубаметраў грунта. Для таго, каб узвесці насыпы і загрузіць ражы спатрэбілася засыпаць 8 млн. 412 тыс. кубаметраў пяску, гліны, камення і гравія.

Побач з каналам на працягу 100 кілометраў ляжала палатно Мурманскай чыгункі. Гэтыя 100 кілометраў павінны былі быць затоплены, і іх аднеслі ў бок. Калі ўлічыць і земляныя працы па пераносу чыгункі, дык памер зямляных прац на канале складзе 21 млн. кубаметраў мяккіх грунтаў. Калі-б усю гэтую колькасць узважыць, мы атрымалі-б 50 млн. тон. Каб перавезці гэтыя грунты, патрабавалася-б 3 млн. таварных вагонаў, ці 75 тысяч саставаў цягнікоў, лічачы 40 вагонаў ў кожным. Гэта для аматараў параўнанняў.

Даручаючы АДПУ пабудову Беламорска-Балтыцкага воднага шляха, совецкі ўрад паставіў перад будаўнікамі задачу: будаваць, з разліку на мінімальныя тэрміны, будаваць моцна і танна, эканомячы дэфіцытныя матэрыялы.

Інжынеры апавядалі нам пра тое, з якой нерашучасці, часам з нявер'ем ішлі яны да пачатку працы на канале. Параджалася нявер'е тым, што ведалі памеры прац, тэрміны і прыродныя умовы Карэліі і ведалі, што нельга спадзявацца на атрыманне соцен экскаватараў, дзесяткаў паравозаў, кампрэссараў. Падмацоўвалася гэтае нявер'е матэматычнымі вылічэннямі, якія яны рабілі.

А было гэта таму, што не ўлічвалі інжынеры коэфіцыентаў папраўак, якія ўносіла ў іхнія вылічэнні большэвіцкая воля, творчая ініцыятыва і энтузіязм будаўнікоў, соцыялістычныя метады арганізацыі працы, ўменне арганізаваць сапраўдны вытворчы парадак і непамерна вялікая адданасць справе і такая-ж непамерна вялікая любоў да таго, што рабілі. Гэтую вялікую жыватворчую адданнасць і любоў да справы соцыялістычнага будаўніцтва, арганізатары і кіраўнікі будаўніцтва, чэкісты пранеслі праз усё будаўніцтва, прапітаўшы ёю кожную пядзю зямлі, кожны найменшы вучастак працы, кожнага чалавека. Таму і перамаглі, пасляхова выканаўшы даручэнне ўраду. Таму і такі вялікі размах творчае ініцыятывы.

На будаўніцтве канала былі створаны новыя тыпы пабудоў і канструкцый, якія да гэтага часа не сустракаліся ў сусветнай практыцы гідратэхнічных прац. У прыватнасці замест мэталічных брам упяршыню ля высоканапорных шлюзаў зроблены брамы драўляныя.

Большасць плацін зроблена з камення. Вадазліў Шаваньскай плаціны, новай арыгінальнай канструкцыі, зроблены з драўляных ражэй. Упяршыню экраны ў дамбах зроблены з торфа і пяску. Гэта дае найменшую прасочваемасць вады.

І што надзвычай важна, ўсё зроблена з совецкіх матарыялаў, і больш таго, пераважная большасць пабудоў зроблена з мясцовых карэльскіх матарыялаў. І ўсё сваімі сіламі. Ані воднага цвіка, шрубкі, машыны з кляймом замежнае фірмы. Гіганцкая пабудова вялося без замежнае дапамогі, без усякага імпартнага абсталявання.

На будаўніцтве не хапала кваліфікаваных рабочых і спэцыялістаў. Патрэбны былі гідратэхнікі, лабаранты, свідроўшчыкі, бетоншчыкі і людзі дзесяткаў другіх прафесій. Будаўніцтва разгарнула вялікую сетку тэхнічных курсаў, брыгаднае вучнёўства, і ў выніку было падрыхтавана 20 тыс. чалавек кваліфікаваных рабочых і спецыялістаў больш нізкіх кваліфікацый. Але канал быў школай не толькі для радавога рабочага. Ён быў школай і для інжынераў.

На канале сярод іншых працавалі інжынеры Маслаў, Зубрык і Вяземскі, чыя праца ўзбагаціла совецкую гідратэхніку новымі

пабудовамі і канструкцыямі. Зубрык і Вяземскі едуць з намі на параходзе, мы іх бачылі, мы з імі гутарылі. Але калі гавораць пра канал кіраўнікі будаўніцтва, яны заўжды побач з прозвішчамі Зубрыка і Вяземскага ўспамінаюць і прозвішча Маслава. У мінулым усе трое яны былі з'яднаны шкодніцкай дзейнасцю.

На нейкі час іх спакусіла ў мінулым ганебная роля прыслужнікаў буржуазіі. Ганебнасць свае ролі яны зразумелі, прашоўшы перад сапраўды народным совецкім судом і апынуўшыся на будаўніцтве, паставілі сабе за мэту сумленнай працай змыць з сябе гразь мінуўшчыны. І вось на сёння мы ведаем, што гэтыя трое інжынераў сталі аднымі з найбольш выдатных у асяродзі тых, хто праектаваў і будаваў канал. На сёння мы ведаем, што інжынер Маслаў—гэта і ёсць аўтар драўляных шлюзавых брам.

Інжынер Зубрык зрабіў у будаўніцтве канала ня менш каштоўнае тым, што распрацаваў праект плаціны № 28 вялікага падпора, пабудаванай з пастаўленых з нахілам драўляных ражэй. Зусім зразумелая каштоўнасць такой канструкцыі плаціны, якая дала магчымасць замены дрэвам матэрыялаў, якія прышлося-б прывозіць здалёк.

Інжынер Вяземскі сваёй працай садзейнічаў вялікай эканоміі часу. Па ягонаму праекту вада ракі Выг была перагароджана, спынена плацінай выключна смелай і сваясаблівай. Бетонная аснова, потым каменная земляная накідка і драўляны экран. Хутка, танна і моцна. Калі Выг была перагароджана, шмат якія працы павялі па сухому, што дало магчымасць выканаць заданне задоўга да тэрміна.

На канале гэтых трох інжынераў яднана жаданне працай змыць з сябе ганебнае мінулае. І яно змыта. Сёння іх яднае адданасць совецкай краіне, адданасць справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Усе трое яны ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга.

* * *

Раніцою 20 жніўня мы прайшлі шосты шлюз, адзін з самых цяжкіх вучасткаў на будаўніцтве. Шосты шлюз прарыты ў дыабазавых скалах. Гэта тут, на будаўніцтве шостага шлюза, энтузіязм будаўнікоў і большавіцкая воля чакістаў дасяглі таго, што ў 12 разоў былі перакрыты рэкордныя тэрміны капіталістычнага света па выйманню скалы. У цяжкіх умовах, бязупынна лепшыя ўдарнікі-рэкардісты свідравалі цвёрды дыабаз, адрывалі ад скалы глыбу за глыбай, каб пракласці шлях для совецкіх параходаў. Гэта тут грымелі ўзрывы аманала, а цяпер спакой і толькі блакітавыя дыабазавыя сцены, што выглядаюць гострымі краямі скалы ў пратсорах клетак паміж скрыжаваннямі драўляных адбіўных брускоў, толькі яны сведчаць пра тое, з якімі цяжкасцямі быў збудаваны гэты шлюз.

Параход сваімі бартамі праходзіў зусім блізка ад ашчэраных вострымі рубцамі суровых скал. Але скала больш не тоіць у сабе небяспекі, яе перамаглі, яе заплялі лёгкай, простай і прыгожай канструкцыяй драўляных клетак.

У шлюзавай камеры непарушная цішыня, пакуль мы стаім на месцы. Дзесці праз шчыліну ў скале прасочваецца навялічкім цурком вада. Са значнае вышыні ападае вада на дно камеры, і мы слухаем яе звон.

Яшчэ адзін шлюз і Павенчанская лесвіца будзе пройдзена. Тады мы будзем на адлегласці 12 кілометраў ад Анежскага возера і на 70 метраў вышэй, чым узровень вады ў ім. Тады мы ў апошні раз, азірнуўшыся на пройдзены шлях, змецім светлы, белаваты прастор Анежскага возера. Хутка яно знікне, а мы пойдзем далей рэчышчам Павенчанкі, Пелекінкі, Выга Верхняга і Ніжняга, блакітавымі прасторамі шматлікіх карэльскіх вазёр. Ад Павянца да Белага мора, да Сарок параход пройдзе 227 км., 75 кілометраў ён будзе ісці па вазёрах; 92 кілометры па рэчках і 40 кілометраў штучнымі шляхамі. На сваім шляху ад Павянца да Сарок, наш параход пройдзе 19 шлюзаў. Сем з іх уздымуць параход угару на 70 метраў. 12 апошніх дапамогуць яму знізіцца да ўзроўню вады ў Белым моры.

На сваім шляху мы ўбачым 15 плацін, 40 дамб, 12 вадаспускаў і шэрагіншых гідратэхнічных пабудоў, якія ўзраслі разам з каналам.

І чым дальш едзем мы, чым больш бачым новага, тым больш у кожнага з нас пытанняў, на якія мы знаходзім адказы і ў гутарках з інжынерамі і чэкістамі і ў дакладзе прафесара арктыкі Н. Пятрова.

* * *

Параход ідзе па Выгвозеру.

У 13-м томе „Большой Советской Энциклопедии", выдадзеным у 1929 годзе, на стр. 696 пра Выгвозера напісана наступнае:

„Выгвозера, возера ў Сегежскім раёне Карэльскай АССР. Даўжыня каля 70 кілометраў, шырыня ад 5,5 да 30 кілометраў, плошча—347 кв. кілометраў, глыбіня да 16 метраў.

Багата высп, асабліва ў паўночнай частцы. Возера багатае рыбай. Судаходства няма. Выгвозера прымае некалькі значных, але не судаходных рэк: Выг Верхні, Сегежа ды інш. З возера выцякае Выг Ніжні".

І тут-жа на старонцы 695 пра раку Выг напісана, што яна ўпадае ў Сарокскую бухту Анежскага заліва Белага мора. Возерам Выгвозера, цераз якое яна працякае, падзеляецца на дзве часткі: Верхні, ці паўднёвы Выг і Ніжні ці паўночны Выг. Верхні Выг мае ў даўжыню 130 кіламетраў, але валодае меншым падзеннем і таму менш парожысты. Ніжні карацей—110 клм., але з большым падзеннем; ён перасякаецца Воіцкім падуном і яшчэ трымя парогамі якія ўяўляюць магутную крыніцу энергіі, што ацэньваецца ў 250 тыс. конскіх сіл. Сплаў магчымы толькі ў россып".

Гэта напісана ў Энцыклапедыі.

А на сёння вялізарныя водныя прасторы Карэліі, забалочаныя, не культываваныя і мала заселеныя мясцовасці творчай воляю большэвікоў арганізаваны ў адну сістэму 227 кіламетравага воднага шляху. На сёння рэкі і вазёры Карэліі, што склалі гэтую сістэму канала, сталі судаходнымі. Патрэбныя для судаходства глыбіні ў большасці выпадкаў дасягаліся ўздымам натуральных узроўняў вады ў вазёрах, а на асобных вучастках рэк—з дапамогаю глухіх і водазліўных плацін. Гэтак з дапамогаю глухой земляной плаціны, якая закрыла выйсце рацэ Выг, узровень вады Выгвозера павышаны на 6,5 метраў, дзякуючы чаму амаль у два разы павялічылася плошча паверхні возера і яно і ягоны вадазбор на сёння складае кала 30 проц. усяе працягласці канала.

Для таго, каб узняць узровень вады і Выгвозера і другіх вазёр, давялося затапіць значныя прасторы, на якіх рос лес, на якіх мясціліся рэдкія вёскі. Лес быў высечаны і вывезены ў сухія бяспечныя месцы, а вёскі былі перанесены гэтак сама ў іншыя месцы. Пераносячы вёскі, кіраўніцтва Беламорбуда дабудоўвала сялянам цэлы рад новых хат і гаспадарчых будынкаў і абавязкова будавала лазні. Замест зямель,якія затапляліся, давалася новая зямля. Вось яскрава прыклад з вёскай Сенгуба, якую перанеслі са старога месца. Сенгубскай зямлі затоплеча 60 га, але кіраўніцтва Беламорбуда асушыла для селян 260 га балота, павялічыўшы такім чынам на многа больш колькасць зямлі, якая мелася ў іх да гэтага.

Параход ідзе па Выгвозеру. Далёка, дзе краем сваім упіраецца возера у небасхіл, вызначаецца злёгку затуманеная рыса лясоў. Лясы былі і бліжэй, але цяпер іх няма, а месца, дзе раслі яны, затоплена. Затоплены выспы, якія лічыліся за Выгвозерам. Узніклі выспы новыя. Вада затапіла месцы, якія загадаў затапіць чалавек, затапленне якіх было мэтазгодным для людзей. І не толькі гэтыя папраўкі зроблены будаўнікамі канала да геаграфіі. Не толькі паглыблены вазёры і рэкі, але яшчэ і зменены кірункі рэк, але і спынены рэкі, калі іхнае цячэнне парашкаджала ажыццяўленню мэты, пастаўленай будаўнікамі канала. Так перастала існаваць рака Выг, якая да пабудовы кавала несла бурныя свае воды ў Белае мора.

Перакідаючы цераз каменныя глыбы сівыя кудры сваёй сцюдзенай вады, шліфуючы паверхню глыб, цэлыя тысячагоддзі каціла Выг свае хвалі да нёабдымных прастораў далёкага мора на поўначы. Імклівa, нястрымна неслася вада ракі то роўнай лагчынай; то паміж няпрыступных скал. Стомленая змаганнем з гранітнымі скаламі, рака нейкі час спакойна поўнымі берагамі, несла вадзяныя багацці свае, аж пакуль не сустракала на дарозе сваёй перашкод. Тады, сабраўшы вялікія сілы свае, рака паскарала хаду і з разгону, са страшнаю быстрынёй, кідалася на няроўныя, гострыя выступы скал. На скале, на момант адзін толькі, як зірнуць воку, застывала ў нярухомай празрыстасці, залюбаваўшыся кіпучым дном, што ўнізе пад скаламі, а тады

ўсёю грамадаю, з гулам, з грымотамі кідалася туды, на каменнае дно вадаспада, і ўспененая, рассыпаючыся дробнымі вадзянымі пылінамі, імчалася далей.

Непадалёк ад вадаспада, ад Воіцкага падуна, з правага боку ракі, месціцца старая рыбацкая вёска. Пакаленне за пакаленнем прыходзіла, выростала і адыходзіла ў нябыт, а бурная рэчка не зменяла свайго неспакойнага нораву, усё гэтак-жа разгонна імчала на поўнач свае вадзяныя багацці, і ўсё гэтак жа бурліў і грумеў неспакойны Воіцкі падун.

Не думалі рыбакі, што зменіцца некалі нораў рэчкі, што бескарысная яе прыгажосць і гэтая-ж бескарысная прыгажосць блакітавых карэльскіх вазёр будзе ператворана ў вялізарныя вадасховы, што будуць паіць вялікі шлях ад Сарок да Павянца.

Але гэтак сталася.

У адзін з днёў у далёкі Карэльскі край прышлі людзі каналаармейцы, так завуць іх цяпер, а ў мінулым зладзеі, бандыты, кулакі, прышлі інжынеры-гідратэнікі, у мінулым шкоднікі, прышлі, каб збудаваць па даручэнню ўраду, патрэбны совецкай краіне канал і гэтым заваяваць сабе права прысці ў сям'ю працоўных. На чале гэнай арміі стаялі высокіх якасцяй большэвікі-чэкісты, педагогі і арганізарары-будаўнікі, натхнёныя сілаю нашае партыі.

Патрэбен быў канал, а каналу патрэбны глыбокія вадасховы і спакойная вурчанне пакорных рэчак. Для канала трэба, каб была спынена імклівая тысячагодняя хада ракі Выг. Трэба было спыніць раку, зрабіць яе паслухмянай і прымусіць яе навадніць пракапаныя каналы і пасабіць Выгвозеру запоўніць свае далёкія новыя берагі, накрэсленыя будаўнікамі. А тады ўжо толькі лішку вод можна будзе дазволіць пакорна пераліваецца праз адтуліны плацін

І гэта было зроблена.

Надвойцы былі ператвораны ў адказнейшы вузел нябачнага па размаху будаўніцтва. А праз 90 дзён, 14 ліпеня 1932 года ўдарнікі паўночнага чырвонасцяжнага баявога вучастка перакрылі рэчышча ракі Выг. Упяршыню за тысячагоддзі ганарлівая, нястрымная ў сваёй хадзе рэчка спынілася, уперлася ў тупік. Да геаграфіі Карэльскай АССР 14 ліпеня 1932 года будаўнікамі канала была зроблена вельмі істотная папраўка: рака Выг перастала ўпадаць у Белае мора.

* * *

Лекцыю праф. Н. Пятрова мы перапыняем, каб выйсці на палубу. Насустрач нам ідзе параход „Карл Маркс", на якім варочаецца са сваёй паездкі па каналу экскурсія рабочых-ударнікаў з ленінградскіх заводаў.

Яшчэ здалёк мы крычым друг другу прывітанні, радасна махаем рукамі і шапкамі. Радасць не толькі ў самім факце

такога спаткання, а менавіта ў тым, што спатканне адбываецца на канале, на адным з соцыялістычных гігантаў, якімі вызначаецца рост Совецкага саюзу.

Аб адзінаццатай гадзіне параходы спаткаліся, сцішылі хаду і прышвартаваліся друг да дружкі. Тады неяк сам сабою, без згавору, без папярэдняе падрыхтоўкі пачаўся мітынг. Пачала мітынг таварышка Зіміна, прадстаўнік ленінградцаў. У адказ ёй гаворыць тав. Фірын. Пасля па чарзе гавораць яшчэ рабочыя і работніцы: Кунгур, Ціхаміраў, Голубеў, Шапашнікава і пісьменнікі: Безыменскі, Казакоў, Нікулін, Усевалад Іваноў, Валенцін Катаеў, Леанід Леонаў, Янка Купала, Зошчанка, Любчанка, Фэфэр, паэта Узбекістана і Карэліі, і інжынеры Зубрык і Ананнеў.

„Грандыёзная пабудова—канал—гэта вобраз таго, што робіць пролетарыят СССР“—кажа Усевалад Іваноў.

„Тое, што мы пабачылі,—кажа Леонаў,—бязмерна хвалюе і радуе.“

„У факце пабудовы канала,—кажа Янка Купала,—мудрасць ленінскай нацпалітыкі комуністычнае партыі“.

І ўрэшце з вуснаў Шапашніквай настойлівае патрабаванне ўсяе дэлегацыі і ўсяе краіны:

— Напішыце пра людзей, будаўнікоў канала. Напішыце пра арганізатараў будаўніцтва чэкістаў, пра АДПУ, гэтага выдатнейшага класавага педагога нашай краіны. Напішыце, як былыя зладзеі і шкоднікі перарабіліся, сталі нашымі. Для ўсяго Саюза, на ўсіх мовах нашай вялікай краіны напішыце пра ўсё гэта.

І гэтак-жа без згавору, як пачалі мітынг, мы разам спяваем Інтэрнацыянал. Словы гімна плывуць над шырокім вазёрным прасторам, а параходы, адшвартаваўшыся, няпрыкметна разыходзяцца.

* * *

Сорак хвілін на чатырнаццатую гадзіну. Мы ў Надвойцы. Параход у восьмым шлюзе, у першым шлюзе, з якога ён пачынае ісці ўніз да Белага мора.

Пакуль не зніжаны ў камеры ўзровень вады, мы спяшаемся па мастку на чысты выкладзены каменем бераг. Непадалёк нас чакаюць аўтабусы. Спяшаючыся садзімся і едзем у Надвойцы на злёт ударнікаў Выгвозерскага сплаву.

Аўтабусы спыняюцца за аркай перад невялікім драўляным будынкам клуба. На дварэ на сталах кнігі і газэты, свежы нумэр „Перековки“, прысвячаны злёту. Бярэм газету і паціху, адзін за другім, каб не перашкаджаць прамоўцам, уваходзім у залю і размяшчаемся на вольных месцах лавак.

Бурнай авацыяй і раднаснымі крыкамі ура сустракаюць дэлегаты злёту тав. Фірына і Успенскага і вестку пра тое, што на злёт прышлі пісьменнікі. А потым зноў як і да гэтага ідзе абмеркаванне пытанняў сплаву, мэтадаў барацьбы за чырвоны

сцяг. Выступаюць прамоўцы, лепшыя ўдарнікі-сплаўшчыкі, былыя соцыяльна шкодныя людзі. Гаворачы пра сплаў, яны гавораць і пра сябе асабіста.

Гэта не толькі хвалюе. Гэта нешта большае

— У мяне ў мінулым тры забойствы, сем судзімасцяй...—так пачынае сваю прамову Якаўлеў, былы бандыт, які адным з першых перагледзеў сваё мінулае, які на канале вёў выхаваўчую працу сярод такіх, якім быў у мінулым і сам, які ўпартай настойвай працай аднаго за другім вырываў „трыццаціпятнікаў" з учэпістых лап праклятай іхнай мінуўшчыны.

— Кім я быў у мінулым?—пытае Якаўлеў і адразу-ж пры напружанай цішыні, пры вялікай увазе адказвае:—Я быў трыццаціпятнікам, я ў мінулым „соцвред", „сплошная отрицаловка". На канале ў першыя дні я паводзіў сябе ганебна. Я хуліганіў, я перашкаджаў працаваць, я краў пайкі ў тых, хто сумленна працаваў, бо мне гэта было не панутру, бо была злосць на тых, хто „здаўся", мне не хацелася „здавацца". За хуліганства, за кражы мяне каралі, мне давалі „даваскі" (надбаўкі тэрміну зняволення), пасылалі ў РУР, нашыя тутэйшыя Салаўкі. Потым прышло іншае. Хопіць Рура, сказаў я сабе, хопіць даваскаў, калі можна працаваць і жыць сумленна. І я пашоў на працу, працаю заваяваў давер'е, а пасля пашоў ратаваць такіх, якім быў сам, якіх я добра ведаў і разумеў. І вось сёння я выхавацель з фалангі імя Калініна.

Пасля гаворыць другі выхавацель Васкабойнікаў:

— Сам не працаваў у першыя часы,—кажа ён,—і другім працаваць не даваў. Бандытам быў, а цяпер выхоўваю. Ведаеце, як я выратоўваю іх?—Невысокага росту, каржакаваты, моцны ён ўсміхаецца,—Сваім мазалём я 132-ох чалавек да жыцця вярнуў. Ляжыць хлапец у бараку, рэжа ў карты, пра работу і слухаць не хоча, лаецца. Дык я іду да яго і кажу: ты, браток, кажу, відаць нездаровы, дык ты паляжы сёння, адпачні, ачуняй, а за цябе я папрацую. І іду і раблю. А ўвечары кажу яму, што рабіў за яго і даў двесці процантаў нормы. Ну, а на другі дзень ці праз пару дзён, перашалеўшы, хлапец ідзе на працу і сам дае ня менш тае нормы, якую вырабіў за яго я.— І Васкабойнікаў зноў радасна ўсміхаецца.—А цяпер наша справа дачасна сплаў кончыць. Я ад імя свае фалангі выклікаю на спаборніцтва 58-ы артыкул (асуджаных за контррэвалюцыйныя ўчынкі і кулакоў). Я ведаю, яны, кулакі, не любілі нас, бо мы іх рабавалі ў мінулым, пайкі адбіралі ў іх ўжо і тут. Але мы ім працягваем сяброўскую руку на спаборніцтва. Давайце біцца, каб да 15-га верасня скончыць сплаў. Сёння мы наперадзе, мы штодзень даём 130 процантаў выпрацоўкі і мы вам падаем руку, а калі пераможаце вы, тады вы падасце нам сяброўскую руку, і мы пойдзем за вамі.

— Для нас не існуе норм,—кажа з трыбуны Моўсес'янс, армянін.—Для нас існуе ўсведамленне мэты за якую мы змагаемся.

І кожны з іх з пачуццём вялікай любові гаворыць пра „наш любімы Беламорскі канал“, пра чэкістаў Фірына і Успенскага, пра часы, калі на будаўніцтва прыяжджаў тав. Ягода, які натхняў на змаганне.

Гавораць прамоўцы, а заля ўважліва, напружана слухае. Так. Гэта не толькі хвалюе, гэта параджае цэлы мір пачуццяў і вобразаў. Ад хвалявання дрыжыць рука. Я спяшаюся занатаваць у запісной кніжцы пачутае і бачнае. Дрыжыць у руцэ аловак, і літары выходзяць з-пад алоўка няроўныя, раскіданыя. Яшчэ слухаем выступленні пісьменнікаў, а пасля прызыдыум абвяшчае перапынак, каб даць магчымасць сплаўшчыкам пагутарыць з пісьменнікамі.

На дварэ сонца, цяплынь, зніклі дзесці хмары, і вецер знік зусім, нібы і не было яго.

Знаёмлюся з адным з дэлегатаў злёта, які працаваў прарабам на пабудове дзесятага шлюза, прарытага ў скале. Жыва, проста ён апавядае пра тое, як штурмавалі скалу.

— Скала палохала,—кажа ён,—асабліва як пачалі ўручную, Але хутка мы збудавалі невялічкую для сябе электрастанцыю, паставілі два кампрэсары, трыццаць пнеўматычных малаткоў, з якіх 22-25 працавалі штодзень. І тады пачалі даваць 500 кубаметраў скалы ў суткі, а калі трэба было канчаць, давялі выпрацоўку да 1000 кубаметраў у суткі. Хацелася давесці, што мы такія-ж ударнікі, як і тыя, што працуюць на волі. Другім разам,—кажа ён,—іншага трыццаціпятніка нічым не возмеш, а як заліло было нясконачаную яшчэ камеру паводкай, дык працавалі ўдзень і ўначы, усе працавалі і давалі нябачныя лічбы выпрацоўкі. У вадзе працавалі доўгі час, пакуль выгналі яе. А ўсю гэту працу ў камеры тады скончылі за 10 дзён. Чырвоны сцяг нам,—кажа ён,—нездарма далі.

Апавядае яшчэ пра тав. Успенскага, які кіраваў тут працаю, гаворыць пра ягоную бязмерную чуласць. Успенскі, як працавалі ў камеры, арганізаваў на месцы працы буфет, сачыў за харчамі і вопраткай рабочых, ніколі не аднёсся да нас па казённаму, а як сапраўдны таварыш, ці сапраўдны начальнік, дзе гэта трэ' было.

Яшчэ нейкі час гутарым, пасля слухаем выступленне сплаўной агіт-брыгады, прашчаемся ідзем да аўтабуса. Праз колькі хвілін мы зноў каля канала. Па мастку, што на шлюзавай браме, пераходзім на другі бок і тады спяшаючыся ідзем да вузкага драўлянага мастка, каб, стоячы на ім, палюбавацца на невялічкія вадаспады. Гэта рэшткі вады ракі Выг. У права ад нас чуцён гул. Там месца былога Воіцкага падуна. Ідзем туды. Па гладкіх і гострых выступах скал падбіраемся да вадаспада. Бурліць вадаспад, злуе, успенены злосцю імчыцца па каменных глыбах, але няма у яго былой сілы, былога разгона. Менш чым з метровае вышыні падаюць цяпер укарочаныя ягоныя сівыя, пазелянелыя кудры і далёка не так раскошна ў шырыню сцелюцца

яны цяпер па паверхні адшліфаваных валуноў. Людзі скарылі яго, атабралі лішак сіл., падкарацілі сівыя ягоныя кудры, і тады ўзняліся на паверхню шэрыя голыя каменныя глыбы. На аднэй з такіх глыб, самай большай і самай высокай, за якой круты глыбокі абрыў, высечаны друкаванымі літарамі такі надпіс:

„1/VI-1933 АКССР, с. Надвойцы, водопад Воиц“.

Стаім, ходзім па гладкай паверхні глыбы, якая некалі была дном магутнага прыгажуна Воіцкага падуна, аглядаем былое рэчышча ракі Выг і зноўку спяшаемся, праходзячы вуліцаю старой рыбацкай вёскі, каб пабачыць Надвоіцкую земляную плаціну, якая перагарадзіла раку Выг.

Гэта першая плаціна на канале і мы доўга моўчкі любуемся яе памерамі і сілай, запамінаем дэталі яе надзвычай простай канструкцыі, слухаем кароценькія тлумачэнні тав. Успенскага, і тады, зачараваныя бачаным,— прыпомніце якое вялікае значанне мела гэта плаціна ў справе эканоміі часу,—мы вяртаемся на параход.

* * *

Вечарэе. Далячынь, густа запоўненая лесам, разбаўляецца шэрымі фарбамі, і ўсё наўкола нас: і палянка, і камень, і лес, апранаецца ў памутнелыя шэрыя тоны, а вада ў нізе над намі ў шлюзе робіцца аранджавай і больш густой.

Мы зноўку спыняемся, таропка сходзім па мосціку на правы бераг і берагам па пяску ідзем некалькі назад, адкуль ехалі, каб паглядзець Шаваньскую, вадазліўную плаціну.

Побач з намі ў натоўпе нашым, крыху нэрвовымі крокамі, панязвычайнаму ўзбуджаны, усхваляваны ідзе інжынер Зубрык, Клімент Міхайлавіч. Мы ведаем, што Зубрык у мінулым шкоднік, „контрык“, як прынята называць такіх інжынераў на канале. Нейкі час хадзіў Зубрык з гэтакім дадаткам да прозвішча. Гэта шкодзіла, прыгнечвала. Але цвёрда было вырашана назаўжды, незваротна адыйсці ад мінулага. Гэтае жаданне ўзбагаціла здольнасці, натхніла на нязвычайна смелыя ідэі. Так нарадзіўся праект Шаваньскай вадазліўной плаціны, плаціны высокага напора, збудаванай з драўляных наклонных ражэй. Цяпер плаціна збудована, і ганебнае мінулае назаўжды адсечана. За пабудову плаціны інжынер Зубрык узнагароджаны орденам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Праз колькі хвілін яшчэ мы побач з плацінай.

За плацінай вялізарная схоўня вады. Спакойна нярухома стаіць яна ў сваіх берагах і толькі лішак яе шырокай паласой дзівоснай тканіны, у якой празрыстасць і колер чыстага шкла, спакойна, перапаўзаючы роўны грэбень плаціны, з грукатам падае з дванаццаціметровае вышыні ўніз на бетоннае дно. Там гэтае дзівосная тканіна рассыпаецца тысячамі ніцяй і перакінуўшы канцы іх цераз вялізарны круглы зеленаваты вал, зноўку сплятае іх у паверхні бурлівай ракі, што нараджаецца з гэтага боку

плаціны. Несцакойная ў сваім пачатку рака бурліць, хвалюецца, поўніць грымотамі і гулам наваколле, але абыйшоўшы з боку канал і шлюзы, смірнее і тады зноўку злучаецца з каналам.

— Аўтара! Аўтара!

У адзін момант група таварышоў акружае збянтэжанага інжынэра і цэлай грамадой рук яны ўздымаюць і падкідаюць у гору лёгкае інжынерава цела. Збянтэжаны, разгублены ў непамернай радасці, інжынер Зубрык просіць пусціць яго і на ляту каб адратаваць іх, таропка здымае з вўшэй акуляры. Але яго не пускаюць і яшчэ і яшчэ ўздымаюцца над намі інжынэрава лёгкае цела. За дружнымі крыкамі ура мы не чуем пра што крычыць тав. Зубрык і толькі па тым, як узнятая ўгору ягоная рука з акулярамі, мы здагадваемся, што ён просіць ратунку.

Інжынэр, стомлены такім гушканнем, спробуе аддыхацца і насцярожана, баючыся, каб не ўзяліся яшчэ, азіраецца на таварышоў. Побач са схаванымі, як звычайна, рукамі ў кішэнях свае жоўтае скуранкі, стаіць тав. Фірын і добра, па нязвычайнаму добра ўсміхаецца. У гэтай усмешцы, за нізка схіленым правым брывом, за тонкай, багатай ізгібамі складкай губ, жыве трапяткая, бязмежная радасць. Гэта радасць за маладую краіну, за багатую творчымі сіламі краіну Совецкіх рэспублік і за маладую, гэтак сама багатую творчымі сіламі, крэўна звязаную з краінай літаратуру.

Адкрытая, шырокая усмешка на твары Успенскага.

— Не мяне, а іх, вось каго трэба качаць,—і рука інжынерава, у якой ўсё яшчэ акуляры, працягваецца ў бок да таварышоў Фірына і Успенскага.—Ім я ўдзячны. Яны нязвычайна глыбокія знаўцы чалавечае псіхалогіі. У патрэбны момант прышлі, зразумелі і, не пакрыўдзіўшы, дапамаглі другому майму прыйсцю ў жыццё. Адсюль і вынікла ідэя маёй плаціны. Яны віноўнікі, а не я.

Глыбока ўсхваляваны інжынер, пераклаўшы акуляры ў далонь левай рукі, правай моцна ўдзячна паціскае рукі таварышоў Фірына і Успенскага, а мы абкружаем іх і з радасным гоманам, перамагаючы гул плаціны, падкідаем іх над сабой.

Пасля яшчэ колькі хвілін мы любуемся плацінай, услухоўваючыся ў няспынны звонкі гул, што нараджаецца ўнізе, дзе бетоннае дно. Тады заўважаем, што змрокі вакол нас сталі гусцейшымі, што з Паўночнага ўсходу наплылі нізкія мутныя хмары, а з імі прышоў лёгкі яшче вільготны вецер.

З другога боку плаціны, на бэтоннай яе сцяне, дзе слуп, нясмела мільгануў электрычны ліхтар, і тады на гладкай паверхні струменю вады, што ападае з плаціны, нарадзілася дрыглівая залачоная ніць. Міжвольна ўсе мы зірнулі туды ўгару, дзе ліхтар. Там, на сцяне плаціны каля нявысокай драўлянай загародкі, стаяў вартавы чырвонаармеец з вінтоўкай.

Бурная, стыхійная сіла рэк і бескарысная прыгажосць іхная не да спадобы чалавеку, які будуе соцыялізм. Нам патрэбен ціхі говар спакойнага іхнага цячэння, накіраванага так, як гэта карысна

нам, а сіла іхная патрэбна нам, каб падымаць караблі ў шлюзавых камерах, каб рухаць турбіны гідраэлектрастанцый.

Вечарэе.

Мы зноўку ідзем каналам ад шлюза да шлюза, ад плаціны да новай наступнай плаціны.

Адзінаццаты шлюз самы магутны на Беламорскім канале. Кожная ягоная камера, а іх дзве, уздымае ці апускае параход на 9 метраў. Мы праходзім першыя вароты, другія, трэція і праз 40 хвілін адразу на 18 метраў ніжэй чым былі.

Праходзім Пала-Коргінскі вузел. Зноў спыняемся і аглядаем плаціны 26-ю земляную і 25-ю бетонную. Канчаем аглядаць плаціны пры святле ліхтароў і ўжо ў пацёмку вяртаемся да парахода.

Хмары гусцей і ніжэй. Густы, дробны восенскі дождж. Чорныя, насмоленыя сценкі шлюза сходзяцца, і параход робіцца меншым, менш прыкметным. Бліжэй да канала, да саміх каменных глыб падступае з абодвух бакоў густы некрануты лес. І тады на ўсю моц адчуваецца суровасць карэльскай прыроды.

Але непадалёк за намі мільгацяць стройнай шарэнгай агні электраламп на плаціне і ніжэй агні лагернага пасёлка. А яшчэ мы ведаем, што ў працягу другой пяцігодкі побач з плацінамі стануць будынкі гідраэлектрастанцый, а абапал канала ўзрастуць карпусы 29 буйных прадпрыемстваў, якія стануць пачаткам новых соцыялістычных гарадоў Карэльскай рэспублікі. Ростам гэтых гарадоў, заводаў і электрастанцыі будзе адзначана хада ў заўтрае майго пакалення, людзей, маіх равеснікаў.

Ужо зусім упоцемку, а палове 22-й гадзіны мы праходзім 12-ы шлюз і выходзім на роўны водны праспект 181-га канала. Гэта самы вялікі штучны канал на ББВШ. Даўжыня яго 5,5 кілометра, а шырыня такая, што ў ім зусім вольна могуць размінавацца два вялікія параходы.

Берагі і нахілы канала выкладзены каменем.

— Гэтага не меркавалася па праекту,—кажа тав. Успенскі,— але быў лішні камень, дык зрабілі. Ну, а тым часам і мацней і прыгажэй.

Трэба адзначыць, што на канале на кожным кроку прыемна здзіўляе чыстата і акуратнасць і яшчэ ашчаднасць, з якой ставіліся будаўнікі да кожнага кавалку матарыяляў. Хочацца такой-жа ашчаднасці ў будаўніцтве нашых гарадоў, хочацца такой-жа ашчаднасці ад нашых Менска камунгасаўцаў, якім задужа часта няма аніякае справы да таго, што робіцца на вуліцах, ды на дварах даўно-даўно скончаных пабудоў.

Наперадзе цэлай шарэнгай свецяцца агні, і параход простай лініяй 181-га канала ідзе насустрэч ім да 13-га шлюза, дзе вызначана нам начаваць. А пакуль што мы ўсё яшчэ на палубе, усе яшчэ штурмуем пытаннямі т. т. Успенскага, Вяземскага і Ананнева, хоць дуе халодны гостры вецер, хоць імжыць дробны, але спорны восенскі дождж.

Ананнеў апавядае нам пра шкодніцтва інжынера Кірсанава ў часе пабудовы аднаго са шлюзаў. Згрупаваў гэны інжынер вакол сябе філонаў і з імі працаваў. Абвясцілі яны сябе ўдарнікамі, раней ўсіх пачалі выходзіць на працу. А праз нейкі час адзін з філонаў, з іхніх, прыходзіць і заяўляе, што на шлюзе „зарадзілі туфту“ (туфта—надувацельства, абман). Праверылі і выкрылі шкодніцтва. Засыпка берагоў шлюза пад кіраўніцтвам Кірсанава свядома рабілася з такім разлікам, каб наўхільна ў часе паводкі здарылася аварыя.

Зусім ясна, што аварыя на гэтым шлюзе пацягнула-б за сабою шэраг вельмі вялікіх пашкоджанняў для значнае часткі пабудоў на канале. За такую „туфту“ інжынера Кірсанава, ды некаторых іншых з ягонай хэўры, судзілі сваім судом на канале. Шкодніцкая дзейнасць Кірсанава выклікала нязмернае абурэнне ўсяе масы будаўнікоў, і не дзіва, што масы патрабавалі самай суровай кары, патрабавалі ад суда вышэйшай меры соцыяльнае абароны. Але і ў гэтым факце ярка праявілася сутнасць совецкага суда. Не помста, а выхаванне. Інжынер атрымаў „давеску“ у 10 год і быў накіраваны на будаўнічыя працы ў іншае месца. Не помства, а яшчэ адна спроба перакаваць, зрабіць карысным для грамадства, вярнуць і гэтую чалавечую адзінку ў сям'ю працоўных поўнацэннай.

На палубе страшэнны холад. Хтосці з нашых прапануе адпусціць таварышоў інжынераў і Успенскага і пайсці ўніз. Прапанова сваячасовая. Дзякуем і ідзем уніз, а там цеснімся ў аднэй з кают, дзе прыемная цяплынь і святло. дзе рэдакцыя нашай паходнай газэты „Задушевное Слово“ наладзіла вечар самадзейнасці.

* * *

Яшчэ толькі сёмая гадзіна ранку 21 жніўня. Вакол густы, вільготны туман. Дзесці непадалёк за туманам у 13-м шлюзе наш параход. Мы шчыльнаю групай стаім з самага краю каменнае дамбы і слухаем кароценькія тлумачэнні інжынера Вяземскага. Зпрасоння, мы толькі што падняліся з ложкаў, нам халаднавата, хочацца ісці далей, але перад намі вузенькі спусклесвіца на дзесятак ступенек, а далей даўгі вузкі масток да плаціны, да Маткожненскай 27-ай плаціны, аднэй з тых, аўтарам якіх быў інжынер Вяземскі, Арэст Валер'янавіч.

Па мосціку можна ісці не больш 30-ці чалавекам разам і таму цэпачкай адзін за другім сходзяць таварышы на мосцік і калі першыя ўжо на плаціне, мы ўсё яшчэ на дамбе чакаем сваё чаргі. Чакаем зачараваныя грандыёзнасцю плаціны, гулам, які ідзе адтуль. І ўрэшце і мы на плаціне, на драўляным мастку, пад якім парад імклівых нястрымных струменняў вады. Яны ўрываюцца з-за бетоннае сцяны плаціны ў адтуліны, што паміж бетоннымі быкамі, з нязвычайнай сілай кідаецца ўніз з дванаццаціметровае вышыні, дзе няспынна кружацца на адным месцы,

гэтак-жа шарэнгай, неабдымна вялікія, сівыя, з жаўтаватым адлівам бліскучыя валы. Калі пазіраеш туды ўніз, здаецца, што рухаецца пад нагамі наш мосцік і вось-вось упадзе і будзе знесены вадою. Ад гэтага кружыцца галава, і рукі міжвольна хапаюцца за гладкія моцныя парэнчы, а ногі гэтак-жа міжвольна адсоўваюцца далей ад месца, дзе край мосціка.

Бетоннымі ступенямі лесвіцы сыходзім уніз і праз нейкі час азіраемся, здзіўленыя цішынёй. Мы ў галярэі, у сярэдзіне плаціны, глыбока пад вадою. Сем метраў вышэй над намі перакатваецца цераз грэбель плаціны бурлівы струмень вады, але тут спакой і цішыня і толькі калі ўважліва прыслухацца, тады пачуеш далёкі ледзь чутны, прыглушаны гул ды ціхі выразны звон капель вады, што цуркком падаюць на бэтоннае дно галярэі. У галярэі над намі рэдкія электрычныя лампачкі. Галярэяй ужо не выходзячы на драўляны масток, ён таксама дзесці над намі, вяртаемся назад на дамбу і спыняемся на ёй, каб яшчэ раз зірнуць адтуль на плаціну.

* * *

На беразе група жанчын з дзецмі. Тав. Фірын ветліва ківае жанчынам галавою і дапамагае ім зайсці на параход, а нам паведамляе, што на параход прышла Палагея Трыфанаўна.

Гэта старая, год 60, сялянка. Па яе паласе павінны былі прарыць канал. Але ні за што не хацела згадзіцца на гэта Палагея Трыфанаўна і не хацела з тае яшчэ прычыны, што не верыла ў гэтую большэвіцкую надумку з каналам. Не верыла яна, што будаўнікі падымуць ваду і ёю будзе затоплена месца, дзе спрадвеку стаяла яе старая хата. І Палагея Трыфанаўна „бунтавала“. Яна крычала на сходах супроць канала, яна, карыстаючыся ўплывам, угаварвала баб, каб не дазвалялі пераносіць хат, каб не высяляліся са старых наседжаных месц і сама трымалася да канца. Сама яна апошняй, ужо тады, калі пачала вада заліваць вясковыя былыя двары, перапалоханая „цудам“ выбегла з свае хаты, каб крычаць пра ратунак. Але крычаць не давялося. За Палагеяй Трыфанаўнай сачылі, яе пасадзілі ў човен, у чаўны пагрузілі яе дабро і ў чаўнох, месцамі, дзе перад гэтым была вясковая вуліца і завулкі, перавезлі Палагею Трыфанаўну ў новую збудаваную для яе кватэру. Цяпер Палагея Трыфанаўна самы лепшы сябра і агітатар за канал.

Вось яна, нявысокая з усмешкай, шчыльна сціснуўшы тонкія губы, стаіць перад намі, апавядае, паказваючы рукой на доўгую насып дамбы, пра былую вёску і час ад часу адхінае з высокага роўнага ілба валасы. Яна не пярэчыць, калі Леанід Леонаў просіць дазволу сфатаграфаваць яе і толькі з сарамлівай, але з тэй-жа ветлівай усмешкай папраўляе на галаве валасы, падпіхаючы іх пад сінюю хустку, шчыльна абвязаную вакол галавы,

над якой гострым рогам у гору, завязана яшчэ другая пярэстай, а тады спакойна стаіць і з-пад пасівелых брывоў пазірае проста ў апарат.

— Карткі толькі не запамятай прыслаць,—кажа яна да таварыша Леонава і шырока ласкава ўсміхаецца.

— Ладна прышлю. Прышлю абавязкова. А цяпер дзякую, бабулька.

* * *

Без дваццаці хвілін дванаццаць. Праходзім апошні дзевятнаццаты шлюз. Яшчэ колькі часу пройдзем каналам, а тады непрыкметна ўвойдзем у Белае мора, насустрач неабдымна вялікаму морскому прастору, насустрач паўночнаму ветру.

У моры на рэйдзе стаяць замежныя караблі. Мы пройдзем непадалёку ад іх і праз нейкі час увойдзем у Сарокскую бухту.

А пакуль што ўвага наша занята іншым.

Непадалёк ад берага працуе брыгада землякопаў. Штурмам жалезных рыдлёвак брыгада скопвае непатрэбны ўзгорак і зямлёю, узятай з узгорка, умацоўвае берагі канала. Побач з брыгадай палошчацца на ветры палатно чырвонага сцяга. На ім надпіс, але надпіса прачытаць за ветрам нельга. Ды і няма асаблівай патрэбы. Мы разумеем, што працуе чырвонасцяжная, ударная брыгада, і мы крычым ёй калектыўнае прывітанне. Нейкі момант пасля гэтага мы крыху збянтэжаны бо брыгада не спыніла працу, нічога не закрычала ў адказ на нашае прывітанне, толькі двое ці трое з брыгады пару разоў махнулі нам рукой, павярнуўшыся ў наш бок тварам. Але збянтэжанасць наша хутка знікае, бо мы бачым, як з яшчэ большай шпаркасцю захадзілі ў руках ударнікаў рыдлёўкі, з яшчэ большай шпаркасцю пабеглі ад брыгады па дошчатых дарожках ваганеткі, і тады мы яшчэ дружней крычым ура чырвонасцяжнай брыгадзе.

Мы не змецілі, як адыйшоў ад брыгады адзін з рабочых, пасланы брыгадай, каб адказаць на наша прывітанне. Вось ён дагнаў параход, спыніўся, штосці гаворыць да нас і тады махае шапкай. Слоў ягоных мы не чуем, вецер адносіць іх у бок ад нас, але мы разумеем яго і ў адказ яму крычым:

„Няхай жывуць тэмпы вялікага Беламорбуда!"

З мора насустрач нам дуе халодны паўночны вецер. З мора насустрач нам адна за другой коцяцца ўзнятыя ветрам зеленаватыя хвалі. Параход абпешчаны хвалямі, пачынае па ціху гойдацца і паскарае хаду.

* * *

Сарокі.

Морскія хвалі ў баку, а тут у бухце спакой.

З боку дзесці, мінаючы нас, праходзіць і халодны паўночны вецер, а тут сонца, цяплынь. Прашчаемся з параходам, з яго камандай і ідзем да сваіх вагонаў, якія чакаюць нас тут у Сароках. Пасля блукаем па сонцу непадалёк ад вагонаў, перанасыча-

ныя ўражаннямі, радасныя, дзелімся ўражаннямі друг з другам.

На пні, непадалёк ад вагона, на сонцы, сядзіць задумлівы Усевалад Іваноў і, штосці мяркуючы ўважліва, старанна выстругоўвае ножыкам кавалак палкі, які выпадкова патрапіў яму пад руку. Ногі ягоныя шырока расстаўленыя, моцна ўперліся ў зямлю. Перад ім наперадзе мора. Туды, у светлую яго далячынь, схаваныя за бліскучымі шкелцамі вялікіх круглых акуляр, пазіраюць ягоныя вочы, і я адчуваю, як нараджаецца ў ім пачуццё вялікае любові і такія простыя і такія прыгожыя словы:

„Скажу праўду: мне вельмі шкода, што я позна папаў у гэтыя шэра блакітныя і валунныя лясы. Гэта прыпамінае Сібір, маладосць суровую і прыроду, суровыя абавязкі чалавека,— і яшчэ больш пачынаеш любіць нашу маладую і суровую, нашу вельмі харошую і суровую і добрую совецкую краіну.

Людзі, якія яшчэ год ці тры назад не толькі нічога не ўмелі рабіць, але і не хацелі працаваць, людзі, якія шчыра і ў адкрытую з цагардай адносіліся да працы зараз выдатнейшыя слесары, бетоншчыкі, такары, машыністы.

Бачу я гэтых людзей, гаварыў з імі з вока на вока, я быў у зацішных кутках лагера, спыняў людзей выпадковых і ад усіх чуў адзін і той-жа выраз парознаму: яны убачылі новы і адзіны, новы і раскошны мір працы, мір соцыялізма. Мне давялося праплыць па гэтай раскошнай люстры паўночных вод, піць ваду, бачыць у ёй адлюстраванне шлюзоў, гранітных набярэжных, раскошных плацін, бязконца даўгіх дамб; горныя лясістыя выспы сустракалі нас на новых вазёрах, створаных толькі яшчэ ўчора чалавекам і сумленна кажучы, я вельмі шчаслівы, сябры мае...

Гэта праца—паказаць сіламі мастацтва на буйным палатне бачанае мною, я ведаю цяжкая і адказная, але ўсё-ж я маю смеласць сказаць, што паспрабую зрабіць гэта, гэта значыць павесці вас на старонкі кнігі, дзе будуць дзейнічаць, успамінаць, любіць і працаваць гэтыя новыя, свежыя людзі, якіх бачыў я ў адным з краёў раскошнай краіны соцыялізма".

* * *

У дваццаць хвілін на семнаццатую гадзіну 21 наш цягнік адыходзіць са станцыі Сарокскай на Ленінград. Усхваляваныя, мы прашчаемся са школьнікамі і настаўнікамі, якія прышлі пагаварыць з намі, сказаць нам пра свае да нас патрабаванні. Настаўнікі—дэлегаты раённага злёта. Злёт абмяркоўваў пытанні блізкага навучальнага года. Настаўнікі і вучні чакаюць ад совецкіх пісьменнікаў новых кніг. Шматмільённы чытач Совецкага саюза патрабуе гэтых кніг ад сваіх пісьменнікаў і пісьменікі: Іваноў, Зошчанка, Безыменскі, Кулык у сваіх выступленнях на мітынгах ад імя усіх пісьменікаў сказалі, што новыя кнігі пра совецкую краіну і пра яе людзей будуць.

Пазней у вагонным купэ мы чыталі свежы нумар „Праўды".

На аднэй са старонак газэты, дзе змешчаны фотоздымак галоўнага Каўказскага хрыбта і вяршыны Казбека, мы прачыталі кароценькае паведамленне пра тое, што аэрафлотам асваіваецца простая лінія Тыфліс—Масква. Перасякаючы Каўказскі хрыбет, новая лінія дасць магчымасць пакрыць адлегласць Тыфліс—Пяцігорск за 1 гадзіну і 40 хвілін у той час, як шлях паштова—пасажырскіх самалётаў па старой паветранай трассе: Масква—Тыфліс-Харкаў—Растоў—Мінеральныя Воды—МахачКала—Баку—Тыфліс займае двое сутак. Пры ўвядзенні ў эксплоатацыю новай лініі ён будзе праходзіцца за 12 гадзін. Рэгулярныя палёты па гэтай трассе пачынаюцца ў сярэдзіне верасня.

Па нязвычайнаму глыбока хвалюе нас гэтае кароценькае паведамленне. За невялічкімі слупкамі шэрага газэтнага петыта, бачым мы вобраз вялікай савецкай краіны. Яна вырасла, краіна Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, братэрскі саюз народаў, вырасла ў жорсткім змаганні са шматлікімі ворагамі, якіх перамагла. Яна расце краіна гігантаў мыслі і комуністычных спраў, радзіма новага чалавецтва. Яна расце і далёкія рубяжы свае, каб расці адразу ўсім сваім вялікім прасторам, моцна звязвае лініямі сталёвых чыгуначных рэек, лініямі новых водных шляхоў, лініямі шляхоў паветраных.

Так вырастае соцыялізм.

Параход „Анохін", Белае мора
жнівень—1933 г.

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

ЭМІЛЬ ФРОСС

## ЛАТЫШСКАЯ ПРОЛЕТАРСКАЯ ЛІТАРАТУРА

1.

Эканамічнае і культурнае развіццё даваеннай Латвіі адбывалася пад падвойным прыгнётам царскага рэжыма і русіфікацыі, з аднаго боку, і пад уціскам калонізатарскі-германафільскага эканамічна моцнага і прывілеяванага нямецкага дваранства, з другога.

У той-жа самы час даваенная Латвія па свайму геаграфічнаму становішчу з'яўлялася апорным пунктам заходня-эўрапейскага капітала, які імкнуўся ў Расію. У Латвіі гэты капітал знаходзіў мабільныя рэзервы, створаныя выкупам сялянамі сваіх гаспадарак. Таму тут развівалася ліхаманкавае акцыянернае „грюндерство", у якім прымала ўдзел таксама маладая латышская буржуазія. Латвія ў кароткі тэрмін ператварылася ў адзін з перадавых індустрыяльных раёнаў царскай Расіі, і стварыўся моцны, скан-цэнтраваны ў буйных прадпрыемствах латышскі пролетарыят, які пачаў палітычна арганізоўвацца і атрымаў баявое хрышчэнне яшчэ ў канцы XIX стагоддзя.

Падвойная самадзяржаўна-памешчыцкая кабала, шматлікасць і моц гарадскога пролетарыята, беззямельных сялян і батракоў і ўзрастаючае супрацоўніцтва латышскай буржуазіі з рускімі, нямецкімі і заходня-эўрапейскімі капіталістамі,—вось тыя эканамічныя ўмовы, якія тлумачаць шырокі размах рэволюцыйнай хвалі 1905 г. у Латвіі, ролю пролетарыята гегемона ў гэтай рэволюцыі і—шпаркі ўход у лагер адкрытай рэакцыі латышскай буржуазіі.

Гэтыя ўмовы тлумачаць таксама факт буйнага ўплыва марксісцкай мыслі на развіццё латышскай літаратуры ўжо (прыкладна) з 1893 г., калі з'явілася накіраваная супроць рамантыкі рэакцыйнай буржуазіі кніга аднаго з першых латышскіх марксістаў Я. Янсона-Брауна (1870—1917 г.). „Мыслі аб сучаснай літаратуры". Хоць у кнізе сказваюцца ўплывы буржуазных ідэологаў Іпаліта Тэна і Георга Брандэса, усё ж ва ўмацаванні ўплыва рэволюцыйнай крытыкі і ва ўмацаванні рэалістычнага метада ў латышскай літаратуры яна мела велізарнае значэнне.

Да гэтага-ж часу адносіцца творчасць першага блізкага пролетарыяту буйнага паэта Эд. Вейдэнбаума (1867—1892 г.).

Яго рэалістычныя абмежавана простыя і ясныя вершы насычаны сапраўднай нянавісцю да буржуазіі з яе мяшчанскі-рэакцыйным ідэалам, але заклікі к барацьбе ў іх змяняюцца глыбокім песімізмам і філозофіяй эпікурэйца.

З прычыны таго, што цэнзура не прапускала вершаў Вейдэнбаўма, яны распаўсюджаваліся ў замежным выданні і ў рукапісах.

Пасля менш яркіх твораў некалькіх часова рэволюцыйных і паўрэволюцыйных паэтаў (Эд. Прэйман-Эваргуліс—1865 г. Аспазія і інш.) высокага ўздыма латышская рэволюцыйная паэзія дасягае ў творчасці Я. Райніса—Я. Плэкшан, (1865—1929 г.) напярэдадні рэволюцыі 1905 г.

Райніс—буйнейшы паэт рэволюцыі 1905 г. Яго драматычныя творы („Агонь і ноч"—1901 г.) і вершы (Далекие отзвуки"—1903 г. „Песни бури"—1905 г.) цытуюцца ў артыкулах і прамовах, вывучаюцца, дэкламуюцца і спяваюцца. Пасля 1905 г. ён сваю папулярнасць падтрымлівае і замацоўвае творчасьцю. Узмацняючы свой уплыў на агульнае развіццё латышскай літаратуры высокай мастацкай якасьцю сваей творчасці, Райніс становіцца буйнейшым латышскім пісьменікам. Але к новым рэволюцыйным баям пролетарыята, к рэволюцыі 1917 г. і Кастрычніцкай рэволюцыі новых „Песень бури" ён ужо не дае і даць не здольны.

Такое разьвіццё Райніса поўнасцю тлумачыцца яго клясавай прыналежнасцю і тым, што ўжо ў першых кнігах, якія мелі велізарнае рэволюцыйнае значэнне, асновай яго імпрэсіонісцкасімбалічнай творчасці з'яўляюцца не класавыя інтарэсы пролетарыята, а філософія буржуазнага гуманізма. Ён—майстра ў выкарыстанні народнае песні і байкі і буйнейшы латышскі нацыянальны паэт.

Пасля Кастрычніка ён апявае арганізаваную контррэволюцыйную узброеную барацьбу латышскай буржуазіі і меншавікоў, якія падтрымліваюцца заходня-эўропейскімі імперыялістамі супроць рабочага класа—супроць совецкай Латвіі і СССР, і нарэшце займае пост меншавісцкага міністра буржуазнай Латвіі.

Зачаткі пролетарскай літаратуры трэба шукаць галоўным чынам у рэалістычнай рэволюцыйнай літаратуры, а не ў творчасці Райнеса, які не мае на яе далейшае развіццё амаль ніякага ўплыва.

Я ўжо падкрэсліваў значнасць ролі рэволюцыйнай крытыкі ў развіцці латышскай літаратуры. Прыкладна з 1918 г. зноў пачынаецца ея барацьба за грамадзка значны, насычаны грамадскімі ідэямі літаратурны рэалізм. На аснове новага нарастання рэволюцыйнага руху латышскага пролетарыята, у літаратуры ствараецца новая рэволюцыйная канцэнтрацыя. Вядучую ролю ў ёй адыгрываюць відныя латышскія марксісты, у мэтах легальнай рэволюцыйнай прапаганды, якія звярнуліся да рэволюцыйнай крытыкі: Я. Янсон-Браўн, Я. Берзін—Земельс, В. Кнорын, В. Дэрман і іншыя, уплыў якіх распаўсюджваецца на цэлы шэраг крытыкаў

match:рознага толку, як А. Біркерт, Лтготніс, Арвед Швабэ, А. Краўя і інш. У працах гэтай групы ўжо ставіцца праблема пролетарскай літаратуры.

Да гэтай-жа групы далучаецца Андрэй Упіт (1887 г.), які парваў са сваімі настаўнікамі з лагера рэакцыйнай буржуазіі. Ён з'яўляецца віднейшым літаратурным дзеячом перыяда 1917 года. Аднак яго літаратурна-крытычныя і тэорэтычныя працы на ўсім працягу яго дзейнасці не вызначаюцца марксісцкай вытрыманасцю, а носяць яўна эклектычны характар (Брандэс, Тэн, Золя і інш.) У драматычнай творчасці яму так і не ўдаецца пайсці далей праблемы адносін індывідуума і грамадства, характэрнай для перыяда псіхалогічнай перабудовы і дробнабуржуазных сумненняў.

Лірыка Упіта зусім нязначная. Найбольш плённа ён працуе ў галіне белетрыстыкі (раманы, апавяданні, навелы). Ён зло і тэндэнцыйна адлюстроўвае і высмейвае буржуазную пропаведзь адзінства нацыянальных інтарэсаў і з'яў буржуазнага разлажэння. Ён (выходзец з дробнага сялянства) вельмі добра ведае латышскую вёску і ярка, хоць і без асаблівай глыбіні, паказвае класавае расслаенне ў ёй. Але ў яго няўдалых спробах выявіць жыццё і барацьбу гарадскога пролетарыята, ярка выступае яго дробнабуржуазная сялянская палавінчатасць, якая праявілася ў яго „тэорыі", што латышскі пролетарыят (загартаваны ў буйных рэволюцыйных выступленнях) „толькі сялянства з налётам фабрычнай копаці".

Аб'ектыўна яго творчасць з поўнай вастратой сатыры і адмаўлення накіравана супроць з'яў буржуазнага выраджэння, а не супроць буржуазнага ладу ў цэлым. Яго творчасць у значнай сваёй частцы застаецца ў межах вульгарнага тэндэнцыйнага натуралізма і не паднімаецца да сінтэтычна-рэалістычнага адлюстравання грамадскіх працэсаў.

2.

У час імперыялістычнай сусветаай вайны буйная прамысловасць гарадоў сучаснай Латвіі (Рыга, Лібава і інш.) была эвакуявана ў індустрыяльныя цэнтры Расіі, па якіх рассяяліся таксама і тысячы рабочых, якія выехалі са „сваім" фабрыкамі. Па гарадох Расіі рассеялася таксама частка бежанцаў з акупаванай нямецкімі войскамі Курляндыі (пераважна—гарадскі і вясковы пролетарыят). Усё гэта павяло да аслаблення пазыцый латышскага пролетарыята супроць нацыянальнай буржуазіі, ідэалагічныя пазыцыі якой ўмацоўваліся на аснове росквіта нацыянальнага шавінізма, накіраванага супроць немцаў. Таму наступныя буйныя рэволюцыйныя падзеі не прыцягнулі на бок пролетарыята значных кадраў з асяроддзя дробна-буружуазных пісьменнікаў.

З такіх падзей неабходна адзначыць:

1. Прыняццё большэвіцкай платформы латышскімі стралкамі, якія аб'ядналі лепшую частку рабоча-сялянскай моладзі 19 мая 1917 г.

2. Стварэнне совецкай Латвіі (3 студзеня 1919 г.) і яе пяцімесячная абарона ў барацьбе супроць латышскай буржуазіі і меншавікоў, якія вялі работу ў саюзе з заходня-эўропейскімі імперыялістамі.

Пасля прыняцця латышскімі стралкамі большэвіцкай платформы, што выклікала уход нацыянальна-дэмакратычных пісьменнікаў (раней адыгрываўшых у іх буйную ролю) у лагер буржуазіі, з радоў стралкоў-большэвікоў пачынаюць вылучацца свае паэты. Стралковая арганізацыя, у асаблівасці пасля акупацыі нямецкімі войскамі усяе Латвіі, становіцца арганізацыйным цэнтрам латышскай пролетарскай літаратуры.

Пяць месяцаў існавання і барацьбы совецкай Латвіі далі велізарныя вынікі па ўмацаванні рэволюцыйнай самасвядомасці пролетарыята і па радыкальнаму ідэйнаму разрыву шырачэзных мас як з дробна-буржуазным лібералізмам і пацыфізмам, так і з усімі іншымі ідэалагічнымі ўплывамі варожых класаў. Літаратуры яны далі не толькі мабылізацыю вакол латышскай пролетарскай літаратуры усіх сапраўды літаратурных кадраў, якія існавалі дагэтуль, але і нараджэнне новых кадраў пролетарскай літаратуры.

Андрэй Упіт у совецкай Латвіі апублікаваў кнігу „пролетарская літаратура". Мажлівасці і неабходнасці стварэння пролетарскай літаратуры ён не адмаўляў, але даказваў толькі неразуменне яе сутнасці і задач.

Латышскай буржуазіі, якая падрымлівалася заходня-эўропейскімі імперыялістамі, дзякуючы некаторым буйным палітычна-тактычным памылкам совецкай улады Латвіі (у асаблівасці— у галіне аграрнай палітыкі), удалося разграміць совецкую Латвію. Пасля зверынай расправы з тысячамі рэволюцыйных рабочых, яна часова ўзмацніла буржуазнае панаванне. Большасць рэволюцыйных рабочых, якая засталася вернай ідэі совецкай Латвіі, павінна была адступіць на тэрыторыю СССР, бацькаўшчыну працоўных усяго света, дзе змагаліся на фронтах грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, а ў сучасны момант ідуць ў першых радах будаўнікоў соцыялізма. Такім чынам латышскі пролетарыят аказаўся раздзеленым мяжой, якая аддзяляе два светы, дзве сістэмы, якія вядуць барацьбу не на жыццё, а на смерць. З гэтага часу латышская пролетарская літаратура развіваецца па двох амаль незалежных напрамках (асабліва ў працягу першага дзесяцігоддзя).

Латышская совецкая літаратура развіваецца ва ўмовах краіны перамогшага пролетарыята, пры актыўным падтрыманні пролетарскай дзяржавы,—ва ўмовах пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Пролетарская літаратура Латвіі развіваецца ў зусім процілеглых умовах буржуазнай „дэмакратыі", знаходзіцца пад пастаянным тэрорам з боку буржуазнай дзяржаўнасці, пры ўсё ўзраста-

ючым пагоршанні матэрыяльнага і прававога стана працоўных мас,—ва ўмовах крызіса капіталізма, які ўсё больш паглыбляецца.

Латышская совецкая літаратура, якая развіваецца ў СССР, з'яўляецца простым працягам літаратуры совецкай Латвіі—як у адносінах яе кадраў, так і больш шырокім сэнсе.

Пасля ліквідацыі стралковых арганізацый назіралася некаторае літаратурнае зацішша. Але ўздым гаспадаркі совецкай краіны, велізарныя поспехі соцыялістычнага будаўніцтва далі новыя шырокія магчымасці і для развіцця латышскай совецкай літаратуры, якая за апошнія гады вельмі значна вырасла, як у адносінах колькасці і якасці, так і ў адносінах кадраў.

З пісьменнікаў, якія ў сучасны момант не працуюць, неабходна назваць Шалконіса, П. Вейніса і П. Свірыса, якія належаць да ліку рэволюцыйных рамантыкаў. Апошнія два адышлі ў крытыку. Найбольш значныя сатырычныя вершы П. Свірыса накіраваны супроць буржуазнай Латвіі.

Акрамя Кліціі, якая дала літаратуры вельмі мала, з памёршых пісьменнікаў павінны быць названы паэты: Вольд, Якобсон і К. Якобсон, паспяхова развіўшыхся да ідэалагічна-вытрыманай рэалістычнай лірыкі, і крытык Курон, але ў асаблівасці А. Арайс-Берца, на пасту члена ЦК ЛКП, які стаў ахвярай катаў буржуазіі, і пісьменнік-крытык Клусайс. Арэйс-Берц пакінуў некалькі простых рэалістычных апавяданняў, якія прасякнуты света-адчуваннем аўтара-большэвіка. Клусайс, акрамя рэалістычных апавяданняў і рамана „Жанчына з вінтоўкай“, якія мастацка рысуюць перарастанне латышскіх батракоў у стойкіх барацьбітоў пролетарскай рэволюцыі, пакінуў таксама каштоўныя крытычныя работы і першую кнігу гісторыі ідэалагічных плыняй Латвіі.

Судрабу Эджус, які адсвяткаваў ужо некалькі гадоў таму назад сваё 70 годдзе і юбілей паўвекавой літаратурнай творчасці, пакінуў свае „недюжинное“ майстэрства рэалістаў старой школы на службу будаўніцтву соцыялістычнага грамадства. У асаблівасці за апошнія гады ў яго творчасці назіраецца значны зрух да большай палітычнай актуальнасці (проза і вершы аб соцыялістычным будаўніцтве, рэзка саркастычныя вершы аб буржуазнай Латвіі).

Да пісьменнікаў больш старога пакалення належыць яшчэ рамантык Эд. Шылер, які піша вершы, сатыры і камедыі, і рэаліст старой школы Сімон Бергіс (жыццё рабочых у Амерыцы, у СССР і барацьба батракоў даваеннай Латвіі).

Сярод паэтаў пакалення латышскіх стралкоў віднейшае месца займае К. Пелейкас, правадыр старога рэалістычнага кірунку ў латышскай совецкай паэзіі. Яго творчасць характарызуецца прастатой тэм і лексікі, высокай культураю вершу, набліжэннем да інтанацыі звычайнай гутаркі і некаторым імкненнем да замены лірычных матываў эпічнымі. Яго паэтыка мела бясспрэчны ўплыў на развіццё іншых паэтаў, але групы К. Пелейкас не стварыў. Яго тэматыка—грамадзянская вайна і соцыялістычнае будаўніцтва.

Сярод празаікаў яму найбольш блізкі К. Іокум. Яго апавяданні аб грамадзянскай вяйне і соцыялістычнай перабудове вёскі адрозніваюцца вытрыманa-рэалістычным падыходам і некаторай сухаватасцю апавядання, але ўсё-ж не пазбаўлена арыгінальнасці і высокага напружання ў драматычных момантах.

Празаікамі-рэалістамі таго-ж пакалення з'яўляюцца: Эд. Салянек, пераважна бытапісец латышскага сялянства—інтэлігенцыі ў СССР, які адрозніваецца некаторай штучнасцю, вычурнасцю стылю; ленінградскія пісьменнікі Я. Эйдук і Кадзіціс Грозны, які часткова схіляецца да псіхалагічнага рэалізма; О. Рыхтэр, які даў рад аўтабіяграфічных апавяданняў высокага напружання аб чырвоных выведчыках; А. Зедзінч, які піша ў стылі старога рэалізма; Э. Міззе, які даў лепшае адлюстраванне вынаходніка старога большэвіка, і ленінградскі драматург Эдм. Бурневіц (калгасная тэматыка).

Найбольш процілеглы гэтай групе—Алевіль Цепліс, прадукцыйны паэт і белетрыст. Ён—найбольш яркі прадстаўнік рэволюцыйнай рамантыкі ў латышскай совецкай літаратуры, што праяўляецца як у пабудове, так і ў стылі, а часткова і ў тэматыцы, ідэалагічных момантах яго творчасці. У прозе ён па сутнасці адзіночка. У паэзіі найбольш блізка да яго стаіць К. Прэднекс, у апошнія часы (як мы гэта бачым у апошніх кнігах Цепліса), які працуе выключна на тэматыцы грамадзянскай вайны і соцыялістычнага будаўніцтва.

У сваёй першай кнізе да яго блізкі таксама Эд. Біройс. Пасля некаторага перыяда маўчання ён праяўляе сябе лепшым у совецкай латышскай літаратуры паэтам рэволюцыйных адозваў. Усе яго адозвы накіраваны супроць буржуазнай Латвіі. Совецкую тэматыку Біройс не асвоіў.

Асабняком, як быццам паміж абедзвюма групамі, стаяць два пісьменнікі, якія з'яўляюцца адначасова паэтамі белетрыстамі: Роберт Эйдэман з'яўляецца аднэй з буйнейшых фігур латышскай совецкай літаратуры. Яго творчасць адрозніваецца большай рознастайнасцю тэматыкі і здольнасцю спалучэння соцыялістычнага рэалізма з элементамі рэволюцыйнай рамантыкі.

Малады пісьменнік, які яшчэ не зусім вызначыўся, Арнольд Грандт ва многім з'яўляецца вучнем Лінарда Ляйцэна, але ў прозе часамі збліжадцца з Роб. Эйдэманам.

З маладых пісьменнікаў можна назваць Дзіркстэле, Рэнца, Дэгліса і інш. Віднейшыя крытыкі—П. Віксне, А. Запроўская, Янель Браскалнс.

З рэволюцыйных пісьменнікаў Латвіі на працягу 1932 года пераехалі ў СССР Лінард Лайцэн, Пэтэр Кікуц, Э. Судмаліс і Эміль Фрос, а яшчэ раней—Я. Прэдэ, Я. Сверэ і Дэменц.

### 3

Латышская буржуазія пасля адступлення совецкай Латвіі, стварыўшы сваю „дэмакратычную“ рэспубліку, аказалася ня-

здольнай рэстаўраваць даваенную прамысловасць Латвіі і нават баялася гэтага—як нямінучага аднаўлення магутнасці свайго магільшчыка гарадскога пролетарыяту. З-за таго страху перад новымі рэволюцыйнымі выступленнямі была праведзена распрацаваная соцыял-дэмакратамі, меншавікамі аграрная рэформа, якая тысячы сельскага пролетарыята ператварыла ў дробных уласнікаў зямлі. Шырокі слой дробнай буржуазіі быў заспакоен перспектывамі кар'еры на дзяржаўнай службе.

З другога боку, лагічным працягам барацьбы буржуазіі супроць комуністычнай партыі і рабочых мас, якія ідуць за комуністычнай партыяй,—з'яўляецца зверскі тэрор супроць рэволюцыйных рабочых і іх арганізацыі, пачынаючы з загнанай ў падполле комуністычнай партыі і канчаючы культурнымі і спартыўнымі арганізацыямі рабочых.

З прычыны ўсяго гэтага пролетарыят Латвіі аказаўся параўнаўча аслалбеным, ізаляваным і пастаўленым на вельмі цяжкія пазіцыі.

Але „канец" совецкай Латвіі аказаўся пачаткам новага перыяда барацьбы рабочага класа за совецкую Латвію. Адным бокам гісторыі развіцця гэтай барацьбы, якая вядзе да рашучых боек з'яўляецца гісторыя развіцця рэволюцыйнай літаратуры Латвіі.

Аб пазіцыі Райнеса ў буржуазнай Латвіі ўжо сказана. Гісторыя далейшай яго творчасці—гэта гісторыя творчай дэградацыі вялікага паэта аж да дробна-буржуазна-сантыментальнай халтуры. Аспазія, якая лічылася рэволюцыйным паэтам, да і нават пасля 1925 г. у сучасны момант працуе на попрышчы фальсіфікацыі гісторыі рэволюцыйнага руху ў адпаведнасці з інтарэсамі рэакцыйнай буржуазіі.

Андрэй Упіт, вярнуўшыся з СССР у Латвію, пасля шматгадовых манеўраў „паміж" с. д. меншавікамі і рэволюцыйнымі рабочымі адкрыта кансалідуецца з соцыял-фашыстамі і, шляхам зніжэння ідэйнасці сваёй творчасці, становіцца зусім прыймальным для буржуазіі „общественным критиком" (Gesellschaftskritiker) у апошніх літаратурных і публіцыстычных выступленнях дэманструе адкрыта варожыя адносіны да барацьбы рэволюцыйнага пролетарыята.

Лева-буржуазны Андрэй Курці некаторы час імкнуўся да супрацоўніцтва з рэволюцыйным пролетарыятам, зараз стаў на чале партыі „независимых социалистов", на пазіцыях якой застаўся і пасля арганізацыйнай ліквідацыі гэтай партыі, што з'яўляецца соцыял-фашысцкай агентурай у шэрагах рэволюцыйнага пролетарыята.

У адкрытае і бязумоўнае супрацоўніцтва з рэволюцыйным авангардам латышскага пролетарыята зараз-жа пасля ўтварэння буржуазнай Латвіі ўступілі Лінард Лайцэн і Леон Паэгле. Далейшы шлях развіцця абодвух пісьменнікаў шоў па шляху далейшага ўяснення светапогляда і ўсямернага аўладання літаратурнымі выяўленчымі сродкамі.

Леон Паэгле (1890 г. 1926 г.) да таго як далучыўся да рэвалюцыйнага пролетарыята, быў мала вядомым дробнабуржуазным пісьменнікам. Рашаючым для яго ідэалагічнага і літаратурнага развіцця былі Кастрычніцкая рэволюцыя і работа па рэарганізацыі школ совецкай Латвіі. Ён рана загінуў ад туберкулёза, атрыманага ім у „дэмакратычных“ засценках. Літаратурная творчасць Паэгле страдае фармальнай незакончанасцю і часткова залішнім рамантызмам. Але сярод яго прозы і агітацыйных сцэн для рабочага тэатра ёсць і рэчы, якія да гэтага часу не страцілі свайго значэння.

Лінард Лайцэну (1890 г.) прыналежыць найбольш буйная роля ў латышскай пролетарскай літаратуры. Лайцэн—актыўны ўдзельнік рэволюцыі 1905 г., за рэволюцыйную дзейнасць адсядзеў два гады ў царскай турме. У перыяд да кастрычніцкай рэволюцыі ўтраціў ідэалагічную і арганізацыйную сувязь з рэволюцыйным пролетарыятам, да якога канчаткова звярнуўся ў 1919 г. З гэтага часу ён нязменна падтрымлівае сувязь і супрацоўніцтва з рэволюцыйным пролетарыятам і яго арганізацыямі, свядома і без эстэтычнага арыстакратызма падначальвае сваю літаратурную творчасць (асабліва ў тэатральных п‘есах) патрабаванням бягучага моманту рэволюцыйнай барацьбы.

„Абстрактныя“ тэатральныя п‘есы Лайцэна раскрываюць механізм эканамічна-палітычных адносін капіталізма ў яго сувязі з актуальнымі праблемамі барацьбы рабочага класа Латвіі. Яго вершы, якія ломяць традыцыі паэтычнага стылю і пабудовы, адрозніваюцца інтэлектуальнасцю і яркасцю вобразаў. Празаічныя рэчы пабудаваны надзвычай проста, без лірыкі, пафаса і апісанняў з чотка выяўленым сюжэтам і вялікай інтэлектуальнай нагрузкай.

У 1928 г. Лайцэнам быў створан часопіс „Левый фронт“, прысвячаны літаратуры, крытыцы і іншым пытанням культуры, які пасля забароны, выходзіў пад назвай „Трыбуна“. „Левы фронт“ з‘явіўся першым часопісам рэволюцыйнай літаратуры буржуазнай Латвіі і пачаў сваё існаванне раней сваіх субратоў у іншых краінах, як Германія, Францыя і г. д.

„Левы фронт“, які апіраўся выключна на кадры маладых пісьменнікаў, стаў мажлівым толькі дзякуючы таму, што ў рабочых прафесіянальных і культурных арганізацыях (і ў іх палітычна-эканамічных часопісах „Адзінства“, „Маладая Гвардыя“, „Шлях рабочай моладзі“ і інш.) пры актыўным удзеле Лайцэна і Паэгле вялася вялікая выхаваўчая работа, і толькі дзякуючы таму, што ў рады рэволюцыйнага пролетарыята Латвіі ўступіла новае пакаленне барацьбітоў, якія імкнуліся выявіць сябе ў літаратуры.

З другога боку, толькі ў стварэнні „Левага фронта“ з‘явілася магчымасць аб‘яднання гэтых маладых вырасшых непасрэдна з рабочага асяроддзя літаратурных кадраў і прадпасылка для іх далейшага развіцця. Ужо раней Лайцэн і Паэгле не раз арыштоўваліся. Таксама з калектыва маладых пісьменнікаў больш

паловы заўсёды сядзелі ў „дэмакратычных“ засценках. Часопіс выходзіў не заўсёды рэгулярна, часамі з перарывамі, але знішчыць яго буржуазіі ўсё-ж не ўдалося.

Кадры маладых пісьменнікаў, якія групаваліся вакол „Левага фронта“ („Трыбуны“) былі даволі шматлікія. Разглядаць у пасобку творчы твар кожнага з іх не дазваляюць памеры данага артыкула, і не ўсе яны сваю індывідуальнасць дастаткова выявілі. Многім у гэтым перашкодзіла турэмнае заключэнне; у іншых зборнікі вершаў былі канфіскаваны, часамі ўжо ў друкарні (В. Пуполс). Але з поўным правам можна гаварыць аб хуткім развіцці часопіса і пісьменніцкага калектыва цалкам.

У паэзіі працуе Андрэй Балодзіс, Юл. Іе, К. Лупанд, В. Пуполс, П. Калпадэле. К. Бейербах, Я. Сверэ і інш. Белетрысты: А. Альтэрс, П. Зарс, Лантер, В. Пуполс, Дэменс, Э. Судмаліс, К. Лупанд. У крытыцы: Э. Фросс, Я. Сверэ і інш. У драматургіі віднейшае месца займае Я. Гірэдэ.

У працэсе літаратурнай і палітычнай барацьбы за апошнія гады перайшоў у рады рэволюцыйнай літаратуры малады пісьменнік П. Кікутс, які да гэтага часу працаваў у выданні с.д. меншавікоў, але за рэволюцыйную дзейнасць выключаны з соцыял-дэмакратычнай партыі.

У апошнія часы, у сувязі з нарастаннем крызіса і з фашызацыяй латышскай буржуазіі, умовы работы пролетарскіх пісьменнікаў Латвіі становяцца ўсё больш цяжкімі, бо для іх знішчаны апошнія рэшткі легальных магчымасцяй.

Усё-ж барацьба за рэволюцыйную літаратуру латышскага пролетарыята працягваецца. Рэволюцыйныя пісьменнікі, якія эмігруюць з Латвіі, знаходзяць у СССР сапраўдную бацькаўшчыну і шырокія магчымасці творчай работы. Два рэчышчы развіцця латышскай пролетарскай літаратуры ў сучасны момант часткова зліваюцца ў латышскай совецкай літаратуры, каб праз новы магутны ўздым, сугучны рэволюцыйнаму ўздыму рабочых мас у краінах капітала і ўздыму соцыялістычнага будаўніцтва ў другой пяцігодцы дасягнуць поўнага зліяння і росквіта ў совецкай Латвіі.

**П. ГОРЫН**

**Прэзідэнт Беларускай Акадэміі Навук**

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА ЦАРЫЗМА Ў ПОЛЬШЧЫ Ў XX ВЕКУ

Вывучэнне нацыянальнай палітыкі ў Польшчы з'яўляецца часткаю маёй агульнай работы па гісторыі дарэвалюцыйнай Расіі XX в. Архіўныя фонды царскага ўрада змяшчаюць выключна цэнныя матэрыялы, якія дазваляюць глыбока вывучыць пытанне аб нацыянальнай палітыцы самадзяржаўя. Асноўнымі архіўнымі матэрыяламі ў рабоце над данай тэмай паслужылі не апублікаваныя справы канцылярыі Совета міністраў, міністэрства унутраных спраў, урадавага Сената і Сінода, міністэрства па народнай асвеце, фінансаў, гандля і прамысловасці. Асаблівы інтарэс сярод гэтых фондаў прадстаўляюць дакладныя запіскі губернатараў б. Прывісленскага краю. На жаль, мы не маем магчымасці вывучыць матэрыялы, на падставе якіх пісаліся гэтыя дакладныя запіскі, паколькі вядома, што ў перыяд эвакуацыі царскіх войскаў з Польшчы ў 1915 г. многія справаводствы царскіх устаноў у Польшчы або загінулі, або да гэтага часу засталіся не адшуканымі. Да некаторай ступені гэтае сур'ёзнае для гісторыка затрудненне кампесуецца тым, што, дзякуючы асобай увазе, якую праяўлялі царскія міністэрствы да Польшчы, у справах цэнтральных міністэрстваў і дэпартаментаў захавалася вялікая колькасць усякага рода дакладных запісак, справаздач, данясенняў, інструкцый, запытанняў і да т. п. матэрыялаў, дазваляючых з дастатковай глыбінёй вывучаць паасобныя пытанні. Вывучэнне гэтых фондаў паказвае, што на падставе іх можна ўнесці сур'ёзныя дадаткі ў літаратуру, якая маецца па данаму пытанню.

У сваім паведамленні на гэтым кангрэсе я хачу азнаёміць толькі з асноўнымі папярэднімі, але бясспрэчнымі вывадамі, якія з усёй відавочнасцю выцякаюць з вывучэння ўказаных архіўных фондаў і больш грунтоўна развіваюцца ў спецыяльнай манаграфіі, якая падрыхтоўваецца мною.

Вывады гэтыя наступныя:

1) падаўленне Польшчы праводзілася ў саюзе царскай Расіі, гогенцалернаўскай Германіі і габсбургскай Аўстрыі, прычым у XX в. у б. рускай Польшчы наглядаўся далейшы прыток нямецкіх капіталаў;

2) палітыка Нікалая II у XX в. у адносінах прыгнечання Польшчы няўхільна прадаўжала традыцыі расійскіх імператараў, душыцеляў польскай культуры, Александра II і Александра III;

3) нацыянальная палітыка царызма ў Польшчы, абараняючы інтарэсы рускага памешчыка і фабрыканта, усім цяжарам лажылася на польскі пролетарыят, сялянства і рэволюцыйную інтэлігенцыю, якая змагалася з царызмам;

4) нацыянальны ўціск царызма ў Польшчы знаходзіў рэзкі адпор у асяроддзі расійскага пролетарыята і сялянства, перамогшых у Кастрычніцкай рэволюцыі 1917 г.

Рад законаў царызма першай палавіны XIX в., устанаўліваючых падатковыя льготы для іншакраінцаў, вызваляючых іх ад ваеннай службы, прадстаўляючых танныя будаўнічыя матэрыялы і да т. п., стваралі спрыяючыя ўмовы дзейнасці нямецкіх капіталаў у б. рускай Польшчы. Льготы распаўсюджваліся таксама і пры куплі зямель. Так указам 1865 г. остзейскія немцы ў Польшчы карысталіся правамі рускіх памешчыкаў. У рэзультаце гэтых законаў у Польшчу эмігравалі тысячы нямецкіх сямействаў. Інтэнсіўнае пранікненне нямецкіх капіталаў у польскую прамысловасць не спынялася і ў другой палавіне XIX в. і нават знепакоіла расійскае самадзяржаўе.

У сувязі з гэтым у 1885 г. была створана спецыяльная ўрадавая камісія для распрацоўкі пытання аб мерах абмежавання пераезда іншакраінных пасяленцаў у заходнія акраіны. Яшчэ большай вастрыні гэтае пытанне дасягнула ў 1897 г. Ім заняўся асабіста сам міністр унутраных спраў Гарэмыкін. Па яго сакрэтнаму распараджэнню было прапанавана губернатарам б. Прывісленскага краю сабраць падрабязныя звесткі аб нямецкіх каланістах.

Не гледзячы на непрывычныя для царскіх прыставаў заняткі, урадавая статыстыка выявіла, што нямецкі капітал к канцу XIX в. меў вялікі ўплыў у польскай прамысловасці. Агульны кошт нерухомай маёмасці іншакраінцаў у Варшаве камісіяй вызначаўся ў 53 139 035 руб., з якіх кошт фабрык і заводаў выражаўся ў суме 322 660 30 руб.[1])

Даныя архіва Асобай канцыляры па крэдытнай частцы сведчаць аб росце нямецкіх капіталаў у Польшчы і ў XX в. і яго паспяховую канкурэнцыю з рускімі, польскімі і французскімі капіталамі.

Сумарныя даныя аб стане іншакраінных капіталаў у польскай прамысловасці паказваюць, што напапярэдадні вайны асноўныя капіталы банкаў нямецкай арыентацыі (камерцыйнага банка ў Варшаве, Варшаўскага ўчотнага банка, Лодзінскага гандлёвага банка) складалі 40 міл. руб., у той час, як банкі французскай арыентацыі (банк для гандля і прамысловасці ў Варшаве і Лодзінскі купецкі) вызначаліся ў 6 міл. руб.

Пагоршанне руска-нямецкіх і руска-аўстрыйскіх адносін у пачатку XX в. не ўнесла радыкальных змяненняў у нацыянальную

[1]) Архив М. В. Д. Из докладной записки Варшавского оберполицеймейстера Горемыкину, 1897 г.

палітыку самадзяржаўя ў Польшчы. Наадварот, нацыянальны ўціск царызма ў Польшчы ў XX в. узмацніўся, і ў правядзенні яго Нікалай II рашыў не адступаць да Вільгельма II. Рэзалюцыя апошняга рускага цара, Нікалая II, на дакладзе міністра унутраных спраў Гарэмыкіна у 1896 г. аб становішчы ў Польшчы невыпадкова з'яўлялася праграмай дзейнасці царызма ў XXв. і была навекі знішчана толькі ў рэзультаце перамогі пролетарскай рэволюцыі ў Расіі ў 1917 г.

У дакладзе аб Польшчы, прадстаўленым Гарэмыкіным яшчэ ў той час маладому цару Нікалаю II, даказвалася, што „першачарговай па важнасці задачай кіравання ў дзевяці заходніх губернях, у гэтым спрадвеку рускім, але за доўгі час польскага ўладарства, апалячаным і акаталічаным краі, з'яўляецца яго абрусенне шляхам аслаблення ў ім польскага элемента і падтрымання і ўзмацнення там рускай народнасці і праваслаўя“ [1]).

Нікалаю II гэтае разважанне Гарэмыкіна асабліва спадабалася, і, падкрэсліўшы гэта, рускі цар са шчырым задавальненнем напісаў: „Поўнасцю падзяляю выказаныя ў гэтай запісцы погляды. Перакананы, што пры такіх умовах задача па замацаванню за Расіяй яе заходняй акраіны пойдзе наперад па вернаму і натуральнаму шляху“. Такі шлях заняволення Польшчы быў натуральным для рускага дваранства. Нікалай II, гаспадар „турмы народаў“, чым была дарэволюцыйная Расія, як бачым, зусім не збіраўся здраджваць поглядам сваіх папярэднікаў Александра II і Александра III, для якіх, як аднойчы метка падкрэсліў М.Н. Пакроўскі, „каланіяльная палітыка пануючага памешчыцкага класа была адной з асноўных умоў існавання ў нас на працягу такога доўгага часу памешчыцкай дыктатуры [2]).

Рэволюцыйныя падзеі 1905 г. у Польшчы з відавочнасцю выявілі, што царскі ўрад не мае намеру мяняць сваёй нацыянальнай палітыкі, што заваяванні, вырваныя рэволюцыяй, ён пастараецца вырваць з корнем пры першай магчымасці, любой цаной. Калі, пад уплывам падзей 1905 г. міністр асветы граф Ів. Толстой звярнуўся 24 снежня 1905 г. з дакладнай запіскай аб дазволе ва ўрадавых школах Польшчы карыстацца польскай мовай, лічачы, што гэта „галоўная ўмова заспакаення розумаў і аднаўлення нармальнага жыцця ў краі“ [3]), то перш за ўсё сустрэў апазіцыю з боку варшаўскага генерал-губернатара Скалона, грунтоўна даказваўшага ўтапічнасць прапаноў Толстога. „Нельга выпускаць з-пад увагі—пісаў Скалон,—што ў выпадку задавальнення ў поўнай меры жаданняў польскіх нацыяналістаў па школь-

[1]) Лоцга. Архив Департамента общих дел М. В. Д., д. № 71, 1907 г. с бумагами б. министров внутренних дел.

[2]) М. Н. Покровский. 1905 г., стр. 34, изд. 1930 г.

[3]) Архив министерства народного просвещения. 1906 г., д. 205205

наму пытанню ўрад сам першым прыкладзе руку да ажыццяўлення сістэматычнага плана польскіх дзеячоў стварыць аўтаномію Польшчы“ [1]).

Не дзіўна, што пасля пры адстаўцы Толстога, яго дакладная запіска была адной з прычын адхілення яго ад работ у міністэрстве. Сталыпінская рэакцыя дала тысячы прыкладаў, што царскі ўрад зусім не мае намеру ісці на якія-небудзь уступкі ў нацыянальным пытанні.

Ужо ў маніфесце аб роспуску 2 Дзяржаўнай Думы ярка знайшло адлюстраванне тое, што ўрад і наперад будзе змагацца з нацыянальным рухам. „Створаная для ўзмацнення расійскай дзяржавы,—гаворыць царскі маніфест,--Дзяржаўная Дума павінна быць рускай і па духу, а іншыя народнасці... не павінны і не будуць знаходзіцца ў колькасці, якая дае магчымасць вырашаць чыста-рускія справы“. Гэта ў аднолькавай меры адносілася і да пытанняў унутранага кіравання б. Царства Польскага, якое царскі ўрад разглядаў як „Прывісленскі край“, дзе асобы польскага паходжання былі няроўнапраўнымі грамадзянамі Расійскай імперыі. У б. Царстве Польскім аж да рэволюцыі 1917 г. у асноўным дзейнічалі законы, выданыя яшчэ ў XIX в.

Сталыпінская рэакцыя, якая спрабавала з корнем вырваць заваяванні рэволюцыі 1905 г., увасабляла звярыную нянавісць да ўсяго нярускага. З пункту погляду Сталыпіна, гэтага рускага памешчыка, канчаткова страціўшага розум, мясцовыя ўлады ў б. Царстве Польскім, быццам бы нават вельмі гуманна адносіліся да нацыянальна вызваленчага руху, таму сакрэтным цыркулярам 6 ліпеня 1906 г. Сталыпін забараняў стральбу ўверх баявымі патронам, рэкамендуючы іх скарыстаць па жывых мішэнях. У цыркуляры 26 мая 1907 г. прама гаварылася, што „прымяненне ў патрэбных выпадках сілы зброі зусім не можа быць пастаўлена ў службэбную віну, якая, наадварот, будзе ўгледжана ва ўступчывых адносінах да парушальнікаў парадкаў“. Цыркулярам у студзені 1910 г. прапанавалася дакладна праверыць існуючыя легальныя грамадскія арганізацыі. У 1911 г. зноў напаміналася, што „мясцовыя ўлады Прывісленскага краю занадта прыхільна адносяцца да асоб, вінаватых у праяўленні польскіх сепаратысцкіх тэндэнцый [2]).

Фонды Міністэрства народнай асветы маюць багатыя матэрыялы, якія рысуюць урадавы тэрор у галіне развіцця польскай культуры і навукі. Гэтыя матэрыялы паказваюць, што нярэдка органы царскага Міністэрства асветы былі нават больш рэакцыйны, чым паліцэйскія ўстановы. Калі, напрыклад, у 1906 г. варшаўскі обер-паліцмейстэр дазволіў існаванне таварыства навуковых курсаў (Towaryzstwa Kursow Naukowush), то інспектар

[1]) Архив Мин. Нар. Пр. 1906 г., д. 205205.

[2]) Архив М. В. Д., т. общих дел, Особо-секретная перепіска.

варшаўскага вучылішча ўсяляк дабіваўся ў Пецярбурзе адмены гэтага дазвола. Пад націскам папячыцеля Варшаўскай вучэбнай акругі было закрыта таварыства Szkolna Macierz.

Калі ў 1908 годзе Скалон у пісьме да Сталыпіна згаджаўся на дазвол таварыства „Польская асвета“ (Oswiata Polska), матывуючы тым, што „мясцовая ўлада заўсёды можа фактычна настаяць, каб у Праўленне ўвайшлі пажаданыя для ўрада элементы“ [1]), то, не гледзячы на гэту аргументацыю, Сталыпін усё-ж згадзіўся з думкай міністра Народнай Асветы, які „выказаўся супроць задавальнення хадайніцтваў“. У сувязі з перапіскай аб таварыстве „Oswiata Polska“, Сталыпін лічыў таксама не лішнім напомніць Скалону, што польская школа дазволена ў Прывісленскіх губернях, „але наўрад ці ў інтарэсах урада“ [2]).

Урад не збіраўся ісці на ўступкі ў пытаннях рэформы вышэйшай і сярэдняй школы, хоць, па словах самога папячыцеля Варшаўскай вучэбнай акругі В. Беляева ў 1909 г. „вучэбныя ўстановы знаходзяцца не пад байкотам, а ў сапраўднай аблозе“ [3]).

Наадварот, пасля паражэння рэволюцыі 1905 г. урад імкнуўся ўзмацніць русіфікатарскую палітыку. З гэтай мэтаю распрацоўвалася пытанне і аб выдзяленні Холмскай Русі. Яшчэ на ўсепадданейшай справаздачы ў 1900 г. Люблінскі губернатар Тхоржэўскі адкрыта выбалтываў, што ў барацьбе з нацыянальнавызваленчым рухам ён бачыць адзін выхад—„утварэнне асобнай Холмскай губерні з уключэннем яе ў склад Паўднёва-заходняга краю, уладаючага сродкамі для барацьбы з лаціна-польскай прапагандай ва ўсіх выглядах“ [4]).

У мэтах умацавання свайго панавання самадзяржаўе заўсёды заахвочвала распальванне нацыянальнай варожасці сярод розных народнасцяй, якія жывуць у Польшчы і асабліва гэту дзейнасць разгортвае пасля рэволюцыі 1905 г. З гэтай мэтаю ў 1908 г., па прамове Сталыпіна, інспіруецца скліканне з'езда равінаў б. Прывісленскага краю, які выносіць вернападданіцкі адрас Ніколаю II і атрымлівае ў адказ падзяку ад рускага цара. Паліцэйскія агенты па заданнях з Пецярбурга не мала папрацавалі і ў арганізацыі яўрэйскага байкота, разгарнуўшагася ў 1912 г.

У многіх дакладах агентаў самадзяржаўя з задавальненнем адзначаўся ваяўнічы шовінізм прадстаўнікоў польскай буржуазіі ў адносінах нацыянальных меншасцяй, насяляючых Польшчу (яўрэяў, літоўцаў, беларусаў). Распальванне нацыянальнай розні, як вядома, з'яўлялася адной з важнейшых умоў панавання эксплаататарскіх класаў. Гэты фактар быў важнейшым у аслабленні другой Польшчы—рэволюцыйнай, пролетарска-сялянскай, з якой самадзяржаўе вяло барацьбу не за жыццё, а за смерць. Рашучае падаўленне рэволюцыйнай барацьбы ў Польшчы праводзілася

[1]) Министерсгво Внутренних Дел. Д. Э. Д, 1908 г. № 115.
[2]) Там-жа.
[3]). Лоцма. Секр. Дел. Департамент Нар. Просв. за 1909 г., № 39.
[4]). Мин. Внутр. Дел. Канцелярия Министра, 1901, № 47.

таму, што самадзяржаўе было абаронцам інтарэсаў дваранства і рускай буржуазіі. У правядзенні нацыянальнага ўціска ў Польшчы, самадзяржаўе не выпадкова карысталася падтрыманнем сярод кадэтаў, што дастаткова ярка выявілася, напрыклад, у часе Кракаўскіх ўрачыстасцяй у 1910 г., на якіх прысутнічалі кадэты Родзічаў, Пагодзін і Стаховіч. Зварот на банкеце Серашэўскага ў тосце да Родзічава, што, змагаючыся за аддзяленне Польшчы ад Расіі, палякі разам з кадэтамі змагаюцца за рускую свабоду, як вядома, кончылася вялікім канфузам і публікацыяй ў наступны дзень супярэчання Родзічава ў газетах.

Іменна карыстаючыся такімі адносінамі кадэтаў да польскага нацыянальнага пытання, царызм з адкрытай цынічнасцю вёў сябе пры абгаварэнні пытанняў увядзення ў Польшчы земскага самакіравання, выдзялення Холмшчыны, рэформы школьнай справы і да т. п.

Архіўныя матэрыялы царскага ўрада пераканаўча паказваюць таксама, што царызм у правядзенні нацыянальнага ўціска ўмела скарыстаў у сваіх мэтах збліжэнне з ім у XX в. польскай буржуазіі і памешчыкаў.

Яшчэ да разгортвання падзей у красавіку 1905 г. ў сакрэтным дакладзе дырэктара дэпартамента агульных спраў на імя міністра ўнутраных спраў, указвалася, што „справе збліжэння польскай акраіны з Расіяй больш за ўсё перашкаджае гарадское насельніцтва, каталіцкае духавенства і беззямельныя сяляне тады як варожыя раней да рускай дзяржавы настроі мясцовых земляўладальнікаў, у асаблівасці больш заможных, заметна знікаюць“ 1). Моцны размах рэволюцыйнага руху ў Польшчы наглядна выявіў, хто з'яўляецца сапраўдным барацьбітом з царызмам. У рапарце ўрадаваму Сенату ў 1907 г. Варшаўскі генерал-губернатар Скалон з радасцю апісваў, як лодзінскія фабрыканты субсідыравалі яго грашыма на падаўленне рэволюцыі: „Г. Лодзь,—пісаў Скалон,—прадстаўляў з сябе ў той час адзін з найбольш небяспечных ачагоў рэволюцыі, але там удалася дасягнуць згоды з мясцовымі фабрыкантамі і ўладальнікамі нерухомасці і прамысловых устаноў, якія дабравольна асігнавалі значную суму грошай на ўзмацненне паліцыі, што адразу змяніла становішча і дало магчымасць шляхам паспяховага розыска дабіцца амаль поўнага заспакаення ў Лодзі“ 2).

Нацыянальная палітыка самадзяржаўя ў Польшчы поўнасцю адказвала настроям і мясцовай царскай адміністрацыі Польшчы. Сталыпін у Пецярбурзе, Скалон у Варшаве добра разумелі адзін аднаго і ведалі, што суровыя рэпрэсіі ўрада накіраваны супроць польскага рабочага класа, як гегемона рэволюцыйнай барацьбы, які ў саюзе з працоўнымі масамі вёў смяротную барацьбу з царыз-

1). Архив Октябрской революции. Московское охранное отделение. Обзор польского революционного движения за 1910—1912 гг. стр. 65.

2). Делопр. Департамента Сената, 1908 г. д. 932/4402.

мам за соцыялістычнае пераўтварэнне грамадскіх адносін, назаўсёды знішчаючых нацыянальны ўціск і няроўнасць. Што-ж датычыцца польскіх памешчыкаў і буржуазії, то ў іх канкурэнцыі з рускім памешчыкам і буржуазіяй, перад тварам агульнай небяспекі знішчэння капіталістычнага лада, знаходзілася агульная мова. Рашуча падаўляючы і разбураючы рэволюцыйныя арганізацыі Царства Польскага, царскі ўрад, напрыклад, дазволіў легальнае існаванне партыі рэальнай палітыкі (Polske Stronnictwo Poiltyk Realnej (угодаўцы), або польскай прагрэсіўнай партыі (Polska Partia Postępowa).

У нацыянальнай палітыцы самадзяржаўе заўсёды адрознівала антаганізуючыя паміж сабою „дзве Польшчы"—кансерватыўную і рэволюцыйную.

Царскі ўрад вельмі зорка сочыць за развіццём гэтай другой Польшчы, кіруемай пролетарыятам, які на сцягу сваёй барацьбы нёс барацьбу за соцыялістычную перабудову грамадства і знішчэнне нацыянальнага ўціска.

Яшчэ ў дакладзе Александру III у 1892 г. варшаўскі генерал-губернатар Гурко, прызнаючы, што „руская ўлада ў краі трымаецца толькі выключна дзякуючы яе магутнасці", указвае, што самымі неблаганадзейнымі з'яўляюцца шматлікі гарадскі пролетарыят і маса беззямельных сялян, не адабрадзеных зямельным надзелам па ўказу 19 лютага 1864 г.[1]) Асабліва зорка царскі ўрад сочыць таксама за ўстанаўленнем сувязяй другой Польшчы—рэволюцыйнай, з другой Расіяй—таксама рэволюцыйнай, якая не менш польскага рабочага і селяніна ненавідзела самадзяржаўе і яго палітыку нацыянальнага уціска. Царскі ўрад добра разумеў, што знішчэнне нацыянальнага ўціска ў Польшчы знаходзіцца ў залежнасці ад сілы саюза рэволюцыйнага руху ў Польшчы, з рэволюцыйнай барацьбой пролетарыята ў Расіі. „Ужо два папярэднія гады,—гаворыцца ў адным з аглядаў,—паказалі, што грамадскае жыццё Царства Польскага знаходзіцца ў самым цесным судатыканні з такім жа жыццём унутраных губерній Расіі. Усякае грамадскае хваляванне ў гэтых губернях адбіваецца на польскай акраіне ў асбаліва ўзмоцненых размерах" [2]).

Не ў меншай ступені рэволюцыйны рух у Польшчы ўплываў на развіццё рэволюцыйнай барацьбы ў Расіі. Як вядома, выступленне польскіх прадстаўнікоў на паседжанні Пецярбурскага Совета Р. Д. у 1905 г. адыграла вялікую ролю ў аб'яўленні лістападаўскай забастоўкі ў 1905 г., пратэставаўшай супроць жорсткіх рэпрэсій царызма ў адносінах Польшчы.

Расійская соціал-дэмакратычная партыя большэвікоў заўсёды вяла няўхільную барацьбу з царызмам за ліквідацыю нацыянальнага ўціска. Ленін заўсёды лічыў, што „нейвялікшым злачынствам

[1]) Архив М.В.Д. Департамент общих дел. 1890 г., д. по № 256.

[2]) АОР. Моск. Охр. Отделение. Обзор польск. рев. движения за 1905 г., состав В. Жижиным.

было тое, што Польшча была падзелена паміж нямецкім, аўстрыйскім і рускім капіталам, што гэты падзел асудзіў польскі народ на доўгія гады прыгнечання"[1]). На II з'ездзе ў 1903 г. Ленін, усведамляючы вастрыню нацыянальнага пытання, даваў ўзоры сапраўднага пролетарскага інтэрнацыяналізма і крытыкаваў польскіх соцыял-дэмакратаў за іх памылковыя ў той час погляды па нацыянальнаму пытанню, якія былі „настолькі няпэўнымі, што замест самавызначэння прапанавалі, па сутнасці справы, не што іншае, як псеўдонім праслаўтай „культурна-нацыянальнай аўтаноміі[2]). Калі ў тым жа 1903 г. з боку ППС былі кінуты абвінавачанні РСДРП (Расійская Соцыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя), што яна адмаўляе самастойнасць Польшы, Ленін рашуча супярэчыў супроць гэтага.

Ленін падкрэсліваў, што прагграма РСДРП ніколькі не выключае таго, каб польскі пролетарыят ставіў сваім лозунгам свабодную і незалежную рэспубліку польскую"[3]). Гэта пазіцыя большэвікоў цалкам абараняла і развівала погляды Маркса і Энгельса ў нацыянальным пытанні, што „інтэрнацыянальны рух пролетарыята наогул магчымы толькі ў асяроддзі самастойных нацый... што інтэрнацыянальнае супрацоўніцтва магчыма толькі паміж роўнымі"[4]).

Ленін услед за Марксам раз'ясняў, што толькі пролетарская рэволюцыя, грунтуючаяся на прынцыпах інтэрнацыяналізма і нічога агульнага не маючая з буржуазным нацыяналізмам, сапраўды здольна даць сапраўдную незалежнасць народам і свабоднае развіццё іх нацыянальнай культуры. Рэволюцыйная соцыял-дэмакратыя ніколі не фетышызавала нацыянальнае пытанне, а ўскрывала яго ўнутраны змест.

Большэвікі ўказвалі, што вырашэнне нацыянальнага пытання па-за пролетарскай рэволюцыяй з'яўляецца абманам мас і замаскаванай формай падчынення таму або іншаму імперыялістычнаму драпежніку. У бліскучых работах, напісаных Леніным і Сталіным у 1912—14 гг., суміруючых вопыт барацьбы рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі, прыведзена пазіцыя па нацыянальнаму пытанню сапраўдных соцыялістаў усіх краін света і на сённяшні дзень. „Змагаючыся за права нацый на самавызначэнне,—пісаў І. Сталін у 1913 г.,—соцыял-дэмократыя ставіць сабе мэтаю пакласці канец палітыцы прыгнечання нацый, зрабіць яе немагчымай і тым падарваць барацьбу нацый"[5]), указваючы ў гэтым-жа

1) Ленин, Собр. соч., т. XXV. Речь на I всероссийском с'езде трудовых казаков в 1920 г., стр. 8. Изд. Москва. 1928 г.

2) Ленин. Собр. соч. т. XVII. О праве наций на самоопределение, стр. 466, изд. Москва, 1929 г.

3) Ленин. Сбор., соч. т. V. Национальный вопрос в нашей программе, стр. 342. Изд. Москва. 19 8 г.

4) Архив Карла Маркса и Фр. Энгельса, т. I (VI). Москва, 1932 г. из письма Энгельса к Каутскому 7 февраля 1872 г., стр. 190.

5) Часопіс „Просвещение" Спб. 1913г. № 3. Из статьи „Национальный вопрос и социал-демократия".

росквіт творчасці любога паэта, шлях неадрыўнае сувязі з працоўнымі масамі, з іхнай практыкай соцыялістычнага будаўніцтва.

„Над ракою Арэсай“ дае нам упэўненасць казаць, што паэт стаў на гэты шлях, і тым самым дае нам права чакаць ад паэта яшчэ большых па сваёй мастацкай сіле і ідэёвай насычанасці твораў пра героіку нашых дзён, пра людзей, герояў соцыялістычнага будаўніцтва.

*ПЛАТОН ГАЛАВАЧ.*

## „ПЕРШЫ ВЫТАП“—збор вершаў Люгоўскага і Жалезняка.

Першая кніжка Бр. Люгоўскага і Рыгора Жалезняка, выданая Віцебскім аргкамітэтам ССПБ, па-першае, ёсьць канкрэтны паказальнік работы Віцебскай арганізацыі і, па-другое, яшчэ раз з новай сілай абавязвае не толькі крытыкаў, але і пісьменнікаў сур'ёзна заняцца канкрэтнай творчай дапамогай маладому аўтару.

Менавіта ў сувязі з кніжкай „Першы вытап“ хочацца яшчэ раз падкрэсліць, што вучоба маладога аўтара ў нашай пісьменніцкай арганізацыі амаль не пастаўлена, пра яе больш гавораць, чым робяць канкрэтна. А гэтая работа ёсьць, па-сутнасці, асноўнае стымуляванне роста нашай совецкай літаратуры, г. зн., кожны зацікаўлены ў развіцці совецкай літаратуры павінен рабіць усё магчымае ў сэнсе работы з маладым і пачынаючым аўтарам. Кніжка „Першы вытап“ кожным сваім радком, кожнай сваёй страфой сведчыць аб значных літаратурных магчымасьцях маладых паэтаў, але—разам з гэтым—аб невыстарчальнасці літаратурнага, так сказаць—„тэхнічнага“ „умельства“. У эпоху магутнага асваення тэхнікі ва ўсіх галінах вытворчасці гэта падкрэсліваць трэба выразна і моцна. Асваенне матэрыяла, асваенне тэхнікі пісьменніцкага рамяства і майстэрства—гэта, зразумела, не ўсё, але без гэтага няма літаратуры, літаратуры мастацкай. І нарэшце нам трэба вучыць пісьменнікаў усякіх літаратурных „узростаў“ рабіць сваё слова як мага гастрэйшым, што без асваення вышыняў пісьменніцкага майстэрства зрабіць амаль немагчыма.

Не глядзячы на тое, што вершы Люгоўскага крыху розняцца ад вершаў Жалезняка і тэматыкай, і рытмікай, і, кажучы больш, іншымі кампанентамі стылістыкі вершу, аднак, яны маюць аднолькавыя недахопы, аднолькавыя зрывы, што дае падставу думаць, што гэтыя недахопы. тыповыя для двух, з'яўляюцца тыповымі і для большасці наогул маладых (дый не толькі маладых) паэтаў.

Вершы Люгоўскага і Жалезняка „подкупают“ перш за ўсё акутальнасцю тэматыкі, але актуальнасць тэматыкі—гэта яшчэ далёка не ўсё. Канстатуючы гэтую дадатную якасць вершаў, трэба, аднак, сказаць, што паасобныя палітычныя матывіроўкі задужа наіўныя (прыкладам, верш Люгоўскага „Пра хлеб і матулю“) што сведчаць і аб недастатковай палітычнай глыбіні твораў.

Але самы асноўны мінус у тым, што актуальнасць тэматычную аўтары не ўмеюць яшчэ спалучаць з паэтычнасцю вершаванага радка, сэнсавы эквівалент, так сказаць, нераўнацэнны паэтычнаму, у выніку чаго змяншаецца (агаляецца да звычайнага зрыфмаванага лозунга) і палітычная функцыянальнасць твораў. Вось чаму цікава задуманы верш Рыгора Жалезняка „Марка Георг Гехорт" збіваецца на рэшце на трафарэт:

Рабочымі кварталамі
Наперад руш!

Гэта тычыцца пераважнай большасці змешчаных у зборніку вершаў.

Аднак—варта спыніцца на прыгаданым вершы Жалезняка, бо ён усё-ж у большай меры пазбаўлены іншых недахопаў. Гэты верш вызначаецца тым, што тут аўтар спрабуе даць сюжэт, спрабуе ўзяць барацьбу нямецкага пролетарыята праз канкрэтны выпадак праз канкрэтную фігуру. Менавіта гэты верш дае пэўную перспектыву на паэтычны рост Жалезняка. Чаму гэта так? А таму, што—

„Наша айчына—
Край пяцігодкі.
Гарапь Днепрабуды
Зарой...
Грыміце, гудкоў
Неспакойныя глоткі: (?),
Мы сёння
Гатовы у бой.

(Люгоўскі)

альбо:

Ход краіны шкоднік не паслабіць,
Машыністы, слухайце наказ:
Поўны ход саставам
На Чэлябінск,
Кузнецкбуд,
Урал,
Данбас.

(Жалязняк)

альбо:

Даёш матор,
Узлёт ліхі,—
Штурмуем сінь!

—вось гэткія строфы—надзвычай характэрныя для ўсяго зборніка. Тут—лёгкая праходка па рэчаіснасці, агульшчына, сухі, пазбаўлены эмоцыі лозунг, а ў вершы „Марка Георг Гехорт"—паўтараю—стаўка на канкрэтны факт і канкрэтную фігуру. Гэта дужа важна. Нашым паэтам, думаецца мне, бракуе на канкрэтнасць, багата ёсьць агульшчыны і жадання ахапіць у адным вершы усё і ўся. Безумоўна, гэткі род паэзіі, як:

Штурмуйце, ваганеткі.
Шуміце, пасы!

— самы лёгкі для перайманьня, і маладыя аўтары некрытычна ставяцца да яго. Але „Штурмуйце, ваганеткі“ маюць простае дачыненне да „грыміце, гудкоў неспакойныя глоткі, ці „штурмуем сінь“, і гэта яшчэ не з'яўляецца паэзіяй для тых людзей, хто выступае за глыбокі і гостры паказ рэчаіснасці праз тыповы, канкрэтны факт. Тут міжволі напрошваецца паралель. Маладым аўтарам трэба высока ацэньваць гэткія паэтычныя рэчы, як, скажам, „Над ракой Арэсай“ Янкі Купалы, ацэньваць і бачыць, што сіла гэтай паэмы менавіта ў тым, што зроблена яна на паэтычнаасэнсаваных канкрэтных фактах нашай соцыялістычнай рэчаіснасці.

Глыбей разумець рэчаіснасць, умець „В любом отделении милиции революцию мировую найти“, браць факт і раскрываць яго ва ўсіх дачыненнях да працэсаў рэчаіснасці—вось асноўнае. У гэтым напрамку таварышам Жалезняку і Люгоўскаму трэба працаваць упарта.

Трэба працаваць ім і ў напрамку падвышэння тэхнічнай якасці сваіх твораў, уважліва ставіцца да слова, бо прыкладам страфу:

А сэрца прагне (?):
— Больш металю,
Кіпучай сталі
І агню!

— ніяк нельга лічыць мастацкай, бо па-першае, і „сэрца“ тут не пры чым, дый, па-другое, „кіпучая“—эпітэт з досыць вялікім стажам, як і „звонкі“, „галасісты“ ды інш.

Усё сказанае, такім чынам, зводзіцца да аднаго: трэба вучыцца.

Гэта найбольш гострае пытанне для далейшага паэтычнага роста Люгоўскага і Жалезняка. Трэба працаваць так, каб пры „другім вытапе“ было менш шлака. А зрабіць гэта таварышы могуць.

*БАРЫС МІКУЛІЧ*

## ЗМЕСТ

*Стар.*



### Крытыка і бібліяграфія



---

